

*Якопо Бассано. Уцёкі ў Егіпет.*
*1534 г. Палатно, алей. 198х183 см.*
*Бассано дэль Граппа, Гарадскі музей.*

Кс. Ян Твардоўскі

# Веру

Веру ў беспрычынную радасць
калі проста весела
у анёла што з неба зваліўся пакачацца ў снезе
у сэрца што хоча ўсяго і яшчэ чаго-небудзь
ва ўсмешку
што нехта прыдумаў сабе канец свету
і яшчэ кажа што будзе потым і навошта ўсё гэта
у маці якая знікла за варотамі ў садзе
у праўдзівага Бога без доказаў і дазнанняў
які не любіць пра сябе разважанняў

*Пераклад з польскай мовы*
*Дануты Бічэль.*



У нумары 4/2012

## НАША ВЕРА

# Новая евангелізацыя для перадачы хрысціянскай веры

## XIII Звычайны Сінод Біскупаў (Рым, 7–28 кастрычніка 2012 г.)

7 кастрычніка 2012 г. Святы Айцец Бэнэдыкт XVI падчас урачыстай святой Імшы на плошчы св. Пятра распачаў XIII Звычайны Сінод Біскупаў. Тэма Сіноду — «Новая евангелізацыя для перадачы хрысціянскай веры». Сінод Біскупаў з'яўляецца дарадчай інстытуцыяй, якую заснаваў папа Павел VI у 1965 годзе. Гэта сход прадстаўнікоў епіскапатаў усяго свету, кіраўнікоў ватыканскіх дыкастэрый, дэлегатаў Рады Вышэйшых настаяцеляў манаскіх супольнасцяў, экспертаў, аўдзітараў і свецкіх. Такім чынам, Сінод Біскупаў — гэта вельмі яркае праяўленне калегіяльнасці епіскапату на чале з Папам. Мэта Сіноду — абмеркаванне найбольш актуальных справаў і праблемаў з жыцця Касцёла і апрацоўка прапановаў, на аснове якіх Папа рыхтуе Апостальскую адгартацыю, дзе прадстаўляе шляхі іх вырашэння. Такім чынам, Сінод дапамогае Папу ў кіраванні Касцёлам.

У кастрычніцкім Сінодзе прынялі ўдзел 370 чалавек, з якіх 272 — айцы Сіноду, біскупы і святары. Падрыхтоўка да кожнага Сіноду пачынаецца з апрацоўкі так званага *Lineamenta* — базавага тэксту, у якім акрэсліваецца тэма будучага Сіноду ў розных яе аспектах. Да яго далучаецца анкета з пытаннямі, на якія адказваюць Канферэнцыі Біскупаў, ватыканскія дыкастэрыі, Рады Вышэйшых настаяцеляў манаскіх супольнасцяў, тэолагі, свецкія асобы, законнікі і святары.

На аснове гэтых адказаў рыхтуецца *Insrtumentum laboris*, які рассылаецца Канферэнцыям Біскупаў і ўдзельнікам Сіноду. Гэта арыентацыйны дакумент, паводле якога на Сінодзе праходзяць дыскусіі.

Чытаючы знакі часу, Папа звяртае ўвагу Касцёла на неабходнасць адказаць на глыбокі крызіс веры, які пануе ў сённяшнім свеце. На працягу трох тыдняў удзельнікі Сіноду разважалі над праблемаю абвяшчэння слова Божага ў сучасным свеце, каб адрадзіць і ўмацаваць у ім веру.

У гаміліі з нагоды распачацця Сіноду Біскупаў Пантыфік падкрэсліў, што цэнтральным пунктам евангелізацыі з'яўляецца Езус Хрыстус, якога неабходна нястомна абвяшчаць. Касцёл, паводле словаў Папы, існуе для евангелізацыі. Бог заўжды абуджаў у ім дынамізм евангелізацыйнай дзейнасці. Святы Айцец дадаў, што і ў наш час, асабліва дзякуючы Другому Ватыканскаму Сабору, Дух Святы абуджае новы подых, каб абвяшчаць Добрую Навіну і тым, хто яе не ведае, і тым, хто адышоў ад яе.

Папа даверыў працу Сіноду Марыі — Зорцы новай евангелізацыі — і вялікім евангелізатарам, сярод якіх неабходна вылучыць благаслаўлёнага Яна Паўла II, чый доўгі Пантыфікат стаў прыкладам новай евангелізацыі, і прасіў Святога Духа, каб Ён асвячаў працу Сіноду.

На наступны дзень пасля ўрачыстага адкрыцця Сіноду Біскупаў распачалася яго праца. На першым пасяджэнні Святы Айцец Бэнэдыкт XVI падкрэсліў, што слова «Евангелле» (пагрэчаску εν᾽αγγέλιον) азначае таксама і перамогу. Гэта мае вялікае і непрамінальнае значэнне, бо Евангелле вядзе да перамогі над злом. Папа дадаў, што, каб евангелізаваць, неабходна мець Божы дух, гарэць агнём евангелізацыі.

Галоўны рэлятар Сіноду арцыбіскуп Вашынгтона кардынал Дональд Вюрл, чый даклад быў уводзінамі ў працу Сіноду, падкрэсліў, што секулярызацыя выклікае ў чалавека своеасаблівы голад і таму можа стаць шанцам для новай евангелізацыі. Вашынгтонскі іерарх нагадаў, што цэнтральнае месца ў евангелізацыі займае Хрыстус і Яго Евангелле, а таксама прадстаўлены Ім новы стыль жыцця і спосаб існавання. Дакладчык звярнуў увагу на драматычныя змены ў сучасным свеце, у тым ліку і адыход ад рэлігіі. Прычынаю гэтага, паводле яго словаў, з'яўляюцца недахопы катэхізацыі ў 70–80-я гады мінулага стагоддзя. Недастаткова казаць, што Бог нас любіць і мы любім Бога — людзей трэба весці да веры ў Езуса Хрыста. У выніку секулярызацыя выхавала два пакаленні людзей, якія не ведаюць асноўных малітваў, не бачаць сэнсу ўдзельнічаць у святой Імшы і сакрамэнтах. Вернікі не гатовыя адказаць на выклікі новай культуры, пазначанай секулярызмам, матэрыялізмам і індывідуалізмам. Аднак у гэтай цемры ёсць і святло, бо многія людзі бачаць, што секулярыза-



Падчас святой Імшы, якою распачаўся Сінод.

ваны свет не дае адказу на пытанні іх сэрцаў.

Падчас Сіноду ў выступленнях біскупаў узнімаліся найбольш важныя праблемы новай евангелізацыі. У выніку былі зробленыя наступныя высновы.

Галоўная задача новай евангелізацыі — прывесці чалавека да сустрэчы з Езусам, і цэнтральнае месца ў ёй павінна займаць слова Божае. Гэта місія Касцёла, які павінен даводзіць людзям, што змест Евангелля не змяняцца са зменаю ладу жыцця, бо Хрыстус заўсёды той самы і маральныя праўды нязменныя. На жаль, у наш час чалавек імкнецца змяніць іх, вырашаючы нават, каму і калі нарадзіцца або памерці. Але новыя сцэнарыі жыцця не могуць змяняць Касцёла, ён сам павінен несці праз іх Евангелле.

Жыццё Касцёла і яго інстытуцыі занадта бюракратызаваныя, што перашкаджае іх эфектыўнай дзейнасці, таму неабходна больш плённа выкарыстоўваць евангелізатарскія магчымасці літургікі, цэлебрацыі сакрамэнтаў, пахаванняў і г.д., больш увагі звяртаць на значэнне для новай евангелізацыі традыцыйнай народнай пабожнасці, ачышчанай ад розных не рэлігійных практыкаў.

Трэба звяртаць больш увагі на абвяшчэнне Евангелля хрысціянскім сведчаннем, каб такім чынам яно перамяняла чалавека. Памятаючы пра тое, што першымі словамі Хрыста да апосталаў былі «ідзіце за Мной», а апошнімі — «ідзіце і навучайце», у працэсе евангелізацыі неабходна найперш самім з мэтаю духоўнай перамены пайсці за Хрыстом, каб потым несці Яго людзям. На пытанне, што нядобра ў сучасным свеце, мы часта чуем: эканоміка, палітыка, сацыяльная несправядлівасць і г.д. Аднак у святле Божай праўды адказ павінен быць наступны: «Я сам». Таму евангелізацыю іншых людзей трэба распачынаць з сябе саміх, і гэтаму павінны спадарожнічаць адвага і евангельскі аптымізм. Евангелізацыя немагчымая без духу пакоры і асабістага навяртання. Наш час патрабуе вяртання да сакрамэнту пакаяння, які амаль дэвальваваўся.

Працэс новай евангелізацыі павінен грунтавацца на адраджэнні духоўнасці — святасці і сведчанні аб ёй. Шлях новай евангелізацыі — дабрачыннасць, бо справы міласэрнасці змяняюць сэрцы людзей. Для паспяховай евангелізацыі неабходная адпаведная фармацыя святароў. На жаль, многія хрысціяне, у тым ліку і духоўныя асобы, згубілі евангелізацыйны дух. Новую евангелізацыю неабходна праводзіць *ad intra* і *ad extra* — евангелізуючы самога евангелізатара і тых, да каго ён ідзе. Немагчыма рухацца па гэтым шляху без дзеяння Святога Духа. Неабходна прысвяціць свет Духу Святому, каб жыць духам новай Пяцідзясятніцы.

Галоўную ролю ў евангелізацыі адыгрывае парафія — месца сустрэчы чалавека з Богам. Сям'я, якая павінна быць хатнім Касцёлам, з'яўляецца першым евангелізатарам.



Працэсія біскупаў на святую Імшу, якою распачаўся Год веры.
Тым самым шляхам ішлі біскупы на адкрыццё II Ватыканскага Сабору 50 гадоў таму.



У зале пасяджэнняў Сіноду.

Свет патрабуе духоўнай рэвалюцыі, і яе можа стаць новая евангелізацыя праз культуру і навуку, мастацтва і спорт і г.д. Асабліваe месца ў новай евангелізацыі павінны займаць сродкі сацыяльнай камунікацыі як новы арэапаг і новая амбона сучаснага свету. Іх неабходна выкарыстоўваць як для абвяшчэння Божага слова, катэхізацыі, так і для малітвы, евангелізуючы і свецкія СМІ. Важнае месца павінны займаць пілігрымкі і санктуарыі.

Сучасны свет чакае выйсця з рэлігійнага анальфабэтызму. У ім дэмакратыя становіцца новым «богам», у імя якога парушаюцца правы вернікаў. Глабалізацыя таксама адзін з найбольш значных выклікаў сучаснасці, бо закранае не толькі эканоміку і палітыку, але таксама і культуру, і таму Касцёл павінен прысутнічаць у кожнай культуры, каб дзейсна абвяшчаць Божае слова і весці чалавека да сустрэчы з Богам. Мы перажываем парадокс: усё больш з’яўляецца каталіцкіх навучальных установаў, а вера становіцца ўсё слабейшай. Сучасны чалавек многае ведае пра Бога, але, на жаль, не ведае Бога, таму неабходна пазнаваць Яго і жыць Ім. Вялікім выклікам для новай евангелізацыі з’яўляецца міграцыя. З аднаго боку, мігранты прыносяць жывую веру ў секулярызаваныя краіны, з другога — яны знаходзяцца пад уплывам секулярызму і хутка трацяць веру. Таму трэба інтэнсіфікаваць душпастырства мігрантаў.

Асаблівым госцем Сіноду стаў Прымас Англіканскай Царквы арцыбіскуп Роўэн Уільямс, які ў сваім выступленні закрануў праблемы новай евангелізацыі з пункту гледжання Англіканскай Царквы. Паводле словаў іерарха, евангелізацыя дапамагае Касцёлу адрадзіцца. Гуманізм не заменіць яе свету, а евангелізацыя найперш патрабуе нашай асабістай рэевангелізацыі. Прымас Англіканскай Царквы вельмі высока ацаніў плён Другога Ватыканскага Сабору, які дапамог Касцёлу аднавіцца, і падкрэсліў значнасць Дэкрэту аб экуменізме як шляху да еднасці хрысціянаў.

Яшчэ адным шаноўным госцем Сіноду стаў лаўрэат Нобелеўскай прэміі, прафесар швейцарскага ўніверсітэта мікрабіялогіі Вэрнэр Арбэр, які прачытаў даклад на тэму адносінаў паміж верай і навукай, падкрэсліваючы, што сучасная навука не мае адказу на фундаментальныя пытанні аб стварэнні свету і жыцця з нічога. Паводле словаў навукоўца, вера і навука павінны дапаўняць адна адну.

Асобнай і вельмі значнай падзеяй працы першага тыдня Сіноду было святкаванне 50-годдзя Другога Ватыканскага Сабору і абвяшчэнне Году веры, мэта якога — вывесці сучаснага чалавека з духоўнай пустыні і паказаць яму прыгажосць веры.

Падчас набажэнства выступіў Канстанцінопальскі патрыярх Барталамей I, які вучыўся ў Папскім Усходнім інстытуце ў Рыме і быў членам дэлегацыі Канстанцінопальскага Патрыярхату на II Ватыканскім Саборы.

Першы тыдзень Сіноду паказаў, што Касцёл не ўцякае ад праблемаў, але імкнецца іх вырашаць. У сувязі з гэтым яго правядзенне трэба лічыць вялікай Божай ласкай. Касцёл добра разумее, што сёння перад хрысціянствам стаіць шэкспіраўскае пытанне «*To be or not to be*» — «Быць альбо не быць». Прызнанне сваіх слабасцяў і нават віны — гэта знак сілы, бо толькі прызнаўшы хваробу і паставіўшы дыягназ, можна яе вылечыць.

Айцы Сіноду ўжо прапанавалі нямала лекаў ад хваробы секулярызму і дыктатуры лібералізму. Найперш, аднак, трэба памятаць аб тым, што мэта евангелізацыі —прывесці чалавека да Хрыста, а для гэтага біскупы, святары, евангелізатары і катэхізатары самі павінны жыць Хрыстом, быць сведкамі таго, што абвяшчаюць. У іх павінна гарэць евангелізатарскае полымя.

Падчас другога тыдня працы Сіноду біскупы ў сваіх выступленнях закраналі наступныя тэмы.

Нядзельная св. Імша павінна знаходзіцца ў цэнтры новай евангелізацыі — неабходна адрадзіць ролю літургіі, якая з’яўляецца прывілеяваным месцам сустрэчы чалавека з Езусам. *Ars celebrandi* — мастацтва літургіі —

гэта найлепшы спосаб евангелізацыі, як і найлепшая катэхеза аб Эўхарыстыі — сама Эўхарыстыя.

Касцёл евангелізуе праз сваю дзейнасць, праз сакрамэнты, жыццё праўдаю Хрыста, абвяшчэнне слова Божага. Ён павінен быць адкрыты на ўсіх людзей. Неабходна грунтоўная катэхізацыя дарослых і асабліва моладзі, каб супрацьстаяць уплыву неабмежаванай свабоды. У дзейнасці Касцёла неабходна больш задзейнічаць лаікат (свецкіх вернікаў), заахвочваючы моладзь евангелізаваць сваіх аднагодкаў, аднаўляючы ў парафіях дух місіянерства і ўмацоўваючы касцёльную супольнасць (камунію). Працу трэба распачынаць з сям'і — неабходна развіваць душпастырства сем'яў, не выключаючы і разведзеных сужэнцаў. Яшчэ адной крыніцай евангелізацыі могуць стаць сведчанні хворых і церпячых вернікаў.

Прыклад святых — імпульс для новай евангелізацыі, сведчанне мучанікаў — яе багацце. Яна патрабуе і новых святых евангелізатараў, якія жывуць Евангеллем, умеюць весці дыялог з новай культурай. Евангелізатар павінен быць укаранёным у Хрыста і заўжды памятаць, што ён абвяшчае не сваё Евангелле, а Евангелле Хрыста, ставячы ў цэнтр евангелізацыі не самога сябе, але Бога. Таму, каб быць настаўнікамі веры, неабходна быць людзьмі веры. Перад Касцёлам стаіць заданне так выхоўваць вернікаў, каб, заняўшы высокую пазіцыю ў грамадстве, напрыклад, у палітыцы, яны дзейнічалі згодна з маральным законам. Многія адыходзяць ад веры, бо былі ахрышчаныя, але не выхаваныя ў веры. Таму сёння шмат ахрышчаных, але мала евангелізаваных.

Касцёлу, каб быць евангелізацыйным, трэба шырэй выкарыстоўваць СМІ, дзеля чаго неабходна клапаціцца аб падрыхтоўцы адпаведных спецыялістаў. Сродкі масавай інфармацыі павінны адыгрываць усё большую ролю ў евангелізацыі, але неабходна іх духоўнае развіццё.



Прамаўляе Канстанцінопальскі патрыярх Барталамей I.

Каталіцкі Касцёл адчувае вялікую патрэбу супрацьстаяць сектам, таму неабходна заняцца падрыхтоўкай добра адукаваных кадраў.

Вялікай перашкодай у новай евангелізацыі ў некаторых краінах з'яўляецца пераслед хрысціянаў.

Выступленні айцоў Сіноду былі ўзбагачаныя выступленнямі дэлегацый братніх Цэркваў. Асаблівае значэнне мела выступленне старшыні Аддзела знешніх царкоўных сувязяў Маскоўскага Патрыярхату мітрапаліта Іларыёна. Іерарх адзначыў, што супрацоўніцтва хрысціянскіх веравызнанняў дае новыя магчымасці для абвяшчэння Евангелля, і што праваслаўныя і католікі пакліканы разам бараніцца ад выклікаў і нападаў сучаснасці. Мітрапаліт заклікаў да стварэння сумеснага фронту для абароны хрысціянскай веры.

Прадстаўнік баптыстаў нагадаў аб значэнні мучанікаў. Прадстаўнік Метадысцкай Царквы сказаў, што поспех евангелізацыі залежыць ад даверу да евангелізатара. Прадстаўнік Румынскай Праваслаўнай Царквы гаварыў пра значэнне літургіі, дабрачыннасці і святасці як «антыдоту» ад секулярызму. Прыёр экуменічнай супольнасці Тэзэ брат Алоіз Лозэр падкрэсліў, што супольная малітва розных хрысціянаў вядзе да адзінства і з'яўляецца добрым сведчаннем евангелізацыі.

Таму новая евангелізацыя патрабуе экуменічнага вымярэння, і для яе неабходныя сумесныя намаганні розных хрысціянскіх Цэркваў, асабліва супрацоўніцтва з Рускай, Канстанцінопальскай, Сербскай і Румынскай Праваслаўнымі Цэрквамі, а таксама — міжрэлігійны дыялог.

Напрыканцы ўсіх выступленняў Генеральны дарадчык Сіноду кардынал Дональд Вюрл у чатырох пунктах падсумаваў іх вынікі:

— прырода новай евангелізацыі заключаецца ў дзеянні Святой Тройцы з мэтаю перадачы веры;

— місія Касцёла ў наш час заключаецца ў тым, каб прывесці чалавека да Хрыста;

— пастырскі адказ на праблему новай евангелізацыі заключаецца ў ажыццяўленні духоўнага аднаўлення людзей з мэтаю дапамагчы іх асабістай сустрэчы з Хрыстом;

— пратаганістамі новай евангелізацыі з'яўляюцца: парафія, сям'я, святары, кансэкраваныя асобы, катэхізатары, свецкія вернікі, СМІ, феномен міграцыі і г.д.

Падчас працы Сіноду ў малых моўных групах іх удзельнікі канкрэтызавалі сваё бачанне новай евангелізацыі і падкрэслілі галоўнае, на іх погляд, каб выпрацаваць прапановы для Святога Айца.

У межах трэцяга тыдня працы Сіноду Біскупаў малыя моўныя групы падрыхтавалі 326 прапаноў, з якіх быў зроблены адзіны спіс з 57 пунктаў. Генеральны дарадчык Сіноду кардынал Дональд Вюрл і спецыяльны сакратар Сіноду арцыбіскуп П'ер-Мары Каррэ прадставілі ўдзельнікам гэтыя прапановы. Пасля ўнясення паправак спіс прапаноў быў пашыраны да 58 пунктаў. Былі выбраны 12 членаў рады па падрыхтоўцы вынікаў Сіноду — па тры ад Еўропы, Амерыкі, Афрыкі, Азіі і Акіяніі. Потым Папа прызначыў яшчэ траіх, у тым ліку і вярхоўнага арцыбіскупа Грэка-каталіцкай Царквы ва Украіне Святаслава Шаўчука, адзінага прадстаўніка Усходняй Еўропы ў камісіі.

26 кастрычніка кардынал Джузэпэ Бэторы зачытаў папраўленае згодна з прапановамі ўдзельнікаў Сіноду Пасланне народу Божаму. Яно было сустрэта доўгімі апладысментамі, і Генеральны сакратар Сіноду арцыбіскуп Нікола Этэровіч аб'явіў, што Пасланне прымаецца праз так званую «акламацыю» без галасавання, што рэдка здараецца ў касцёльнай практыцы.

Пасланне дае новую надзею ў духоўнай цемры сучаснага свету. Яно складаецца з 14 частак і напісана на італьянскай, англійскай, французскай, іспанскай і нямецкай мовах. Напрыканцы яго знаходзяцца звароты да народу Божага ўсіх кантынентаў.

Пасланне заклікае даваць евангельскае сведчанне ў сучасным свеце, каб Евангелле магло дайсці да ўсіх людзей. Першая яго частка зыходзіць з евангельскага аповеду аб навяртанні самаранкі, якая з пустым збанам прыйшла да Якубавай студні і знайшла сэнс жыцця пасля сустрэчы з Езусам. Сучасны чалавек таксама падобны да самаранкі, і яму патрэбная сустрэча з Хрыстом. Касцёл, як і Хрыстус, павінен сесці каля сучаснага чалавека, каб той мог яго сустрэць, бо толькі Ён ёсць жывой вадою, якая дае вечнае жыццё. Сучасны ж чалавек пасля сустрэчы з Богам павінен, па прыкладзе самаранкі, быць Яго сведкам.

У другой частцы паслання распавядаецца пра неабходнасць новай евангелізацыі ў сучасным секулярызаваным свеце, які знаходзіцца ў духоўнай пустыні і ахоплены духоўнай цемраю. Трэцяя — пра асабістую сустрэчу з Хрыстом як сэнс новай евангелізацыі, мэта якой — адраджэнне веры. У чацвёртай частцы гаворыцца пра розныя спосабы сустрэчы з Хрыстом і падрэсліваецца значэнне ў гэтым слухання Божага слова, што павінна адбывацца ў Касцёле як супольнасці (камуніі), каб потым хрысціяне маглі ісці адтуль у свет як сведкі. Пятая частка паслання нагадвае пра тое, што для паспяховай евангелізацыі неабходна распачаць з саміх евангелізатараў і іх навяртання, бо слабасць вучняў Хрыста спрыяе недаверу да іх місіі. У шостай частцы гаворыцца пра пошук новых магчымасцяў для евангелізацыі ў сучасным свеце. Усведамляючы, што зло не мае апошняга слова ў свеце, біскупы заклікаюць хрысціянаў перамагаць баязлівасць і глядзець на свет з адвагаю, бо Бог любіць яго. Глабалізацыя, секулярызм, новыя абставіны грамадскага жыцця, міграцыя і іншыя цяжкасці павінны быць выкарыстаны як магчымасць для евангелізацыі. Гэта хваробы сучаснага свету, і новая евангелізацыя павінна стаць лекам ад іх.

У сёмай частцы паслання гаворыцца пра значэнне сям'і і кансэкраванага жыцця ў новай евангелізацыі. Сям'я — найбольш натуральнае месца для евангелізацыі, і таму яна павінна быць падтрымана Касцёлам і грамадствам. Асаблівая роля ў сям'і належыць жанчыне. Касцёл таксама не павінен пакідаць без увагі сем'і, якія знаходзяцца ў цяжкай з кананічнага пункту гледжання сітуацыі. Восьмая частка паслання прысвечаная касцёльнай супольнасці і розным «агентам» евангелізацыі. Сярод іх асаблівае месца займаюць парафія, кансэкраванае жыццё, хрысціянскае сведчанне, святары, якім неабходна сталая фармацыя, свецкія вернікі, рухі, супрацоўніцтва з іншымі канфесіямі. У дзявятай частцы гаворыцца пра моладзь, якая таксама можа сустрэць Хрыста ў сучасным свеце і несці Яго іншым. Біскупы заклікаюць прыслухоўвацца да маладых і весці з імі дыялог, каб не гасіць у іх энтузіязму.

Дзясятая частка паслання прысвечаная дыялогу Касцёла з культурай, навукай, мастацтвам, светам палітыкі і эканомікі, іншымі веравызнаннямі, хворымі і церпячымі вернікамі. Сінод асабліва падкрэслівае значэнне міжрэлігійнага дыялогу, які спрыяе ўстанаўленню міру. Біскупы выступілі супраць фундаменталізму і парушэння правоў вернікаў. У адзінаццатай частцы акрэсліваецца значэнне Другога Ватыканскага Сабору і Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, а таксама магчымасці Году веры для новай евангелізацыі. Дванаццатая частка звяртае ўвагу на значэнне разважання (кантэмпляцыі), бо цішыня дапамае ўспрыманню

Божага слова, і важнасць дабрачыннасці з мэтаю распазнання Езуса ў абліччы бедных. Трынаццатая частка паслання — гэта зварот да Касцёлаў розных кантынентаў, у якім даецца панарама сучаснага Касцёла ў розных частках свету. Чатырнаццатая частка прысвечаная Марыі, якая асвятляе сучасную духоўную пустыню.

Такім чынам, Пасланне народу Божаму заклікае да хрысціянскага сведчання, асабістага навяртання, перамогі праз веру баязлівасці і да аптымізму. Глабалізацыя, секулярызацыя, міграцыя і розныя крызісы могуць стаць новай нагодаю для евангелізацыі, калі імкнуцца адказаць на іх з евангельскага пункту гледжання.

На апошніх пасяджэннях Сіноду 26 і 27 кастрычніка ўдзельнікам быў прадстаўлены канчатковы варыянт прапановаў — галоўнай мэты Сіноду. Папа можа выкарыстаць іх пры напісанні адпаведнага пастырскага дакумента — Апостальскай адгартацыі. Прапановы прадставілі кардынал Дональд Вюрл і арцыбіскуп П'ер-Мары Каррэ. Кожны айцец Сіноду атрымаў брашуру з тэкстам прапановаў на лацінскай і англійскай мовах. Далей Папа аб'явіў аб тым, што справы духоўных семінарый ад Кангрэгацыі каталіцкага выхавання пераходзяць да Кангрэгацыі па справах Духавенства, а справы катэхізацыі — ад Кангрэгацыі па справах Духавенства да Папскай рады па новай евангелізацыі. Папа падзяліўся думкамі наконт прызначэння шасці новых кардыналаў — па два з амерыканскага і афрыканскага кантынентаў і два з Азіі і Акіяніі. Святы Айцец падзякаваў арганізатарам Сіноду і яго ўдзельнікам, падкрэсліўшы, што асамблея стала новым праяўленнем калегіяльнасці сусветнага епіскапату і будзе спрыяць адраджэнню веры і яе ўмацаванню.

Потым адбылося галасаванне па кожнай прапанове. Айцы Сіноду павінны былі ў брашурах з прапановамі паставіць адпаведны знак і свой подпіс. Кожнага айца Сіноду выклікалі асабіста, і ён адказваў на лацінскай мове *Adsum* — «Прысутнічаю» — і перадаваў брашуру прадстаўніку камісіі па падліку галасоў. Прапановы працы Сіноду былі прынятыя абсалютнай большасцю галасоў. Гэта дакумент прызначаны выключна для Папы і носіць грыф «сакрэтна», аднак на гэты раз Папа дазволіў апублікаваць тэкст прапановаў на англійскай мове. Ён падзелены на чатыры часткі. Першая нагадвае пра прыроду новай евангелізацыі. Другая частка акрэслівае сённяшні стан служэння Касцёла ў справе евангелізацыі. Трэцяя — гэта адказ Касцёла на сучасныя праблемы. Чацвёртая частка прадстаўляе галоўных суб'ектаў новай евангелізацыі.

Галоўныя ідэі дакумента наступныя.

Сінод пацвердзіў, што евангелізацыя з'яўляецца галоўнай місіяй Касцёла, асабліва ў наш час секулярызму і глабалізацыі, якія нясуць у жыццё вельмі небяспечныя выклікі, сярод якіх — рэлігійная індыферэнтнасць. Важнаю з'яўляецца абарона рэлігійнай свабоды і правоў чалавека для свабоднага абвяшчэння Евангелля. Асаблівае значэнне ў новай евангелізацыі надаецца каталіцкім СМІ, культуры і сакральнаму мастацтву. Біскупы выказаліся аб значэнні міграцыі для распаўсюджвання Евангелля і неабходнасці духоўнай апекі над мігрантамі. Святасць з'яўляецца важнай часткаю працэсу новай евангелізацыі. Вучэнне Другога Ватыканскага Сабору, Катэхізіс і сацыяльнае вучэнне Касцёла з'яўляюцца аднымі з цэнтральных пунктаў праграмы новай евангелізацыі. Каталіцкая адукацыя з захаваннем каталіцкай ідэнтычнасці, вывучэнне тэалогіі, катэхізацыя, апека над хворымі і беднымі, сакрамэнт пакаяння, літургія, святкаванне нядзельнай Эўхарыстыі і людская пабожнасць адыгрываюць вельмі вялікую ролю ў евангелізацыі, перадачы і ўмацаванні веры. Падкрэсліваецца значэнне свецкіх вернікаў і моладзі ў новай евангелізацыі. Асаблівая ўвага звернутая на ролю сям'і і пастырскую апеку над сужэнствамі, якія жывуць без сакрамэнту сужэнства. Лакальнаму Касцёлу, парафіям і святарам належыць галоўная роля ў новай евангелізацыі. Вялікае значэнне маюць кансэкраваныя асобы і рухі, якія Сінод заклікае да больш цеснай супольнай працы з парафіямі.

Біскупы прапанавалі апрацаваць Кампендый па новай евангелізацыі, які навучаў бы, як прывесці людзей да сустрэчы з Хрыстом.

Сінод запрасіў усіх да дыялогу — экуменічнага, міжрэлігійнага, паміж навукай і верай і з няверуючымі, а таксама да захавання створанай Богам прыроды, давяраючы справу новай евангелізацыі Марыі.

...Сінод завяршыўся, але Сінод працягваецца. Ён павінен працягнуцца ў выкарыстанні яго досведу і ідэяў, у развіцці яго думак і прапановаў, у пошуку новых шляхоў і спосабаў сустрэчы сучаснага чалавека з Хрыстом, каб жыць вераю ў Яго, бо толькі яна вядзе да збаўлення.

*Арцыбіскуп*
*Тадэвуш Кандрусевіч,*
*Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі,*
*удзельнік XIII Звычайнага Сіноду Біскупаў.*

А. Анджэй КАПРОЎСКІ



# Адказнасць каталіцкіх СМІ

## З даклада на Першым кангрэсе каталіцкіх СМІ (Гродна) «Сучасныя выклікі, якія стаяць перад каталіцкімі радыёстанцыямі (на прыкладзе Ватыканскага радыё)»

<...> Свет, а ў ім хрысціянства са сваёй місіяй, знаходзяцца перад абліччам незвычайна складаных праблем. Каталіцкія СМІ не з'яўляюцца «моднай забавай» і не могуць пагружацца ў канфлікты груп паводле інтарэсаў. Мы стаім перад выклікам мовы перадачы паслання. Нам не хапае адказнай мовы. Часта мова каталіцкіх СМІ зразумелая толькі для адносна вузкай групы «сваіх» і нашмат менш для большай часткі моладзі. У той жа час мы звяртаемся да людзей рознага ўзросту, адукаванасці і выхавання, да людзей, якія жывуць у той грамадскай і культурнай атмасферы, дзе Касцёл з'яўляецца чымсьці не зразумелым як супольнасць веры і як носьбіт пэўнага бачання чалавека, этыкі, маральных фундаментаў грамадскага жыцця.

Бэнэдыкт XVI вельмі моцна акцэнтуе ўвагу на тым, што наш пераказ павінен карыстацца мовай, зразумелай сучаснаму чалавеку, бо хрысціянства існуе не для малой групы вернікаў, але для жыцця свету... Не заўсёды мы знаходзімся ў свеце, варожым да нас, але мы жывём у свеце, кантакт з якім патрабуе здольнасці дэманстраваць праблемы ў святле Евангелля, у святле хрысціянства.

Мы знаходзімся пасярод вятроў культурных пераменаў. Ніхто не ў стане прадбачыць, куды яны вядуць. Але перш за ўсё — мы не стаім у баку ад іх. Трэба знайсці магчымасць кантакту і ўзаемнага разумення ў гэтай новай сітуацыі.

Новыя тэхналогіі даюць вялікія магчымасці для СМІ. З'явілася цэлая «віртуальная рэальнасць», і яна часта эмацыянальна мацней уплывае на людзей, якія ў ёй жывуць. Насталі «змены ў мысленні», выкліканыя так званым «медыйным часам», які ламае паняцце наступства падзей у часе. Навіны і вобразы блытаюць пачатак і канец, і праз гэта ў адрасата інфармацыі скажаецца ўспрыманне, сувязь паміж здарэннямі. Лёгка забываецца тое, што з'яўляецца прычынай, а што наступствам. Новыя тэхналогіі дазваляюць пераўзыходзіць часавыя бар'еры. Націсканне на кнопкі «пульта» не толькі змяняе тэлеканалы, але можа рабіць уражанне, што ў адзін і той жа момант мы знаходзімся ў розных частках свету; што спачатку ўсё закончылася, а затым пачалося — губляецца адчуванне пачатку і канца <...>. У выніку «выціраецца» адчуванне рэчаіснасці, а разам з ім і адчуванне адказнасці за свае ўчынкі і іх наступствы. А гэта радыкальна адрознае ад біблійнага значэння часу, у якім прымаюцца пад увагу наступныя этапы: час севу, смерці зярнятка, павольнага даспявання, росту і збору плёнаў... Сёння губляецца пачуццё адказнасці, знікае ўсведамленне таго, што жаданне ўсяго і адразу — гэта ілюзія. Галоўнае значэнне набываюць шок, здзіўленне, «шкала ўражанняў», усё тое, што тычыцца адзінокага адрасата інфармацыі, без разважанняў аб супольнасці, сям'і, грамадстве і яго будучыні, аб планаванні будучыні супольнай. Больш за тое, жаданне прыцягнення ўвагі ці большай колькасці праглядаў, чытачоў, слухачоў уплывае на тое, што тэмы спрошчваюцца такім чынам, каб раскрываць іх праз «зорак», якімі трэба захапляцца або знішчаць. Гэта стварае спрошчаны вобраз не толькі грамадскай і палітычнай рэаль-

**Айцец Анджэй КАПРОЎСКІ** — святар, журналіст. Нарадзіўся ў 1940 г. у Лодзі. У 1956–1961 гг. вучыўся ў Варшаўскім універсітэце, затым уступіў у ордэн езуітаў. Пасля вывучэння філасофіі і тэалогіі ў 1969 г. прыняў святарскае пасвячэнне. З 2005 г. з'яўляецца праграмным дырэктарам Ватыканскага радыё.

насці, але і рэлігійнай. Варта на момант задумацца аб тым, які вобраз Касцёла ствараюць СМІ ў Еўропе і ў Беларусі. Наколькі ён адрозніваецца ад рэальнасці супольнасці веры, укаранёнай у Езусе Хрысце, якая нясе (з рознымі цяжкасцямі і недасканаласцямі, выклІканымі абмежаванасцю людзей) пасланне аб годнасці кожнага чалавека; наколькі той скажоны вобраз адрозніваецца ад досведу хаця б нават парафіяльнага жыцця.

Каталіцкія СМІ стаяць перад праблемай «новай культуры» як вялікага выкліку. Як дапамагчы веруючым людзям, як дапамагчы грамадству ва ўспрыманні чалавека і яго асабістай годнасці, у злучэнні свабоды і адказнасці, у змаганні «за свабоду асабістай прасторы» з грамадскай павіннасцю і грамадскай спагадлівасцю? Як дапамагчы быць спагадлівым да гэтых працэсаў, да таго, што ўсё павінна мець свой час. Гэта не школа наіўнасці, але школа ўвагі да годнасці іншага чалавека, увагі да складаных механізмаў у чалавеку і яго атачэнні, да пошуку спосабаў адшукання і «стартавання» дабра ў іншым чалавеку. І тут існуе вельмі вялікі кантраст з сітуацыяй і атмасферай у грамадстве.

Заданнем, якое стаіць перад каталіцкімі СМІ, паводле Бэнэдыкта XVI, з'яўляецца евангелізацыя ў сучасным сэнсе, таму што большая частка людзей у звычайнай евангелізацыі Касцёла не знаходзіць адказу на пытанне: як жыць? Адказу на пытанне аб сэнсе. Гаворка ідзе аб евангелізацыі не толькі як пераказе зместу катэхізіса, але як дапамозе ў разуменні рэальнасці. Свецкія СМІ ідуць усё больш спрошчаным шляхам, часта нават праз «прастацкае» бачанне свету, спрыяючы ўсяму, што лёгка, а не таму, што стварае супольнасць і дае пачуццё сэнсу. Аналагічна дзейнічаюць секты з іх спрошчаным і падманлівым бачаннем хрысціянства.

Усё часцей каталіцкія радыёстанцыі ўспрымаюцца як добрыя рэсурсы і цэняцца за добрыя каментары таго, што адбываецца ў свеце. Як Ватыканскае радыё, мы гэта ўсведамляем і стараемся быць для іх дапамогай. Думаючы аб каталіцкіх радыёстанцыях, трэба мець перад вачыма медыя, якія без палітычных ухілаў у той ці іншы бок будуць дапамагаць разумець тое, што адбываецца ў свеце, у тым ліку «мясцовым свеце», бо гэта нашмат цяжэй.

Каталіцкае радыё павінна быць сведкам таго, што супольнасць веры, якой з'яўляецца Касцёл, хоча расказаць аб сабе, але таксама аб справах грамадскіх і культурных. Безумоўна, радыё павінна перадаваць інфармацыю аб актуальных падзеях. Але як з мора інфармацыі выбраць тое важнае, характэрнае для «хрысціянскай перспектывы»? Як прадставіць падзеі ў жыцці Касцёла не адарванымі, вырванымі з кантэксту фактамі, але як часткі евангелізацыйнага працэсу, што адлюстроўвае спагадлівасць да Бога і годнасці чалавека, да інтарэсаў супольнасці, якою з'яўляецца грамадства? На Ватыканскім радыё выходзяць праграмы на 50-ці мовах. Яны вельмі адрозніваюцца адна ад другой, бо хоць і перадаюць тую ж інфармацыю аб навучанні і дзейнасці Папы, астатнюю частаку эфіру напаўняюць характэрным для іх зместам, звязаным з патрэбамі, ментальнасцю грамадстваў і мясцовых Касцёлаў. «Афіцыйным голасам» Ватыканскага радыё з'яўляюцца выпускі навінаў на англійскай, французскай і італьянскай мовах. Існуе меркаванне, што сярод паслоў, акрэдытаваных пры Апостальскай Сталіцы, ёсць упэўненасць у тым, што, калі хочаш ведаць пра падзеі ў свеце, дастаткова праслухаць выпуск навінаў на гэтых трох мовах, якія разам ствараюць поўны вобраз рэальнасці, распавядаюць аб справах, якія часта не ўзгадваюцца іншымі СМІ, што не адпавядаюць медыйнай модзе. <...>

Неабходна, каб мы ўсведамлялі глыбіню культурных пераменаў, якія выклікалі «новыя СМІ», і зменаў у ментальнасці, у спосабах грамадскага мыслення і рэагавання, каб умець «ствараць супольнасць» праз мову пераказу і вырываць чалавека з адзіноты і адчування бессэнсоўнасці жыцця. Гэта патрабуе клопату аб мове, але таксама нашай уважлівасці, нашых культурных і касцёльных якасцяў.

Ствараючы каталіцкае радыё, трэба адказаць на пытанне — для каго мы хочам працаваць? Калісьці радыё было адзінай крыніцай інфармацыі аб свеце — усе яго слухалі — і маладыя, і старыя. Сёння гэта месца заняў інтэрнэт, іншыя новыя СМІ. Пераважна з іх мы аб усім даведваемся. Трэба не трапіць у пастку, думаючы, што гэта будзе радыё для ўсіх, бо ў рэальнасці атрымаецца радыё для нікога. Неабходна вырашыць, у якім памеры і з дапамогай якіх праграмных блокаў яно можа быць радыёстанцыяй для моладзі, для асобаў сярэдняга ўзросту і для пажылых. Каму і аб чым хочам мы распавесці, наколькі мова, якой мы хочам гаварыць, адпавядае той, якой карыстаюцца чытачы ці слухачы.

Нарэшце, слова да тых, хто працуе на радыё, а таксама да арганізатараў Кангрэсу з боку Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі — да людзей, якія ствараюць радыё. Варта клапа-

ціцца аб іх выхаванні, адукацыі, каб яны адчувалі сябе часткай Касцёла. Шмат цудоўных рэчаў могуць зрабіць людзі, якія разбіраюцца ў жыцці Касцёла і самі з'яўляюцца часткай Касцёла, якія адносяцца да іншых з павагай. Гэта пытанне мовы, якою яны карыстаюцца, і не сенсацыйны падыход да цяжкасцяў, з якімі кожная супольнасць павінна змагацца. І пытанне «ў» і «вакол» радыё. Варта паклапаціцца аб добрых журналістах, якія ідэнтыфікуюць сябе з Касцёлам.

**СМІ ў перспектыве Сіноду па новай евангелізацыі**

На заканчэнне хачу нагадаць аб Сінодзе Біскупаў па новай евангелізацыі... Гэты Сінод з'яўляецца сапраўдным выклікам для кожнага каталіцкага радыё. Бэнэдыкт XVI склікаў яго, ведаючы, што вялізарная частка людзей не знаходзіць у звычайным прапаведаванні Касцёла адказаў на пытанні аб сэнсе жыцця і шляху да асабістай сустрэчы з Езусам Хрыстом у супольнасці веры, якою з'яўляецца Касцёл.

«Lineamenta» — падрыхтоўчы дакумент Сіноду, падкрэслівае значэнне факту важных культурных і грамадскіх пераменаў; выклікаў, якія з'яўляюцца перад хрысціянствам. У дакуменце ўзгадваюцца словы благаслаўлёнага Яна Паўла II аб тым, што «Еўропа сёння не павінна звяртацца толькі да свайго хрысціянскага мінулага, але таксама павінна навучыцца цаніць сваю будучыню ў сустрэчы з Асобай і заклікам Езуса Хрыста». Важна, каб мы захоўвалі хрысціянскую ідэнтычнасць, каб неслі тое, што дае пачуццё сэнсу, надзеі, што стварае супольнасць і ўзбагачае ананімныя супольнасці, якія нагадваюць адзінокія домікі з пяску, абмежаваныя даляглядам толькі сваіх падворкаў. Важным і ўсё больш тэрміновым з'яўляецца стварэнне атмасферы сувязі і супольнасці з дапамогаю мовы каталіцкіх СМІ. Гэта азначае неабходнасць уваходу ў такі тып камунікацыі, які будзе здольны ствараць супольнасць, адрозную ад моднага сёння індывідуалізму. Мы стаім перад новымі магчымасцямі, але і рызыкамі. Новыя тэхналогіі даюць магчымасць «планетарнай камунікацыі» супольнасці — хуткай, адпавядаючай паўсюднаму характару Касцёла і евангельскай перадачы, але ў той жа час нясуць рызыку згубы глыбокага і поўнага позірку, уважлівасці да значэння прычынаў і наступстваў, адказнасці за тое, што адбываецца і гаворыцца; спрыяюць гонцы за модай і папулярнасцю без увагі на годнасць асобы і без цярплівасці, неабходнай, каб пазнаць праўду, без вернасці праўдзе Евангелля. Трэба, каб католікі, якія працуюць у СМІ, імкнуліся спасцігаць багацце сэнсу хрысціянства ў рэчаіснасці, якую фармуе культура камунікацыі, лічбавы свет, які сёння з'яўляецца р э а л ь н а с ц ю . Такім чынам мы будзем вяртаць вымярэнне супольнасці і адчуванне сэнсу жыцця, фундаменты надзеі і пачуцця задавальнення ад **супольнага стварэння** «polis» глабалізаванага свету. Падчас пленарнай сустрэчы Папскай рады па сродках масавай камунікацыі 28 лютага 2011 г. Бэнэдыкт XVI заўважыў, «што лічбавая культура з'яўляецца новым выклікам для нашай здольнасці прамаўляць і авалодваць сімвалічнай мовай, з дапамогаю якой можна гаварыць аб трасцэндэнтнасці. Сёння мы закліканы да адкрыцця ў лічбавай культуры сімвалаў і метафар, важных для асобы і здольных дапамагчы гаварыць аб Божым Валадарстве сучаснаму чалавеку».

Асаблівым выклікам у сучасным культурным кантэксце з'яўляецца рэлятывізм. Колькасць інфармацыі, якая штодзённа атакуе чалавека, — не столькі яе разнароднасць, колькі спрэчнасць — правакуе хаос і паток, які спрошчвае бескрытычнае прыняцце догмаў рэлятывізму, адмаўлення ад «пазнання праўды». Аргументы і контраргументы, гульня на эмоцыях, спрошчаныя вобразы ствараюць цяжкасці ў пошуках аўтарытэту, адначасова спрошчваючы рознага тыпу маніпуляцыі. Мы не «побач» і не «звонку» пераменаў. «Lineamenta», падрыхтоўчы дакумент Сіноду, падкрэслівае, што медыйная і лічбавая культуры ўсё больш становяцца «месцам» публічнага жыцця і досведу. Культурнае наступства гэтых працэсаў – з'яўленне атмасферы сакральнай нестабільнасці, «ліквіднасці». Пошук мовы пераказу і камунікацыі хрысціянства, якое па сваёй прыродзе мае грамадскі характар і звяртае ўвагу на годнасць кожнага чалавека, створанага Богам на Яго вобраз і падабенства, адкрытае на моц міласэрнай любові, якую засведчыў Езус Хрыстус аж да Крыжа і ўваскрасення, важны не толькі для нас, для веруючых людзей. Гэта важна для жыцця свету, у якім усё больш напружанасці, палярызацыі пазіцый, эмацыянальных ранаў, а на самай справе адзіноты і пачуцця бессэнсоўнасці, канфліктаў, якія ў пэўны момант могуць выйсці з-пад кантролю і прывесці да самазнішчэння.



Ксёндз Міхал Сапоцька.
Фота 1938 г.

# *Апостал Божай Міласэрнасці*

У 2008 годзе ў Беластоку быў абвешчаны благаслаўлёным кс. Міхал Сапоцька — дбайны святар, апостал Божай Міласэрнасці, духоўнік св. Фаўстыны Кавальскай, тэолаг і выхаваўца святароў. Ён нарадзіўся 1 верасня 1888 г. у Юшаўшчыне, у парафіі Забрэззе Валожынскай гміны. Святарскае пасвячэнне атрымаў у Вільні ў 1914 г., працаваў чатыры гады ў парафіі Табарышкі, а пасля вучыўся ў Варшаўскім універсітэце і служыў вайсковым капеланам. У 1924 годзе вярнуўся ў Вільню, дзе надалей працаваў капеланам і арганізаваў таварыства каталіцкай моладзі.

У 1927–1932 гадах кс. Сапоцька выкладаў на тэалагічным факультэце Віленскага ўніверсітэта і ў духоўнай семінарыі. У 1933 г. сустрэўся з сястрою Фаўстынаю і заняўся апостальствам Божай Міласэрнасці. Спрыяў стварэнню першага абраза Езуса Міласэрнага, які да сёння захаваўся ў Вільні. Яшчэ перад вайною ён апублікаваў першыя працы аб Божай Міласэрнасці і малітвы да яе. Перад біскупамі і ў Апостальскай Сталіцы дамагаўся ўстанаўлення свята і аб'яўлення культу Божай Міласэрнасці. У час вайны аддаўся навучанню аб Божай Міласэрнасці і спрычыніўся да распаўсюджвання адпаведнага набажэнства на Віленшчыне, а адтуль праз ваенных бежанцаў яно перанеслася ў краіны Еўропы і нават дайшло да Амерыкі. У час акупацыі хаваўся пад Вільняй і тады выпрацаваў дактрынальныя асновы для культу Божай Міласэрнасці. Да 1947 г. вёў апостальскую дзейнасць у Вільні, але перад пагрозай рэпрэсій з боку савецкай улады выехаў у Беласток. Тут быў выкладчыкам у духоўнай семінарыі, працаваў навукова і як душпастыр, а перадусім стараўся распаўсюдзіць культ Божай Міласэрнасці і яго ўстанаўленне ў Касцёле. Выдаў шэраг прац аб Божай Міласэрнасці, спрычыніўся да намалявання новых абразоў Езуса Міласэрнага, звяртаўся да касцёльных уладаў з просьбаю аб устанаўленні свята і зацвярджэнні культу Божай Міласэрнасці. Не дадзена, аднак, было яму дачакацца спаўнення жаданняў; ён не раз сутыкаўся з неразуменнем і многа цярпеў з гэтай прычыны. Памёр у славе святасці ў 1975 г. у Беластоку і тут быў пахаваны. Толькі пасля яго смерці Апостальская Сталіца дазволіла афіцыйнае распаўсюджванне набажэнства да Божай Міласэрнасці, а папа Ян Павел II стаў яго апекуном. У 2000 г. Святы Айцец кананізаваў сястру Фаўстыну і ўстанавіў свята Божай Міласэрнасці ва ўсім Касцёле. У сучасным развіцці справы Божай Міласэрнасці ў свеце трэба, безумоўна, бачыць плады апостальскай працы благаслаўлёнага кс. Міхала, яго нязломнага даверу і ахвяры цярпення.

Цяпер, пасля беатыфікацыі кс. Сапоцькі, яго асоба становіцца ўсё больш вядомай у свеце дзякуючы многім працам пра яго. Выдаюцца таксама публікацыі яго прац пра Божую Міласэрнасць.

У 2010 г. быў апублікаваны яго «Дзённік» — асабіста запісаная гісторыя жыцця, як аўтар сам зазначыў, дзеяння Божага, якое праявілася ў яго жыцці. У такой перспектыве веры ён успрымае сваё жыццё і дзеліцца сваім досведам сувязі з Богам, выкананнем Яго волі, духоўнымі змаганнямі на дарозе святарскага жыцця. Гэты кірунак «Дзённіка» найбольш каштоўны і найбольш павучальны, бо ў ім паказана, як можна добра прайсці хрысціянскай дарогай

жыцця. Але па-за духоўнай сферай у «Дзённіку» таксама многа цікавай інфармацыі пра час, у якім жыў аўтар, пра асобаў, якіх ён сустракаў у жыцці, яго цікавыя назіранні, гістарычныя здарэнні ды з'явы прыроды (напрыклад, апісанне зацьмення сонца). У цэлым бачна ўнутранае багацце асобы аўтара, яго духоўная прыналежнасць, яго святасць, але і натуральная звычайнасць чалавека, якому не чужымі былі эмоцыі, змаганні з самім сабою, шэрасцю штодзённай працы. Таму «Дзённік» зацікавіць і перадусім многаму навучыць кожнага чытача.

А можа, калі-небудзь «Дзённік» будзе перакладзены на беларускую мову? Тым часам, каб заахвоціць да яго чытання, публікуем некалькі фрагментаў з «Дзённіка» ў перакладзе Яўгеніі Чаплінскай.

*Кс. Генрык Цярэшка, Беласток.*

# З «Дзённіка» ксяндза Міхала Сапоцькі

**10.06.1915 г.**

О Божа мой, як жа цяжка! Ні вучыцца, ні думаць не магу. Планы мае разбіваюцца, бо слабая воля, не хапае вытрымкі. Столькі планаў, столькі задумак і добрых памкненняў гіне з-за слабасці характару. Праўда, чую слабасць і ва ўсім целе; чую, што цела слабае, але і дух нямоцны. «Domine ad adiuvandum me festina»[1]. Адчуваю крыўду на сваё начальства, якое трымае мяне тут. А ці змог бы дзе ў другім месцы быць лепшым? «Fiat voluntas Tua»[2]. Як саромецца трэба такіх думак. Дзякуй Табе, Пане, за святло.

«Вучань не вышэйшы за Настаўніка». «Сыне, паглядзі на Мяне, калі кленчу ў Садзе Аліўным. Тое, што ты церпіш цяпер, Я ў сто разоў больш перацярпеў. Хваробы не бойся, бо не хлебам адзіным жыве чалавек. Я патрабую поўнай ахвяры, каб ты нічога сабе не пакінуў, нават волі сваёй выракайся, не ашчаджай сябе ні ў чым, аддайся Мне цалкам».

**22. 08. 1915 г.**

Сонечнае зацьменне.

Ужо павявае асенні вецер, падае лісце. А хмары паліваюць зямлю халодным асеннім дажджом. Год таму сядзеў я ў Янішках на беразе шырокага возера Арына (Віленскі павет) і акідваў яго развітальным позіркам, думаючы пра будучую працу. Спыніўся над ручайком, які ўпадаў у гэта глыбокае возера, і параўнаў яго з сабою. Вада з ручайка няспынна ўлівалася ў глыбіню, і спачатку вíраванне было значнае, а пасля знікала, злучаючыся ў адну вялікую плынь. Так і мая праца мае плысці ціхім ручайком, злучыцца з іншымі для ажыццяўлення вялікай мэты — Валадарства Божага на зямлі.

І стала мне ў вачах карціна сонечнага зацьмення, сведкам якога я быў у мінулым годзе.

Вось сонечнае святло, спачатку моцнае, яркае, пачало бляклець, слабнуць. Праз закуранае шкло я заўважыў справа цёмную пляму на сонцы, якая набірала ўсё большыя і большыя памеры, аж нарэшце можна было разгледзець простым вокам, і сонца цалкам закрыла. Што за дзіўная, зусім не сцёртая з памяці з'ява ў прыродзе! Быў я тады з сябрам на возеры. Лодка, у якой мы плылі, затрымалася, бо вёслы ў мяне апусціліся; з захаду на даляглядзе была яшчэ шырокая заранка, а вось з усходу наступала цемра і плыла на нас разам з халодным паўночным ветрам; вопратка страціла свой звыклы колер. Чарада варонаў і крумкачоў паднялася з бліжэйшай гары і з пранізлівым крыкам паляцела на захад, як бы даганяючы знікомае святло. Жывёла, што пасвілася на лузе, пачала рыкаць, а ў мястэчку крык пеўняў змяшаўся з прарэзлівым крыкам габрэйскіх хлапчукоў.

Так уся прырода развітвалася з апошнім промнем сонца, які, некалькі разоў пераламаўшыся ў паветры, знік, як маланка, і ўверсе паказаліся зоркі. Што было б, каб гэты прамень прапаў беспаваротна? Мабыць, на ўсім зямным шары запанавала б цемра, смерць і абледзяненне. Некалькі хвілінаў трываў морак, а як жа яны здоўжыліся! Як жа засумаваў я па сонцы і з якою радасцю вітаў заранку з усходу, якая станавілася ўсё большай і большай, аж нарэшце першы промень кінуў сваё святло ў паветра і адкрыў далёкія ўзгоркі, лётам бліскавіцы наблізіўся да нас, адбіўся ў возеры, як бы любаваўся сваёю пекнатою, і паімчаўся далей, гонячы перад сабою цемру, якая таксама лётам бліскавіцы мусіла адступаць.

Радасць у прыродзе запанавала нязвыклая. Вароны, крумкачы ляцелі з захаду, каркаючы ўжо весела. Жывёла супакоілася, заціхлі ў мястэчку пеўні. Радасць напоўніла сэрца, што гэты прамень ужо не прападзе. Будзе свяціць і абаграваць, і цемру рассейваць, і ўсякі сум адганяць, хіба толькі хто сам добравольна адвернецца ад яго. А гэтая

светласць паказалася намнога яснейшай, а цяпло прыемнейшым, чым раней. Кожны пачаў яго цаніць мацней. Так і ласка Божая, калі пакіне і не адчуваеш яе прысутнасці, як жа сумна і тужліва тады, хацелася б рыкаць з каровамі і крычаць з варонамі, і ляцець з імі, каб гэтую ласку вярнуць. Але калі ёсць пакаянне і жаль, тады ласка Божая зноў атуляе і, як сонечны прамень, прасвятляе, грэе, напаўняе невыказнаю дабрынёю, тады толькі пазнаецца лепш яе цана, ці больш правільна — разумееш, што цаны ёй няма.

* * *

**Божая Міласэрнасць[3]**

Ёсць праўды, якія нам вядомы і пра якія мы часта чуем і гаворым, але не разумеем іх. Так было са мною ў дачыненні да праўды Божай Міласэрнасці. Столькі разоў я ўспамінаў пра гэтую праўду ў пропаведзях, думаў на рэкалекцыях, паўтараў у касцёльных малітвах — асабліва ў псальмах, — але не разумеў значэння гэтай праўды, не паглыбляўся ў яе змест — што ёсць найвышэйшаю ўласцівасцю дзейнасці Бога. Ажно трэба было простай манашцы с. Фаўстыне з Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці, якая, натхнёная інтуіцыяй, сказала пра яе, коратка і часта гэта паўтарала, змушаючы мяне да разважання, вывучэння і часцейшага роздуму аб гэтай праўдзе. Не магу тут паўтараць падрабязнасцяў нашай размовы, а толькі агульна зазначу, што спачатку я добра не ведаў, пра што гаворка, слухаў, не давяраў, задумваўся, разважаў, вывучаў, раіўся з іншымі — і толькі праз некалькі гадоў зразумеў важнасць гэтай справы, веліч гэтай ідэі і пераканаўся сам у дзейснасці гэтага, што праўда, старога, але занядбанага і патрабуючага ў наш час аднаўлення вялікага жыццядайнага культу.

Я пазнаёміўся з с. Фаўстынаю ў 1933 г. Яна адразу сказала, што даўно ўжо ведае мяне і што я павінен быць яе кіраўніком і абвяшчаць свету аб Міласэрнасці Божай. Я не надаваў гэтаму выказванню ніякага значэння і не ўспрымаў яго ўсур'ёз. Пасля яна прызналася, што павінна намаляваць абраз Божай Міласэрнасці.

**17.08.1938 г.**

Чаму я ўсё перажываю Гетсіманію? Таму, што замала лучнасці з Божаю воляю. Асабліва трэба наследаваць Хрыста ў малітве: «Не Мая, але Твая святая воля няхай станецца». Ува мне многа яшчэ бунту і жадання зрабіць усё паводле сваей волі. Маю вызначаны план дзеяння, і Міласэрнасць Божая прадказала мне тыя цяжкасці, а таксама дае надзею і сапраўды заўсёды мне дапамагае. Многа часу я трачу на разважанне пра тое, што было, але замала, каб спыніцца над тым, што ёсць. Што я павінен рабіць цяпер. А гэта ж толькі цяперашняя хвіліна заслугоўвае на кару або ўзнагароду. Таксама часта аддаюся пустым думкам пра будучыню, калі павінен бы клапаціцца і шукаць волі Божай. Наракаю на тых ці іншых асобаў, у той час як яны з'яўляюцца прыладаю ў руках Провіду, які тым ці іншым чынам выпрабоўвае мяне... Ёсць адна рэч, якая ўтрымлівае ад поступу да дасканаласці, — гэта боязь працы і цярпення ў змаганні. У той жа час можна больш атрымаць заслугаў, калі больш сябе параможаш і прынізіш. Тут павінен старацца перамагчы ў сабе тое, што мне часта не падабаецца ў іншых людзях.

**05. 02.1966 г.**

Малітва не ёсць сілай чалавека, бо яе крыніца дзейнасці ёсць у Богу і бязмерных заслугах Збаўцы. Яна вынікае з вечнага прысуду міласці і ўздымаецца да Божай Міласэрнасці. Фантан дасягае такой вышыні, з якой сплывае вада. Падобна, калі мы молімся, гаворка не ідзе пра тое, каб пераканаць Бога і схіліць Яго да змены рашэнняў, але каб узвысіць нашу волю на вышыню Яго волі...

**01.11.1967 г.**

Учора споўнілася мне 79 гадоў. Сёння пачынаю 80 год. Дрыжу пры згадцы, што магу стаць на суд перад веліччу Найвышэйшага з пустымі рукамі. Калі і былі якія заслугі, магчыма, яны перакрэсленыя з-за недахопу чыстых намераў. Застаецца толькі давяраць Божай Міласэрнасці.

**16.03.1968 г.**

Святасць даступная ўсім, бо няма ў ёй нічога надзвычайнага.

[1] Божа, прыйдзі мне на дапамогу.
[2] Будзь воля Твая.
[3] Запіс з загалоўкам «Божая міласэрнасць» змешчаны на працягу даволі доўгага аповеду аўтара без даты. З падрабязнасцяў запісу можна зрабіць выснову, што ён быў зроблены ў 1938 г.

*Пераклала з польскай мовы*
*Яўгенія Чаплінская.*

Айцец
Пётр Рудкоўскі OP

# УДЗЕЛ КАСЦЁЛА Ў ГРАМАДСКІМ ЖЫЦЦІ — АБАВЯЗАК ЦІ МАГЧЫМАСЦЬ?

З часоў энцыклікі *Rerum novarum* (1891 год) Настаўніцтва Касцёла рэгулярна фармулюе сваю пазіцыю па ключавых грамадска-этычных справах. Цягам XX стагоддзя сфармаваўся даволі ўстойлівы кансэнсус адносна асноўных палажэнняў каталіцкага сацыяльнага навучання (КСН), якія ў 2004 годзе былі сістэматызаваны і выдадзены ў выглядзе Кампендыя.

Цяжэй з кансэнсусам адносна «выканаўчага» аспекту КСН. Як Касцёл павінен сябе паводзіць у сітуацыях, калі арганізацыя грамадскага жыцця супярэчыць асновапалажэнням каталіцкай дактрыны? У выпадку свецкіх арганізацый у аналагічных выпадках справа больш-менш ясная: калі ў грамадскім жыцці або ў палітыцы ўрадуназіраюцца тэндэнцыі, якія ідуць уразрэз з праграмнымі пастулатамі дадзеных арганізацый, то яны ладзяць акцыі пратэсту, прыцягваюць увагу мас-медыя да наяўных праблемаў, мабілізуюць (у выпадку партый) свой электарат для падтрымкі кандыдатаў і г. д. У выпадку ж Касцёла справа не такая простая. З аднаго боку, ён павінен стрымлівацца ад удзелу ў палітычнай барацьбе; з другога боку, было б таксама нядобра, калі б сацыяльнае навучанне Касцёла ператварылася ў набор агульных, адарваных ад грамадскіх рэалій дэкларацый, не падмацаваных канкрэтнымі дзеяннямі.

Мэтаю гэтага артыкула не ёсць распрацоўка адказу на пытанне пра спосабы пераносу КСН у практычнае вымярэнне, гэта ўсяго некалькі рэфлексій па пытаннях фундаментальнага значэння: што мы маем на ўвазе, калі пытаем пра грамадскую актыўнасць Касцёла? Што наконт грамадскай актыўнасці Касцёла кажа Святое Пісанне, і як выглядае гэтае пытанне ў навучанні Другога Ватыканскага Сабору і пасълясаборных дакументах?

* * *

Важна ўсвядоміць, што, гаворачы: «грамадства», «грамадская сфера», можна мець на ўвазе 1) людзей, якія ўтвараюць грамадства; 2) надіндывідуальныя структуры, якія надаюць цэльнасць паасобнаму грамадству, вызначаюць каналы камунікацыі і ўзаемадзеяння ў грамадстве. Кажучы карацей (і спрашчаючы): 1) грамадства — гэта людзі; 2) грамадства — гэта структуры. Абодва моманты тут дужа важныя, але іх не варта змешваць, бо інакш можа быць шмат непаразуменняў.

А такіх непаразуменняў бывае багата асабліва тады, калі хтосьці дакарае Касцёл або недастатковай грамадскай актыўнасцю («маўклівасць» перад абліччам грамадскай несправядлівасці), або празмернай актыўнасцю ў грамадскай сферы (славуты закід «умяшання ў палітыку»). Вось жа, калі пытаем пра абшары грамадскай місіі Касцёла, то важна ўдакладніць, які канкрэтна аспект нас цікавіць: аспект «структурны» ці, скажам так, «персаналісцкі». Калі, напрыклад, сёстры маці Тэрэзы з Калькуты арганізуюць прытулкі для бяздомных, то яны дзейнічаюць, бясспрэчна, у грамадскім абшары. Але гэта іншы тып дзейнасці, чым, скажам, грамадская акцыя ў Філіпінах кардынала Сіна, які ў 1986 годзе праз радыё заклікаў суайчыннікаў

**Айцец Пётр РУДКОЎСКІ OP** — багаслоў, філосаф. Нарадзіўся ў 1978 г. у мястэчку Канвэлішкі, на Гродзеншчыне. У 2000 г. уступіў у дамініканскі ордэн. Абараніў магістарскую дысертацыю па багаслоўі ў дамініканскім калегіуме ў Кракаве і па філасофіі ў Ягелонскім універсітэце. У 2010 г. прыняў святарскае пасвячэнне. Займаецца сацыяльнай этыкай і метадалогіяй навук, выкладае логіку і метадалогію ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце. Аўтар кніг «Паўстаньне Беларусі» (Вільнюс, 2007), «Białoruska idea narodowa w XXI wieku» (Люблін, 2008) і шматлікіх артыкулаў.

паўстаць супраць дыктатуры. У тым першым выпадку мы маем справу з персаналісцкай грамадскай дзейнасцю, у другім выпадку дзейнасць прадугледжвае ўплыў на структуры грамадства (і, як правіла, атрымлівае палітычную інтэрпрэтацыю).

Ну і цяпер: што ўваходзіць у абшар абавязкаў Касцёла? Ці ў абшар такіх абавязкаў уваходзяць абодва тыпы ўдзелу ў грамадскім жыцці — структурны і персаналісцкі? Ці адзін з іх? Або ніводзін?

Вядома, што Касцёл абавязаны да місіі міласэрнасці — эта наўпрост вынікае са словаў Езуса: «Тое, што вы зрабілі аднаму з гэтых братоў Маіх меншых, вы Мне зрабілі» (Мц 25; 40). Інакш кажучы, грамадская актыўнасць Касцёла ў тым першым — «персаналісцкім» — сэнсе ўваходзіць у абшар ягоных абавязкаў. Занядбанне гэтага абшару азначала б няверрнасць евангелізацыйнай місіі.

А ці ёсць якіясь абавязкі Касцёла ў структурным вымярэнні грамадства? Гэта значыць, ці ёсць сітуацыі, калі Касцёл абавязаны ўплываць на трансфармацыю грамадска-палітычнага ладу, макраэканамічныя працэсы, уздзейнічаць на грамадскія і культурныя інстытуты? Святое Пісанне не дае тут ніякіх адназначных указанняў, таму можна сказаць, што пакідае гэту справу адкрытай. У гісторыі Касцёла з гэтым было па-рознаму: быў час, калі хрысціяне прабывалі (амаль літаральна) «пад зямлёй» і не імкнуліся ні да якога ўплыву на грамадска-палітычныя працэсы, але былі і эпізоды т.зв. папацэзарызму (дактрынальным пікам якога стала энцыкліка *Unam Sanctam* (1302) папы Баніфацыя VIII), калі Касцёл прэтэндаваў на права наўпрост прызначаць свецкіх валадароў. У той перыяд прысутнасць Касцёла ў грамадскіх структурах была даведзена да максімуму. Пасля падзення Папскай дзяржавы ў другой палове XIX ст. паступовa сфармаваўся кансэнсус адносна таго, што прадстаўнікі касцёльнай іерархіі (святары, біскупы) не павінны займаць ніякіх пасадаў у інстытутах свецкай улады і не павінны ачольваць палітычныя партыі. Падчас Другога Ватыканскага Сабору гэты кансэнсус быў дэкларатыўна замацаваны, а ў 1983 г. быў замацаваны юрыдычна (Кодэксам Кананічнага Права).

Мяркую, варта казаць, чаму ўсталяваўся менавіта такі кансэнсус і чым ён матываваны. Папершае, Касцёл ужо навучаны шматвяковым няпростым досведам узаемадачыненняў са свецкай уладай. Як я ўжо згадваў, быў час, калі Касцёл далёка і глыбока сягаў у абшар кампетэнцыі свецкай улады. Магчыма, у гэтым былі свае плюсы, але мінусаў было, бадай, больш. Пасля Другога Ватыканскага Сабору, калі быў выразна сфармуляваны прынцып аўтаноміі «зямной» улады, Касцёл стара7нна пазбягае якога-небудзь палітычнага заангажавання.

Другая прычына — сітуацыя плюралізму і шматкультурнасці. Каталіцкая супольнасць перавышае ўжо 1 млрд вернікаў, пражывае ў амаль 180 краінах, прадстаўляе ўсе кантыненты, мноства культураў і самыя розныя цывілізацыйныя абшары. Таму зверху накінуць на іерархаў абавязкі адносна самых розных грамадска-палітычных сітуацый у вельмі розных гістарычна-культурных умовах проста немагчыма.

Існуе, аднак, магчымасць апасродкаванага ўплыву на структурнае вымярэнне грамадства. Тут можна выдзеліць два каналы ўплыву: 1) праз свецкіх вернікаў, якія, вядома ж, могуць і нават павінны ўдзельнічаць у палітычным жыцці, ажыццяўляючы на практыцы КСН; 2) праз заявы або дзеянні прадстаўнікоў касцёльнай іерархіі; такія крокі тычацца, як правіла, этычнага вымярэння грамадскага жыцця, аднак яны могуць уплываць на грамадска-палітычныя працэсы.

* * *

Практычнае пытанне, як пазбегнуць дзвюх непажаданых крайнасцяў (навучанне без ажыццяўлення — з аднаго боку, палітызацыя — з другога) застаецца адкрытым. Аднак усведамленне базавых установак, зададзеных Другім Ватыканскім Саборам, тут дужа важнае, і гэта хацелася зрабіць у рамках дадзенага артыкула. У наступным артыкуле мы падыдзем да гэтага пытання ў эмпірычным ключы: будзе прапанаваны агляд формаў і спосабаў уздзеяння на этычнае вымярэнне грамадскага жыцця з боку Касцёла ў пасляcаборны перыяд. Мы пагаворым пра тое, як у розных краінах і розных сітуацыях каталіцкія іерархі рэагавалі (рэагуюць) на этычныя выклікі ў структурным вымярэнні грамадскага жыцця. Гэта дапаможа нам уявіць абшар магчымасцяў, якія месцяцца паміж дзвюма названымі вышэй крайнасцямі.



# Якопо Бассано. Уцёкі ў Егіпет

Як гэта часта здараецца падчас падарожжаў па Італіі, наведванне невялікага горада прыносіць сустрэчу з найбагацейшымі зборамі мясцовага музея (*Museo Civico*). Цэнтральнае месца ў экспазіцыі музея займаюць творы выдатнага нараджэнца горада, пад імем якога ён увайшоў у гісторыю мастацтва, — Якопо Бассано (каля 1510–1592).

У мястэчку Бассано дэль Граппа пасяліўся яшчэ дзед будучага мастака. Паспяховы негацыянт адкрыў сваю краму непадалёк ад мясцовай адметнасці — драўлянага моста праз раку Брэнта, таму і прозвішча сям'і загучала па-новаму — да Понтэ («каля моста»). Першыя ўрокі жывапісу юны Якопо атрымаў у свайго бацькі, мастака Франчэско да Понтэ. Бацька наогул быў вельмі адукаваным чалавекам, цікавіўся літаратурай і філасофіяй, выконваў жывапісныя работы для мясцовых заказчыкаў. З ранняга ўзросту Якопо працаваў разам з бацькам над фрэскамі і палотнамі, дэманструючы незвычайнае для маладога чалавека майстэрства. Даследчыкі мяркуюць, што ўжо на пачатку 1530-х гадоў ён бываў у Венецыі, дзе сустракаўся з найбуйнейшым майстрам венецыянскай школы Тыцыянам і знаёміўся з ягонымі творамі. У Венецыі ён пражыў некалькі гадоў сваёй маладосці, але на пачатку 1540-х назаўсёды вярнуўся ў родны горад і жыў тут да самай смерці ў глыбокай старасці.

«Уцёкі ў Егіпет» у зборах Гарадскога музея — першая вялікая самастойная карціна зусім маладога мастака. З ёю ён атрымаў упэўненасць у сваіх сілах і ўжо на наступны год паехаў у Венецыю, дзе некалькі гадоў працаваў у майстэрні Баніфацыю Вэранэзэ. Даследчыкі заўсёды пісалі пра гэтае палатно са згадкаю, што яно выканана пад моцным уплывам Тыцыяна. Безумоўна, тэарэтычна так яно і ёсць, але перад гэтым палатном не думаеш пра тэорыі і ўплывы — яно зачароўвае душу трапяткой жыццёвасцю і сапраўдным драматызмам. Да гэтай тэмы Бассано звярнуўся яшчэ раз праз 10 гадоў, але ў пазнейшай карціне ўжо няма таго подыху жыцця: мастак захапіўся фармальным эксперыментам і пачаў размаўляць на пластычнай мове маньерызму. Зусім іншаю атрымалася работа на тую ж тэму, а ранейшаму твору мастака прысвяціў натхнёныя радкі ў сваёй манаграфіі пра яго творчасць італьянскі мастацтвазнаўца П'етро Дзампэці: «Ранішняе святло, яшчэ халоднае, без цеплыні, ахутвае постаці, замыкае кожную з іх ва ўласнай велічы, простай і строгай: атмасфера чароўная, але трывожная і поўная глыбокіх думак»[1].

Кампазіцыя гэтай карціны шматфігурная. Мастакі не так часта малявалі дадатковыя фігуры ў сцэне ўцёкаў Св. Сям'і. Лічыцца, што Бассано арыентаваўся на знакамітую фрэску Джота ў Капліцы дэльі Скравэны ў Падуі (1304–1306). Разам з Мадоннай, Дзіцем і св. Юзафам крочаць тры асобы: два юнакі і адзін больш сталы мужчына. Лічыцца, што гэта персанажы, згаданыя ў апокрыфах. У Протаевангеллі Якуба напісана, што св. Юзаф узяў з сабою на перапіс у Бэтлеем таксама сыноў ад першага шлюба. Пра трох юнакоў згадвае таксама псеўда-Мацвей. Кампазіцыя, такім чынам, набывае рысы народнай драмы.

Спрыяе такой трактоўцы і пейзажнае наваколле, фон карціны. Палестына Бассано — гэта родны рэгіён Венето. Даўно ідэнтыфікаваны канкрэтныя пейзажныя матывы кампазіцыі. Удалечыні сінеюць вяршыні Апенінаў, перад якімі ўзвышаюцца вежы і муры замка сям'і Эдзэліні. У левай частцы кампазіцыі небасхіл засці-

нае высокі пагорак Дзі Рамано. Усё роднае і дарагое мастаку.

Шэсце ўцекачоў разгортваецца ля самага краю вялікага палатна, іх фігуры паказаны амаль у рэальны чалавечы рост. Не можаш пазбавіцца ад уражання, што драма разгортваецца ў рэальнай прасторы і проста перад табою. Жыццёвасць карціны, зразумела, дэтэрмінаваная апантанаю працаю мастака на эцюдах і з натуршчыкамі, але не гэтыя тэхнічныя дэталі важныя для поспеху карціны. Безумоўна, Бассано перажыў і бачыў няшчасных уцекачоў на дарогах Італіі. Амаль усё XVI стагоддзе на яго радзіме палалі так званыя Італьянскія войны, германскія імператары з натоўпамі наёмнікаў імкнуліся падпарадкаваць сабе благаслаўлёны край. Драма Святой Сям'і, якая ратуе Дзіця, паўтаралася з пакалення ў пакаленне — іроды не пераводзіліся на грэшнай зямлі.

Франтальная кампазіцыя падпарадкавана адзінаму руху: уцекачы імкнуцца наперад па дарозе, паказанай ім Богам. Першым крочыць св. Юзаф. Пажылы, сівы чалавек, ён абапіраецца на кій, ідзе цяжка, але энергічна. Яму дае сілу Божая ласка. Ягоная нахіленая постаць (нельга пазбавіцца ад гэтай рэфлексіі) нагадвае фігуры бурлакоў з карціны Ілл Рэпіна. На ім цяжар не толькі старасці і нямогласці — ён адказны за лёс тых, хто ідзе побач з ім. Дынамічная тэндэнцыя працягваецца ў постаці хлопца, які ідзе за св. Юзафам. Ён нясе на плячы невялікую дарожную сумку і, павярнуўшы галаву, глядзіць на нас. Узнікае рэдкі ў мастацтве кантакт з светам карціны, героі якой становяцца нам яшчэ бліжэй.

Дакладна ў сярэдзіне кампазіцыі — выява Мадонны з Дзіцем на руках. Яна сядзіць на асле, пяшчотна трымаючы Хрыста. Голенькае Дзіця раскінула ручкі і ножкі і спакойна глядзіць у вочы Маці, якая лёгка схіляе над Ім галаву і адказвае поўным любові позіркам. Мы нібыта чуем цоканне капытаў асла па цвёрдай глебе. Жывёліна крочыць спакойна і ўпэўнена — яна ёсць інструментам Божай волі. І ў цэлым уся гэтая група, замкнёная ў адзіны сілуэт, уражвае сваёй стабільнасцю. Мастак гаворыць нам, што выратаванне прадвызначана, што зло няздольнае нашкодзіць Святой Сям'і. Схіленая галава Мадонны і плаўная, цякучая лінія Яе пляча – адзінае, што перасякае рысу небасхілу і чытаецца на фоне ранішняга неба, кранутага халодным святлом. Але і тут мастак не адмаўляецца ад трывожнага кампазіцыйнага кантрапункта. Чужым, нават брутальным элементам уключаны ў цэнтральную частку кампазіцыі сілуэт ствала дрэва. Ствол перакрэслівае небасхіл і нібы імкнецца затрымаць Мадонну з Дзіцем. А за Імі ўзнімаецца гара як сімвал пераадоленай перашкоды і небяспекі, што засталася ззаду. Замыкаюць фігурную кампазіцыю выявы сталага, мажнага селяніна з моцнымі мускуламі рук і ног і юнака, які павярнуў да яго сваю прыгожую галаву. Паміж імі ідзе размова — нячутная *Sacra Conversazione* каталіцкіх палотнаў. Юнак паказвае на Мадонну з Хрыстом і тлумачыць мужчыну, чаму ім трэба ратавацца.

Мікракосмас карціны таксама мае сімвалічную напоўненасць. Дзіця сціскае ў левай ручцы гронку з ягадкамі вішні. «Il frutto del paradiso» («райскі плод») — так называлі вішню ў тую эпоху, і даволі часта мастакі змяшчалі яе выяву ў сваіх рэлігійных творах. З зацікаўленасцю батаніка Бассано малюе выявы раслінаў пад нагамі ўцекачоў. Гэта кветкі чамеркі, маргарыткі, малыя рамонкі – даўнія марыйныя і хрысталагічныя сімвалы.

Каларыт карціны ўражвае сваёю свежасцю і насычанасцю. Жоўты плашч св. Юзафа — самы гучны колеравы фрагмент кампазіцыі. Светлым рэхам адбіваецца побач з ім ружовы, з яркімі белымі расплывамі колер вопраткі юнака. Класічная традыцыйная гармонія блакітнага і ружовага ў постаці Марыі надае кампазіцыі завершанасць і спакой. Вялікія колеравыя масы спалучаюцца ў карціне з далікатнай працай тонкімі пэндзлямі. Бассано цудоўна выканаў празрысты вэлюм на галаве і плячах Мадонны, за які чапляецца рухавым жэстам правай ручкі Дзіця. Магутная парода гары, зменлівае святло і блакіт неба, карнацыя фігураў — усё выканана мастаком бліскуча.

...Агледжана вялікая экспазіцыя, можна пакідаць музей. Але ад парога ногі самі нясуць па лесвіцы назад да гэтай карціны, з якою няма сілы развітацца. А на бруку, каля моста над Брэнтаю, у думках вяртаешся да маэстра Якопа, які абяссмерціў імя свайго горада...

*Валеры Буйвал*

[1] *P. Zampetti. Jacopo Bassano. — Milano*, 1964. — С. 2.

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.

Тамаш Кэмпійскі

# СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ

## Чатыры кніжкі

*З лацінскай мовы пераклаў д-р Ст. Грынкевіч*

**КНІЖКА ЧАЦЬВЁРТАЯ**

**АБ НАЙСЬВЯЦЕЙШЫМ САКРАМЭНЦЕ**

Пабожны заклік да сьвятой Камуніі

### Разьдзел XVI

*Трэба зьвяртацца да Хрыста пры ўсенькіх нашых патрэбах ды прасіць Яго ласкі*

**1.** О найсалодшы і наймілейшы Пане, якога імкнуся цяпер я пабожна прыняць; Ты ведаеш, у якіх благоцьцях і праступках зануранproblematы я, як часта мне цяжка надта, як часта мяне спакушаюць, турбуюць надта, ды як часта ўпадаю.

Прыходжу да Цябе па лекі, малюся — дай мне пацеху ды палёгку.

Клічу Цябе, які ўсё ведаеш, якому адчынены ўсенькія патайныя справы сэрца майго і які адзін толькі здолееш дасканальна мяне пацешыць і памагчы мне.

Ты ведаеш, чаго найбольш мне трэба, які я бедны на цноты.

**2.** Вось стаю перад Табою мізэрны і нагі, просячы ласкі ды молячыся аб міласэрнасьці.

Накармі галоднага жабрака Твайго, запалі халоднасьць маю агнём Тваёй любові, дай сьвятло сьляпым вачом маім яснатою прысутнасьці сваёй.

Пераінакшы ўсенькія роскашы на зямлі на самае гаркаценьне, каб ўсенькія зьдзекі ды беды навучылі цярплівасьці мяне, каб на ўсякае марнае стварэньне забыўся я зусім.

Падымі сэрца маё да сябе ў неба і ня дай, каб блудзіўся я па зямлі.

Ты адзін будзь маім захопленьнем ад цяпер аж на векі, бо Ты адзін стравою ды піцьцём маім, любоўю маёю і радасьцю маёю, салодкасьцю маёю ды ўсенькім маім дабром.

**3.** О каб жа паліў Ты мяне ўсенькага прысутнасьцю сваёю ды спаліў і перамяніў сабе. О каб жа быў я духам з Табою адным праз ласку ўнутранае лучнасьці ды палаючае любові.

Ня дай, Пане, каб я галодны ды з смагаю ад Цябе адышоў, але паступай са мною паводле міласэрнасьці Тваёй, як гэтак часта паступаў Ты цудоўна з сваімі сьвятымі.

Ці ж было б гэта нешта незвычайнае, калі б, гаручы ад Цябе ўсенькі, сам дзеля сябе ўшчэнт я згарэў, бо ж Ты агонь палкі заўсёды і ніколі гарэць не пакідаеш; бо ж Ты любоў, што сэрца ачышчаеш ды даеш сьвятло розуму нашаму.

### Разьдзел XVII

*Аб гарачай міласьці і найжывейшым пажаданьні Цела Хрыстовага*

**1.** З найвялікшаю пабожнасьцю, з гарачай міласьцяй, з сэрцам, поўным чуцьця ды палкасьці, імкнуся, каб Цябе, Пане, прыняць гэтак, як шмат якія людзі пабожныя імкнуліся і якія сьвятасьцю жыцьця свайго найбольш былі ўспадобу Табе ды жылі ў найвялікшай пабожнасьці.

О Божа мой, любоў спрадвечная, усенькае маё дабро, шчасьлівасьць бязмерная, — хачу прыняць Цябе з найгарачэйшым жаданьнем, з найвялікшаю пашанаю, з гэткаю, якую калі-кольвек і які-кольвек сьвяты мог мець і адчуваць.

А хаця і недастойны я карыстацца ўсенькімі дарамі гэткае пабожнасьці, аднак ахвярую Табе ўсенькае сэрца сваё з усімі ўчуцьцямі, быццам адзін я меў іх усе — найбольш мілыя Табе.

І што толькі душа пабожная ўцяміць ці пажадаць здолее, усё гэта Табе з найвышэйшаю чэсьцю ды з найвялікшаю сардэчнасьцю аддаю ды ахвярую.

Нічога пакідаць сабе не хачу, а сябе і ўсё сваё самахоць з найвялікшым вясельлем кладу перад Табою.

Пане Божа мой, Стварыцелю мой, Збаўца мой — імкнуўся б я прыняць Цябе сёньня з гэткім учуцьцем, пашанаю, з чэсьцю ды хвалаю, з гэткаю падзячнасьцю, дастойнасьцю ды любоўю, з гэткаю вераю, надзеяю ды чыстасьцю, зь якімі прымала Цябе ды

*Заканчэнне. Пачатак у 1–4 за 2007–2011 гг. і 1–3 за 2012 г.*

імкнулася да Цябе Найсьвяцейшая Маці Твая, бласлаўлёная Дзева Марыя, калі пакорна ды пабожна адказала анёлу, што аб'яўляў Ёй Тайніцу ўчалавечаньня: *Вось я — слуга Твая, хай будзе мне паводле слова Твайго* (Лк 1, 38).

**3.** Дык гэтак, як бласлаўлёны папярэднік Твой, найвялікшы зь сьвятых — Ян Хрысьціцель, які задрыжэў з радасьці, будучы яшчэ ва ўлоньні мацеры, ад прысутнасьці Тваёй і цешыўся вясельлем Духа Сьвятога, а потым, убачыўшы Езуса, ідучага сярод людзей, з вялікай пакорай і пабожным учуцьцём гэтак кажа: *Прыяцель улюбёнцаў, што стаіць ды ўслухаецца Яго, вясельлем весяліцца дзеля голасу улюбёнца* (Ян 3, 29) — гэтак і я хацеў бы гарэць вялікімі і сьвятымі пажаданьнямі ды самога сябе з усенькага сэрца Табе ахвяраваць.

Дзеля гэтага ахвярую Табе і кладу перад Табою радасныя захопленьні сэрцаў усенькіх, палкую любоў, вясельле душы, надпрыродныя аб'яўленьні і нябесныя з'явы, ахвярую ўсенькія цноты ды чэсьць, якую Табе выказавюць і будуць выказваць усе стварэньні на небе і на зямлі; усё гэта ахвярую за сябе і за тых усіх, за каго мне трэба маліцца, каб усе дастойна Цябе выхвалялі ды заўсёды славілі.

**4.** Прымі, Пане Божа, прырачэньні мае і пажаданьні мае аддаваць Табе хвалу бязконцую ды бязмерныя бласлаўленьні, бо ж усё гэта прыналежна па праву Табе, дзеля невыказнае Твае вялікасьці.

Гэта ўсё ахвярую Табе ды імкнуся, каб ахвяроўваць кожны дзень і кожную хвіліну, а ў малітвах маіх клічу ўсім сэрцам духаў усіх нябесных ды ўсенькіх верных Тваіх, каб адначасна са мною дзякавалі Табе і выхвалялі Цябе.

**5.** Няхай выхваляюць Цябе народы сусьвету, пляменьні і ўсенькія мовы, а сьвятое ды мёдаточнае Імя Тваё няхай выслаўляюць у найвялікшым захопленьні ды з палкаю пабожнасьцю.

А тыя ўсе, што з пашанаю належнаю ды з пабожнасьцю Найсьвяцейшы Твой Сакрамэнт сьвяцяць і з поўнаю вераю Яго прымаюць, няхай ласку ды міласэрнасьць знойдуць перад Табою ды вымаляць тое самае дзеля мяне грэшнага.

А калі збудзецца іхнае пажаданьне і будуць карыстацца дарам лучнасьці сьвятое з Табою, а цудоўна пацешаныя ды накормленыя з сьвятога стала Твайго нябеснага будуць стуль ужо адыходзіць, няхай спамянуць і аба мне, бедным, перад Табою.

### Разьдзел XVIII

*Няхай чалавек не дасьледжвае з цікаўнасьці Тайніцы сьв. Сакрамэнту, але няхай пакорна насьледуе Хрыста, аддаючы свой розум пад уладу веры сьвятой*

**1.** Сьцеражыся цікаўных і бескарысных досьледаў гэтае бязмерна глыбокае Тайніцы Сакрамэнту, калі ня хочаш занурыцца ў протхлі сумніваў.

*Той, хто хоча здасьледаваць Божую Веліч, будзе прыцiснуты славаю Ягонаю* (Прып 25, 27). Больш здолее зрабіць Бог, чымся чалавек сьцяміць розумам. Няма забаронаў пабожна ды пакорна шукаць праўды, абы толькі заўсёды вучыцца ахвотна ды сьледаваць за здаровымі думкамі айцоў сьвятых.

2. Бласлаўлёная прастата, што мінае заблытаныя сьцежкі цяжкіх пытаньняў, а ідзе простым ды пэўным шляхам Божых загадаў.

Шмат хто веру згубіў, хочучы сьцяміць тое, што вялікшае за іх розум. Бог веры хоча ад цябе ды жыцьця добрага, а не вялікага розуму ды досьледаў над Тайніцамі Ягонымі.

Калі ня здолееш сьцяміць ані агарнуць таго, што ніжэй за цябе, дык якім чынам хочаш ты сьцяміць тое, што высока над табою?

Спакарыся перад Богам, аддай веры ўладу пад пачуцьцямі, і будзеш карыстацца сьвятлом мудрасьці, наколькі яно табе будзе карысным ды неабходным.

3. Іншыя шмат сустракаюць спакусаў адносна веры ды Сакрамэнту, але ня іх самых за гэта вінаваціць трэба, а больш ворага душы іхнай.

Не турбуйся надта, не пачынай гутаркі з думкамі сваімі ды не адказвай на сумнівы, што нагортвае нячысьцік на цябе, а вер словам Бога, вер сьвятым Яго ды прарокам, дык прападзе вораг твой.

Часта надта карысна дзеля слугі Божага, калі вытрывае ён гэта.

Бо няверных ды грэшнікаў нячысьцік ужо не спакушае, бо ўжо бясьпечна імі валодае, а верных пабожных усяляк ён мучыць ды спакушае.

4. Дык ідзі і далей у шчырай і бяссумніўнай веры ды з пакорнаю пашанаю прыступай да сьв. Сакрамэнту.

А калі чаго добра сьцяміць не патрапіш — даручы гэта спакойна Богу ўсемагутнаму.

Бог не абманвае, абманваецца той толькі чалавек, што зашмат на сябе спадзяецца.

Бог ахвотна прабывае з простымі людзьмі ды аб'яўляецца пакорным; малым дае ўцямак; адчыняе засланкі з Тайніцаў сваіх людзям чыстага духу, а хавае сваю ласку перад пышнымі ды надта цікаўнымі. Розум чалавецкі нядужы і можа памыліцца; вера ж шчырая ніколі ня мыляецца.

5. Розум і ўсякія ягоныя досьледы няхай ідуць за вераю, а не папярэджваюць і не ламаюць яе.

Бо вера і любоў тутака важныя найбольш, і таёмнымі спосабамі дзеюць яны ў гэтым найсьвяцейшым ды найвышэйшым Сакрамэнце.

Спрадвечны і бязмежны ёсьць Бог, і з магутнасьцю бязконцаю Ён дзеіць на небе і на зямлі вялікія і таёмныя справы, і немагчыма дасьледзіць розумам Ягоныя чыны цудоўныя.

Калі б гэткія былі Божыя справы, што лёгка сьцяміў бы іх розум чалавецкі, ня былі б яны цудоўнымі і няможна было б гаварыць аб іх невыказнасьці.

# Кавалер Ордэну ўсмешкі

*Ян Твардоўскі. Разам з Табою: выбраныя вершы // Пераклады з польскай Дануты Бічэль і Крыстыны Лялько. — Мінск, «Про Хрысто». — 312 стар.*



Аднойчы, будучы ў Варшаве, я зайшоў у кнігарню паблізу Тэатральнай плошчы. Заўважыўшы маё зацікаўленне польскай паэзіяй, ветлівая пані параіла звярнуць увагу на адну кніжную паліцу. На ёй стаяла кніг трыццаць — рознага фармату і формы. Былі там кнігі-мініяцюры і падарункавыя фаліянты, кнігі ў бліскучых супервокладках і факсімільныя перавыданні. Была нават кніга, зробленая ў форме сэрца!

Ва ўсіх гэтых кніг быў адзін аўтар — невядомы мне Ян Твардоўскі. Я ўзяў у рукі прыемны на дотык томік, разгарнуў і прачытаў: *«Kiedy Bóg drzwi zamyka — to otwiera okno»*. Гэты радок настолькі ўразіў мяне сваёй глыбінёй, што я згроб усю тую паліцу ў абярэмак і пад здзіўленым позіркам прыязнай прадавачкі прыладкаваўся за нізенькім столікам у куце кнігарні...

Праз гадзіну я выйшаў на вуліцу трошкі іншым чалавекам. Лепшым за таго, які нядаўна от так сабе, ад няма чаго рабіць тузянуў дзверы тае кнігарні. Ці шмат увогуле на свеце кніг, якія вокамгненна нас паляпшаюць? Яшчэ пару гадзінаў таму я бязмэтна блукаў па Варшаве, недзе глыбока ў памяці трымаючы двух Твардоўскіх. Адзін з іх, беларус з паходжання, стаў выдатным рускім паэтам, рэдактарам найлепшага ў СССР літаратурнага часопіса. У часы партыйных ганенняў на Васіля Быкава ён насуперак усім загадам зверху друкаваў земляка, а аднойчы з Масквы ў Гародню, дзе жыў тады апальны пісьменнік, праслаў паштоўку з памятнымі з юнацтва словамі падтрымкі — *усё мінецца, а праўда застанецца*. Ні характарам, ні аблічам ён не вельмі ўпісваўся ў маскоўскія літаратурныя прэзідыумы, дзе яго за вочы пагардліва называлі мянушкай з этнічным прыцэлам — *чудь белоглазая*.

Звалі таго паэта і рэдактара Аляксандр Твардоўскі.

Другі Твардоўскі быў з ліку маіх улюбёных літаратурных герояў — гэта ён у вядомай баладзе Адама Міцкевіча перадасціпнічаў нячысціка ў наваградскай карчме пад назвай «Рым».

І вось у маім жыцці з'явіўся трэці Твардоўскі — Ян — і засланіў сабою ўсіх астатніх.

У той варшаўскай вандроўцы я ўсё ж схітрыўся заашчадзіць колькі дзясяткаў злотых і дамоў вярнуўся з кніжкай паэта-ксяндза «Budzić nadzieję». А неўзабаве ў менскай «Духоўнай кнізе» (рэкамендую гэтую кнігарню ўсім беларускім чытачам!) трапіліся мне вершы Яна Твардоўскага ў перакладзе на рускую мову. Таксама набыў. Яшчэ і па той прычыне, што адным з перакладчыкаў значыўся там масквіч Андрэй Базілеўскі — мой даўні знаёмец. Неяк на адным з міжнародных паэтычных фестываляў, здзіўлены яго бездакорнай польскай мовай (для масквічоў з'ява даволі рэдкая) і западозрыўшы ў ім тую самую «чудь белоглазую», я напаўжартам пацікавіўся ў Андрэя — з якіх базілеўсаў ён выводзіць свой радавод? І пачуў у адказ прадказальнае — мой бацька з Беларусі, з Віцебскай вобласці...

Помніцца, сваім прыпозненым адкрыццём вялікага паэта-мысляра я падзяліўся з рэдактаркай «Нашай веры» Хрысцінай Лялько. І як жа быў усцешаны, калі пачуў ад яе, што рыхтуецца кніга Яна Твардоўскага па-беларуску. І вось яна выйшла ў выдавецтве «Про Хрысто» — на паспалітае чытанне і добрае навучанне, калі пакарыстацца слаўным скарынаўскім дабраславеннем.

Кніга «Разам з Табою» — гэта паэтычны Ружанец, які кліча да роздуму і да малітвы; перабіраеш вершы-пацеркі — і змрочны свет робіцца яснейшым, а нам сёння гэтак бракуе яснасці свету!

Кніга «Разам з Табою», як спрактыкаваны лекар, робіць чытачу небалючыя прышчэпкі веры ў несмяротнасць чалавечай душы. Я ўпэўнены — нават зацятага матэрыяліста прымусіць задумацца ну хоць бы такі радок: *«Смерць — хвіліна найбольшай надзеі»*.

У кнізе «Разам з Табою» з усмешкай гаворыцца пра рэчы сакральныя, але гэта не дэсакралізуе і не прыніжае іх. Ці гэта просьба да Крыжа, каб не прыходзіў у наш свет без Укрыжавання. Ці гэта іранічны пасаж наконт фіранак у стаенцы, дзе нарадзіўся Збаўца. А як вам та-

кая замалёўка, зробленая (аж не верыцца) паэтам-ксяндзом?

*Мой Бог галодны*
*худое цела і рэбры*
*не мае грошай*
*высокіх катэдраў са срэбра*
*Не памагаюць яму*
*доўгія песні і свечкі*
*упалыя грудзі*
*лекаў не хоча з аптэчкі...*

Неяк аўтару гэтых радкоў давялося выступаць з чытаннем вершаў у касцёле (цяпер літаратурныя сустрэчы ў храмах — не рэдкасць). Прагучалі тады і радкі пра тое, як *«не можа ніяк — увесьчасна занята — дазваніцца да Бога адноўлены храм»*. Пасля сустрэчы да мяне падышла сур'ёзная кабета і наківала пальцам — больш так, малады чалавек, не багахульствуйце. Пачытала б яна Яна Твардоўскага, у яго падобнага «багахульства» — тры корабы з каптуром.

І яшчэ адно адхіленне ў сваё, асабістае. Калі мы з братамі ўсталёўвалі надмагільны помнік па бацьку, паўстала пытанне — а што на ім напісаць? Думалі-прагаворвалі, а да згоды аніяк прыйсці не маглі. Тады я ўзяў Біблію і папрасіў аднаго з братоў назваць старонку і нумар радка зверху. Прагучалі дзве адвольныя лічбы. Я разгарнуў Кнігу кніг і прачытаў нібы адмыслова напісанае для эпітафіі: *«Душа мая да Цябе прыляпілася, і Ты трымаеш яе ў дзясніцы сваёй»*.

Чаму мне гэта прыгадалася? Бо Ян Твардоўскі падобным спосабам выбіраў назвы для сваіх зборнікаў!

Ён быў мудрацом і любіў паглыбіцца ў одум на лавачцы пад лістоўніцай, што расла паблізу яго сціплай, як манаская келля, кватэркі пры касцёле сясцёр візітантак у Варшаве. У той кватэрцы ён жыў разам з парцалянавымі анёламі і драўлянымі пеўнікамі, што скакалі па падваконні, а ў шыбах зіхацелі каляровыя батлеечныя вітражы.

Ён любіў усё жывое, у сваіх паэтычных казанях ён размаўляў з кветкамі, птушкамі і дрэвамі, а яго ўлюбёным лірычным героем была... божая кароўка, якая павольна перапаўзала з верша ў верш ды так і засталася на вокладцы адной з ягоных кніг.

Ён ведаў, што самая вялікая каштоўнасць у свеце — любоў, і перад няспынным гадзіннікам вечнасці заклікаў сваіх чытачоў: *«Спяшаймася любіць людзей!»*.

Яна Твардоўскага называлі паэтам Хрыста, які ўсміхаецца, і гэта вельмі трапнае і дакладнае вызначэнне!

Імем паэта-ксяндза ў Польшчы названыя больш за 200 (!) школаў і бібліятэк, ён быў доктарам *honoris causa* Люблінскага ўніверсітэта, атрымаў вельмі шмат розных прэміяў і ўзнагародаў, у ліку якіх і найганаровейшы Камандорскі крыж Ордэна адраджэння Польшчы. Але, як мне падаецца, знакі дзяржаўнай увагі не асабліва цікавілі паэта. Праўда, быў ва ўзнагародным спісе Яна Твардоўскага незвычайны ордэн — польскія дзеці ўганаравалі яго Ордэнам усмешкі! Паэт атрымаў узнагароду з будучыні, і гэта найлепшае прызнанне для творцы.

Сам Ян Твардоўскі пра сваё служэнне Богу і паэзіі сказаў так: *«У свеце бязвер'я спрабую гаварыць пра веру, у свеце без надзеі — пра надзею, у свеце без любові — пра любоў»*. І яго творчасць, што грунтуецца на веры, надзеі і любові, — гэта паэтычнае кварцаванне прасторы, пасля чаго знікаюць бацылы бязвер'я, адчаю і нянавісці.

Калісьці ўжо прыгаданы ў гэтых нататках другі Твардоўскі (не той, які перахітрыў нячысціка ў карчме «Рым») параўнаў паэтычны пераклад з высушаным сенам, а арыгінал — з пахучай сакавітай канюшынай.

Перакладчыцы кнігі «Разам з Табою» — Данута Бічэль і Хрысціна Лялько — аспрэчылі гэтыя словы. Паэзія Яна Твардоўскага ў іхнім перакладзе не страціла ні калiва сваёй першароднай вобразнай красы і філасофскай сілы. Думаю, што гэта была нялёгкая праца, параўнальная, хіба, з перакладам богаслужбовых тэкстаў.

На жаль (і гэта адзіны выпадак, калі, загарнуўшы кнігу «Разам з Табою», хочацца прамовіць — на жаль), у беларускі зборнік Яна Твардоўскага не патрапіў адзін верш, які запыніў маю ўвагу яшчэ ў той шчаслівай для мяне варшаўскай кнігарні. Я яго проста перакажу сваімі словамі, не прэтэндуючы на эквілінеарнасць ды іншыя патрабаванні перакладчыцкага рамяства. Верш мае назву «Больш нічога».

*«Бог мой» — напісаў ён. І закрэсліў, падумаўшы: настолькі ж мой, наколькі я эгаіст. Напісаў «Бог людзей» і — прыкусіў язык, згадаўшы, што ёсць яшчэ анёлы і камяні, падобныя ў снезе на зайцоў. Нарэшце напісаў проста «Бог». Больш нічога. Бо і так напісаў занадта шмат».*

Ян Твардоўскі працаваў, як Радэн. Скульптар прызнаваўся, што бярэ мармуровую глыбу і проста адсякае ўсё непатрэбнае. Паэт з безлічы словаў таксама пакідаў у вершы мінімум, гаворачы пры гэтым пра многае.

І ашчаслiўлены будзе той, хто пачуе гэтага кавалера Ордэну ўсмешкі.

*Міхась СКОБЛА*

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі XX ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.




# Гісторыя Касцёла: асаблівасці і тонкасці даследавання.

## Манаграфія Уладзіміра Васькова «Каталікі на абшарах Панізоўя і Севершчыны: Гісторыя Гомельскага дэканата»

У вывучэнні гісторыі Касцёла прадметам даследавання могуць стаць Касцёл як рэлігійная структура, літургія, веравучэнне, а таксама адносіны Касцёла і дзяржавы, яго культурны ўплыў. Безумоўна, па-за ўвагаю не можа застацца роля асобы ў гісторыі Касцёла (святара, законніка альбо проста верніка, чалавека добрай волі).

Гісторыя Касцёла дапамагае не толькі раскрываць малавядомыя старонкі мінулага, але і ўзрастаць духоўна, не забываючыся, што кожная падзея – гэта не проста вынік чалавечай дзейнасці, а своеасаблівая размова Бога і чалавека. Французскі гісторык Г. Бедуэл, аналізуючы гісторыю Касцёла, звярнуўшыся да словаў папы Паўла VI, адзначыў, што не толькі ад чалавека залежыць лёс чалавецтва. Ён вызначаецца і іншым фактарам, дзеянне якога амаль немагчыма вымераць, але які, безумоўна, уплывае на план чалавечай гісторыі. Гэтым фактарам з'яўляецца Божая воля — яе нябачная прысутнасць у часе і паміж людзьмі таксама робіць з гісторыі таямніцу. Калі размова ідзе пра гісторыю Касцёла, гэта таямніца становіцца аб'ектам сузірання, і зразумець яе – задача надзвычай тонкая і цяжкая. «У гісторыка няма іншага шляху: ён павінен пільна ўглядацца ў вертыкальнае вымярэнне часу, які з'яўляецца амаль свяшчэнным дарам, і спасцігаць напружанне паміж грахом і Божай міласэрнасцю. Бо час каштоўны тады, калі рухаецца ў праўдзівым кірунку, — да Бога»[1].

Трымаючы ў руках кнігу Уладзіміра Васькова «Каталікі на абшарах Панізоўя і Севершчыны: Гісторыя Гомельскага дэканата» (выдавецтва «Про Хрысто», 2012 г.) можна парадавацца, што гісторыя Касцёла, і асабліва гісторыя Касцёла ў Беларусі, застаецца запатрабаванаю. Аўтар, беларус па паходжанні, каталік, які ўжо шмат гадоў жыве ў Расіі, захоплены гісторыяй, не пашкадаваў уласнага часу, каб падрыхтаваць да друку вынікі сваёй працы, прысвечанай вывучэнню традыцый родных мясцінаў. І можна сказаць, што праца гэта была не аматарскай. Ужо тое, што пры падрыхтоўцы выдання ішло цеснае супрацоўніцтва У. Васькова з гісторыкамі і святарамі, у тым ліку з дэканам Гомельскага дэканата ксяндзом Славамірам Ляскоўскім, сведчыць пра актуальнасць напісанай працы, і застаецца надзея, што вопыт напісання такога кшталту даследавання будзе працягнуты беларускімі гісторыкамі.

Манаграфія складаецца з дзвюх частак, дзе аўтар апісвае гісторыю Рыма-каталіцкага Касцёла Беларусі на прыкладзе асобных парафіяў Гомельскага дэканата Магілёўскай архідыяцэзіі, а таксама лёсы людзей, звязаных з каталіцтвам на Гомельшчыне. Трэба адзначыць смелую спробу аўтара разгледзець гісторыю Гомельшчыны праз прызму лакальнай гісторыі, а, як вядома, мікрагістарычны падыход дае магчымасць новага погляду на станаўлен-

не гістарычных структураў і гістарычныя працэсы.

Зварот да лакальнай гісторыі актуальны ў сучаснай гістарычнай навуцы, калі вывучаецца не проста вызначаная тэрыторыя, а «мікрасупольнасць», згуртаванне людзей, якія займаюцца акрэсленай гістарычнай дзейнасцю[2]. У апошні час, калі гістарычныя даследаванні адрозніваюцца разнастайнасцю метадалогій, з'явілася неабходнасць стварэння цэласнай карціны на новым узроўні, які б уключаў дасягненні «вузкіх гісторый». У пэўным сэнсе мікрагісторыя з'яўляецца адным з магчымых шляхоў гістарычнага сінтэзу, калі за мэту абіраецца аднаўленне суцэльнай карціны хаця б у маштабах мікрарэгіёна ці вузкай сацыяльнай групы[3].

Гістарычныя падзеі, што знайшлі адлюстраванне на старонках кнігі У. Васькова, ахопліваюць даволі працяглы кавалак часу, а дакладней, ад XII ст. і да сучаснасці. На першы погляд, амаль немагчыма ахапіць такі працяглы перыяд грунтоўным даследаваннем, але аўтар не ставіў мэтаю напісаць дысертацыю (хаця для гэтага ўжо ёсць добрая аснова). Неабходна заўважыць, што ўсе падзеі ў гісторыі Касцёла Гомельшчыны даследчык спрабуе паказваць на фоне палітычнай гісторыі Беларусі. Аўтар дае храналагічны агляд гісторыі каталіцтва ў межах аднаго дэканата, адзначаючы асаблівасці існавання Рыма-каталіцкага Касцёла ва ўмовах русіфікатарскай палітыкі Расійскай імперыі, якая імкнулася максімальна абязлічыць так званы «Северо-Западный край» і зрабіць беларускія землі шараговым расійскім рэгіёнам. Цяжкасці, што выпалі на долю Касцёла ў часы росквіту антырэлігійнай савецкай ідэалогіі, не абмінулі і Гомельшчыну. Аўтар засяроджваецца на лёсах людзей, пацярпелых ад рэпрэсій, на лёсах тых вернікаў, якія складалі жывы Касцёл. Уладзімір Васькоў трапна заўважыў, што, нягледзячы на тое, што «пра Гомельшчыну часта гаворыцца як пра тэрыторыю, дзе каталіцтва не мае моцных каранёў і з'яўляецца чужародным элементам», адраджэнне Касцёла ва Усходняй Беларусі ўсё ж адбылося, а ў 2007 г. рашэннем Апостальскага Адміністратара Пінскай дыяцэзіі кардынала Казіміра Свёнтка быў створаны Гомельскі дэканат.

Аўтар імкнуўся вельмі дакладна, сумленна падаць усю назапашаную ім інфармацыю. Даследаванне грунтуецца на архіўных і апублікаваных гістарычных крыніцах; відавочна, што была апрацавана значная гістарыяграфічная база. Агляд падзеяў на Гомельшчыне суправаджаецца паглыбленнямі ў гістарычныя рэаліі і ўдакладненнямі, якія могуць быць карыснымі для разумення сутнасці апісанай рэчаіснасці.

Актуальнасць манаграфіі У. Васькова заключаецца не толькі ў слабай распрацаванасці гэтай тэматыкі, неабходнасці больш дэталёвага даследавання гісторыі Касцёла ў Беларусі. Публікацыя працы У. Васькова якраз супала са святкаваннем 870-гадовага юбілею Гомеля. Можна лічыць, што падарунак гораду аказаўся дастойным, бо менавіта гісторыя Гомеля знаходзіцца ў кнізе на першым плане.

Напэўна, прафесійныя гісторыкі змогуць знайсці ў манаграфіі нейкія хібы і недакладнасці. Але галоўнае тое, што аўтар не пабаяўся крытыкі і зрабіў крок да таго, каб папулярызаваць гісторыю Касцёла, гісторыю Беларусі і зацікавіць кожнага зазірнуць у мінулае сваёй уласнай парафіі.

*Алена Шымак*

[1] Бедуэлл Ги. История Церкви. – Москва: Христианская Россия, 1996. – 304 с.
[2] Гамаюнов С. А. Местная история: проблемы методологии // Вопросы истории. 1996. 9. — С. 161.
[3] Насевіч В. Мікрагісторыя: мінулае ў чалавечым вымярэнні // Беларускі гістарычны агляд. Т. 6. Сш. 1–2 (10–11). Снежань 1999. — С. 133–151.

**Алена ШЫМАК** — кандыдат гістарычных навук, старшы выкладчык кафедры гісторыі Расіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Даследуе пытанні знешняй палітыкі ва Усходняй Еўропе ў XVI ст. Аўтар публікацый па гісторыі ўзаемаадносінаў Расійскай дзяржавы і Апостальскай Сталіцы.



# Пра рэстаўрацыю святыні і людскіх душаў...

Усё, што адбываецца, адбываецца па волі Божай. Некаторыя здарэнні могуць прыносіць нам боль, аднак Бог вучыць нас таксама і праз непрыемнасці. Падчас вучобы ў семінарыі я заўсёды маліўся такою вось кароткаю малітваю: «Божа, учыні мяне малатком, каб я мог заганяць цвікі веры ў людскія сэрцы». Стаўшы святаром, я крыху забыў пра гэтую малітву, а ўзгадаў пра яе толькі тады, калі мяне адправілі вучыцца ў Рым. У душы я быў супраць гэтага, бо толькі-толькі прыехаў працаваць у тракельскую парафію, распачаў там рамонт, а тут трэба выпраўляцца ў далёкую краіну, нават не валодаючы яе мовую. Акурат у той час я ўспомніў сваю даўнейшую малітву. І паехаў...

Праз чатыры гады, у 2004-м, я вярнуўся ў Гродна і пачаў працаваць у катэдры. У 2005 годзе там адбылася каранацыя абраза Маці Божай Кангрэгацкай. Увесь гэты час я мучыўся пытаннем: з чаго пачаць у касцёле рамонт?.. Перад самым пажарам я быў у адпачынку на моры і там думаў пра рамонт ды працягваў маліцца ў гэтай інтэнцыі... Аднойчы ноччу мне прыйшла SMS-ка ад брата: «Вяртайся хутчэй. У касцёле пажар, згарэў алтар». Па дарозе ў Гродна я даведаўся, што згарэў не ўвесь алтар, а толькі яго чацвёртая частка. Зразумела, было вельмі балюча, але я дзякаваў Богу, што хоць нешта ацалела. Вярнуўшыся, я ўбачыў, што катэдра знаходзіцца ў страшным стане. Я не ўяўляў, як гэта можна аднавіць, і таму моцна перажываў. Касцёл быў закопчаны, электрычнасці не было... Мяне мучыла пытанне: за што мне гэта? Святыня прастаяла больш за 300 гадоў, не была разбураная нават падчас войнаў... А тут — пажар... І менавіта ў час маёй працы пробашчам. Чаму?

Зразумеў я гэта пазней, калі ўжо ўвесь касцёл быў пафарбаваны і пачышчаны: я ж пытаўся ў Бога, з чаго мне пачаць рамонт, і гэта быў Яго адказ. Больш я нічога не пытаюся, а толькі раблю тое, што Бог мне дае. А дае Ён адно за другім...

На другі дзень пасля пажару ў катэдры не было святой Імшы — я пайшоў цэлебраваць яе ў брыгіцкі касцёл. Удзяляючы Камунію, убачыў аднаго вядомага і вельмі добрага гродзенскага сталяра Вячаслава Алешчыка. Гэтая Імша была па яго памерлых бацьках. Мне нібы хтосьці шапнуў: «Ну скажы ты яму!..» Падышоўшы да яго, я прамовіў: «Цела Хрыста... Зайдзі ў сакрыстыю». Ён паглядзеў на мяне здзіўлена, але тут жа кіўнуў, што зойдзе...

Разам з Вячаславам мы паехалі ў катэдру, і я паказаў яму, што сталася, і спытаў, ці ўзяўся б ён гэта аднавіць. «Ксёндз Ян, 300 гадоў таму гэта зрабілі ўручную, — адказаў ён, — дык чаму мы цяпер не можам гэтага паўтарыць?» Праца распачалася з першага дня. Рабіліся вымярэнні, расчыстка... Я ўвесь час маліўся і пытаўся ў Бога: як гэта аднавіць, з чаго пачаць? У хуткім часе мне пазваніла з Мінска адна знаёмая дзяўчына, Ірына Радзевіч, выпускніца політэхнічнага ўніверсітэта, і сказала: «Ксёндз Ян, у 2002 годзе мы рабілі праект усяго алтара, маем усе памеры, і я магу Вам гэта пераслаць». Атрымаўшы ад яе поўную каляровую копію, я падумаў: «О, гэта ўжо вялікая справа!» Праект я аддаў сталяру для вывучэння.

Зразумела, аднаўленчыя працы выклікалі вялікую «прыцірку» паміж Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам культуры і нацыянальнай спадчыны Рэспублікі Польшча, пакуль вырашалася, хто якую працу будзе выконваць, пакуль былі атрыманыя патрэбныя дазволы і г. д. Напачатку нават не паўставала пытанне аб тым, ці будзе хтосьці спансіраваць гэтыя працы. Праз некаторы час польскі бок паабяцаў дапамагчы фінансава (праўда, не на ўвесь алтар, а толькі на яго частку), а таксама выслаць спецыялістаў і навуковых кіраўнікоў.

Калі палякі ўпершыню прыехалі паглядзець катэдру, падумаць, як і што можна зрабіць, у мяне ўжо быў гатовы першы ярус алтара. Убачыўшы зробленае, яны параілі, каб я пакуль нікому гэтага не паказваў, бо найперш трэба аформіць дакументы, атрымаць дазвол з Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і тады прыступаць да працы. Я прапанаваў, каб яны займаліся дакументамі, а сам арганізоўваў працу.

Як толькі Павел Садлей паведаміў, што дазвол атрыманы, мы за два дні паставілі першы ярус. Перад тым, як пачалі працаваць пры алтары, увесь касцёл ачысцілі ад копаці і пафарбавалі. Парафіяне таксама ўключаліся ў працу. Дайшло нават да таго, што адна вельмі адданая Касцёлу старэнькая жанчына, пані Анеля, прынесла срэбныя лыжкі і сказала: «Ойча, грошай я не маю, але Вы прадайце гэтыя лыжачкі і грошы аддайце на алтар». Я быў вельмі ўражаны...

Грашовыя ахвяраванні прыносілі многія людзі — мы занатоўвалі іх імёны, але было некалькі такіх, хто прасіў нават не запісваць іх, хоць яны ахвяравалі немалыя сумы.

Калі палова страчанай часткі алтара была ўжо зробленая, я пачаў думаць пра скульптуры. І тут выпадкова знайшоўся разьбяр Казімір Місюра (гэта была асобная гісторыя). Я сустракаўся з многімі разьбярамі, але выбраў менавіта яго, бо здавалася, што гэты чалавек прызначаны для такой працы самім Богам. Ён непаспешлівы, не гаварыў, колькі гэта будзе каштаваць, не абяцаў, што зробіць гэта за нейкі канкрэтны час, а сказаў толькі: «Я зраблю, а Вы паглядзіце, ці добра. Калі добра, будзем рабіць далей». Найважнейшае было тое, што ён хацеў пачытаць штонебудзь пра Ёгана Шміта, спазнаць яго дух і думкі, паглядзець яго працы. Толькі пасля гэтага Казімір Місюра пачаў выразаць скульптуры.

Здаралася, што я адчуваў прыгнечанасць, калі трэба было разлічвацца з майстрамі, а грошай амаль не было.... Нават хацеў аддаць у заклад свой аўтамабіль. Але Бог, дапускаючы выпрабаванні, ніколі не пакідае нас без выйсця. У такія моманты раптам прыходзіў які-небудзь спонсар, каб ахвяраваць грошы на скульптуру. Гэта сапраўды была вялікая Божая ласка! Напэўна, мы атрымалі яе праз заступніцтва Маці Божай Кангрэгацкай. Уявіце: увесь алтар гарэў; на аргане, які знаходзіцца за 60 метраў ад алтара, адслаілася фарба, а алтар Маці Божай быў за 3 метры ад цэнтра пажару і з ім нічога не сталася. Нават фіранка, якая аддзяляе прэзбітэрый ад алтара Маці Божай Кангрэгацкай, засталася цэлая і вісіць да сённяшняга дня. А гэта ж сукно, якое павінна было згарэць, як порах!

Не трэба баяцца, калі Бог пасылае нам выпрабаванні. Алтар і дагэтуль трэба было рэстаўраваць, але за яго ніхто б не ўзяўся. Пажар проста падштурхнуў нас. Цяпер, гледзячы на ўсё нібы з боку, я разумею, што ў гэтым была воля Божая. Хоць алтар ужо скончаны, працы па ўсім касцёле працягваюцца яшчэ і сёння: мы аднавілі і пачысцілі фрэскі, падзалацілі капітэлі. Да гэтага часу касцёл быў нібы прыгаслы, а цяпер набыў сакральнасць. Я заўважыў, што і людзей стала больш прыходзіць — не толькі на святую Імшу, але проста пабыць у касцёле, памаліцца, пасузіраць створаную прыгажосць.

Зразумела, было шмат незадаволеных, якія папракалі мяне ў тым, што я нібыта выдаткоўваю на алтар зашмат фінансаў. Адна вельмі пабожная бабулька дакарала мяне: «Што Вы тут наладзілі! Мой унук узяў папырскаў балончыкам на рамачку — і яна пазалацілася. А Вы столькі грошай валіце!» З-за такога неразумення прыходзілі хвіліны адчаю, але Бог нібы казаў мне: «Паглядзі, 300 гадоў таму людзі зрабілі, і сёння вы маеце». Галоўны алтар яшчэ



Фрагмент галоўнага алтара ў гродзенскай катэдры.

ніколі не быў пазалочаны, хоць у дамове паміж езуітамі і Ёганам Шмітам было напісана: «Падрыхтаваць разьбу да пазалачэння...». Я думаю, што зрабіць гэта ў той час перашкодзіў недахоп фінансаў, таму што бакавыя алтары былі ўжо пазалочаныя. Галоўны алтар быў толькі пафарбаваны, і адбылося гэта тады, калі адсюль выехалі езуіты. Можна сказаць, што мы выканалі задуму езуітаў праз 300 гадоў. Мяне гэта вельмі радуе — у наш крызісны час некаторыя людзі не маюць грошай нават на абутак, але прыносяць у касцёл свае ахвяраванні. Мне прыемна казаць вернікам: «У гэты адноўлены алтар укладзеныя вашыя ахвяраванні. Пройдзе 50–100 гадоў, нас з вамі ўжо не будзе, а вашыя ўнукі будуць глядзець на гэтую прыгажосць, як на цуд».

Пазалаціўшы алтар, мы ўбачылі, што ён нібы адасоблены ад усяго інтэр'ера касцёла, таму нам прыйшла думка пазалаціць таксама капітэлі. Само залачэнне я планаваў расцягнуць прыкладна на 3 гады, але ўсё зрабілі за 3 месяцы! Зноў знайшліся ахвярадаўцы, а таксама людзі, які ахвотна прыехалі працаваць. Усё гэта ўдалося толькі дзякуючы малітве, даверу да Бога і даручэнню Яму ўсіх справаў.

У такіх выпадках вельмі важна таксама заахвочваць вернікаў да малітвы, распавядаць ім, што ўжо зрабілі і што яшчэ неабходна. Маліцца трэба не столькі аб тым, каб Пан Бог даў грошай, як аб тым, каб Ён паслаў нам добрых людзей. Кожную суботу мы молімся перад абразом Маці Божай Кангрэгацкай за ахвярадаўцаў, за тых, хто працуе пры аднаўленні базылікі і прымае ў гэтым хоць які-небудзь удзел, у тым ліку і за тых, хто прыбірае ў касцёле. У нас ёсць адна сястра гадоў 70-ці, якая належыць да бесхабітавай манаскай супольнасці. Яна без нагі. Калі фарбавалі касцёл, сястра адна за ноч двойчы прыбірала ўсю святыню. «Анелька, ты калі-небудзь спіш?» — пытаўся я ў яе. «Я пасплю... — адказвала сястра. — Потым, пасля абеду, прылягу на гадзінку». Яна суткамі дзяжурыла ў касцёле, бо працы па ачыстцы і фарбаванню вяліся ў асноўным ноччу, пры ліхтарах. А ў 7 гадзін раніцы людзі ўжо збіраліся на набажэнства. Касцёл ніколі не быў зачынены, днём па 6 разоў праводзіліся Імшы, удзяляліся сакрамэнты шлюбу, хросту...

Толькі ў наш час, калі пазалацілі капітэлі, я даведаўся, што інтэр'ер касцёла не завершаны... У алтарнай частцы капітэлі ўпрыгожаныя ляпнінаю, зробленыя з цэменту; у скляпеннях купала — таксама. Усе астатнія капітэлі ў касцёле зробленыя з дрэва, крыху нязграбныя. Але чаму 300 гадоў назад так зрабілі? Касцёл быў кансэкраваны ў 1705 годзе. На ўрачыстасці прысутнічалі кароль Польшчы Аўгуст II і цар Пётр I. Мне здаецца, майстры проста спяшаліся хутчэй падрыхтаваць касцёл да кансэкрацыі, таму не паспелі аздобіць ляпнінаю ўсе капітэлі і выразалі іх з дрэва. Па выглядзе капітэляў сапраўды падобна, што яны былі зробленыя наспех. Калі б мы вырашылі цяпер замяніць дрэва ляпнінаю, гэта была б надзвычай дарагая і складаная праца.

Наступнае, што мы плануем зрабіць у касцёле, — рэстаўраваць алтар святога арханёла Міхала. Гэты алтар самы стары ў святыні — ён створаны ў 1664 годзе...

Што датычыць душпастырскай працы, мы стараемся вельмі цесна супрацоўнічаць з вернікамі. У парафіі налічваецца каля 20 тысячаў чалавек (гэта цяжка паддаецца ўдакладненню, бо да нас прыязджаюць не толькі нашы парафіяне, але і вернікі з усяго горада). У нас ёсць розныя малітоўныя групы. Напрыклад, група святога арханёла Міхала збіраецца на малітву кожны аўторак, мае адмысловае набажэнства: просіць арханёла Міхала аб заступніцтве, аб вызваленні ад злога духа і г. д. Супольнасць «Апостальства дапамогі душам чыстцовым» збі-

раецца кожны панядзелак, моліцца Ружанец. У парафіі ёсць святар, адказны за гэтую групу.

У нашай парафіі працуюць 4 святары. Гэта вельмі мала, бо ў буднія дні мы цэлебруем 6 святых Імшаў, а ў нядзелі і святы — ажно 8.

У нас ёсць 12 колаў «Жывога Ружанца», кола адарацыі Найсвяцейшага Сакрамэнту. Акрамя таго, у касцёле адбываецца штодзённая адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту, якая пачынаецца ў 9.30 раніцы і працягваецца да 7 гадзінаў вечара (пры гэтым Найсвяцейшы Сакрамэнт выстаўлены ў бакавым алтары Маці Божай Кангрэгацкай). Вернікі размяркоўваюць паміж сабою час, у які яны будуць прыходзіць на адарацыю, і такім чынам у касцёле пастаянна хтосьці ёсць — адарацыя адбываецца няспынна і мае неапісальную моц!

У снежні споўніцца год з таго часу, як у нашай парафіі з'явілася малітоўная група Маці Божай Кангрэгацкай. Я даўно хацеў заснаваць гэтую групу, таму што 300 гадоў назад у езуітаў была марыянская кангрэгацыя, у якую ўваходзіла пераважна моладзь. Наша група складаецца з вернікаў рознага ўзросту. Кожны чацвер мы сустракаемся на Ружанцы, молімся ў розных інтэнцыях, перыядычна ў нас адбываюцца дні духоўных сустрэчаў. У гэтую групу ўваходзіць каля 90 чалавек. Зразумела, з яе трэба было б зрабіць тры асобныя групы. Кожны апошні чацвер месяца ў гэтай групе мы асвячаем ваду, соль і алей. Гэта тыя сакрамэнталіі, якія дапамагаюць нам ачысціцца і наблізіцца да Бога. Напрыклад, часта бывае, што мы хочам памаліцца, а розныя думкі нам перашкаджаюць. Хочам пасля працы схадзіць у касцёл, а адчуваем сябе вельмі стомленымі і



Кс. Ян Кучынскі каля адноўленай скульптуры Апостала.

знаходзім мноства апраўданняў, каб не ісці. Калі ж чалавек прымае такія сакрамэнталіі, ён абаронены Богам. Экзарцызмаваны алей можна прымаць унутр у якасці леку, бо каля 80 працэнтаў нашых хваробаў маюць духоўны характар. Ім таксама можна змазваць ранкі. Аднойчы да мяне на споведзь прыйшла маладая дзяўчына, якая ўвесь час старалася прыкрыць гольфікам свае рукі. Я спытаўся, што ў яе здарылася. Аказалася, што яна страшна апяклася баршчавікам, калі ездзіла прыбіраць магілы бацькоў. Урач папярэдзіў, што з часам гэтыя карычневыя апёкі, магчыма, пройдуць, але леку на іх няма. Праз пару дзён мне прысніўся сон, у якім хтосьці сказаў: «Чаму ты не даў ёй асвячонага алею?» Прачнуўшыся, я падумаў: і праўда, я ж бачыў, як экзарцысты вылечваюць людзей такім чынам. Я так і зрабіў... Праз тыдзень яна прыйшла і паказала мне рукі: на іх не засталося ніводнай плямкі... Экзарцызмаваную соль таксама можна ўжываць з ежаю. Бывае, хтосьці сурочыць дзіця, і яно так сябе паводзіць, нібы д'ябал у яго ўсяліўся. А дасі дзіцяці гэтай солі — яно спакайнее. Усё гэта моц Божая!

...Часам гаворыш казанне і разумееш, што людзі нібы слухаюць цябе, але не чуюць. Што ім перашкаджае? Нейкі цяжар, які не дае адкрыцца на Божае слова і Божыя ласкі. Асвячоныя малітваю вада, соль і алей дапамагаюць чалавеку вызваліцца ад непатрэбнага цяжару.

У нашай парафіі ёсць таксама моладзевая група, якая збіраецца кожную пятніцу, — 35 чалавек. Для нас гэта шмат: катэдра знаходзіцца ў цэнтры горада, а тэрыторыя парафіі — на перыферыі, таму не ўся моладзь можа ў будні дзень прыехаць на сустрэчу. У гэтым годзе мы выбралі крыху іншую тактыку працы з маладымі людзьмі: далучаем іх да розных працаў, плануем наведваць дзіцячыя дамы і заахвочваем прыводзіць у касцёл сваіх знаёмых, сяброў, каб моладзевая група пашыралася і на змену аднаму пакаленню прыходзіла другое.

У нашых вернікаў ёсць магчымасць індывідуальнай размо-

вы са святаром. Каб чалавек мог добра падрыхтавацца да генеральнай споведзі, мы даём яму анкету з пытаннямі. Пенітэнт запісвае ўсё, што згадае, у сшытак і праз тыдзень-другі прыходзіць да споведзі. Генеральная споведзь адбываецца не ў спавядніцы, а ў канцылярыі, каб было дастаткова часу пагутарыць і адразу памаліцца над чалавекам. Падчас споведзі часта выяўляюцца такія грахі, вызваленне ад якіх патрабуе моцнай малітвы, напрыклад, грахі акультызму. Былі выпадкі, калі пасля споведзі людзі хутка атрымлівалі аздараўленне — напрыклад, ад бяздзетнасці. Вельмі радасна бачыць, калі людзі, у якіх 10–15 гадоў не было дзяцей, прыносяць немаўлятка да хросту.

Аднойчы да мяне звярнуўся праваслаўны вернік, які знаходзіўся ў цяжкім духоўным крызісе. Ён казаў, што страшна баіцца заставацца адзін: «Не ведаю, што са мною здарылася, але калі жонка ў хаце — са мною ўсё нармальна, як толькі жонка кудысьці пойдзе — мяне кідае і калоціць». У яго выпадку гэта было звязана з моцнаю акультычнаю практыкаю. Калі я дакрануўся да яго галавы ў час малітвы, было такое адчуванне, быццам у яго пад скураю забегалі нейкія жучкі. Мужчына пачаў захлёбвацца, з ім здарыўся страшны прыступ, аднак пасля трох малітоўных сустрэчаў ён аздаравіўся...

Часам чалавек прыходзіць да споведзі, але душа яго закрытая. Ты молішся разам з ім да Духа Святога — і праз некаторы час ён пачынае плакаць, адкрывацца і выказваць усе свае грахі. Толькі тады разумееш, што чалавек выкінуў з сябе ўсё дрэннае, ачысціўся і сапраўды атрымаў дар Божай ласкі.

Аднаго разу да мяне прыйшла жанчына і з вельмі суровым выглядам сказала: «Я не магу ўсміхацца, ўсё ўва мне нібы скаванае, не магу таксама ні з кім пасябраваць, на мяне не звяртаюць увагі мужчыны». Пасля таго, як гэтая жанчына приступіла да генеральнай споведзі, я больш ніколі не бачыў яе суровою — заўсёды з усмешкаю. Гэта сапраўднае адкрыццё на ласку Божую, якая сама будзе дзейнічаць у чалавечай душы!

Часам людзі няправільна разумеюць гэтую моц малітвы, прыходзяць у канцылярыю і пытаюцца: «А дзе можна знайсці ксяндза-празорцу?» Або просяць: «Здыміце, калі ласка, з мяне замову». Балюча гэта чуць, бо яны прыходзяць да мяне як да чараўніка. З імі ў мяне звычайна кароткая размова: «Вам трэба да споведзі!» Некаторыя адразу расчароўваюцца, бо ім здаецца, што дастаткова прыйсці, заплаціць грошы — і ўсё вырашыцца.

Крыўдна бывае, калі молішся над чалавекам, а праз некаторы час ён прыходзіць і кажа: «Ведаеце, ойча, мне трохі лепш стала, але камп'ютарная дыягностыка паказала, што ў мяне дрэннае біяполе». Тады я проста адказваю: «Ідзіце з Богам!», бо разумею, што чалавек зноў закрыты — ён не прыняў тое, што я ўклаў у яго, і чакае нейкага шоу. Шкада такіх людзей...

Аднойчы да мяне прывезлі маладую жанчыну, якая хварэла на рак мозгу і ўжо аб'ездзіла мноства чараўнікоў. Яна была пасля аперацыі, амаль паралізаваная. Мы некалькі разоў сустракаліся ў канцылярыі. Муж яе быў няверуючы, і калі я прапанаваў паспавядацца спачатку яму, той ледзь не кінуўся на мяне з кулакамі. Пасля сустрэчаў са мною гэтая жанчына зноў ездзіла да «бабкаў», але ўрэшце адчула, што Божая ласка мацнейшая... Прызналася ў гэтым, паспавядалася і праз некаторы час памерла. Адзін святар сказаў мне: «Вось бачыш, ксёндз Ян, ты маліўся, а яна ўсё роўна памерла. Ты не вылечыў яе малітваю». «Але ты ўзгадай, — адказаў я яму, — якой яна была адразу пасля аперацыі. Крычала, білася... Страшна баялася памерці... І якой яна стала, калі ты прыехаў удзяліць ёй сакрамэнт намашчэння перад смерцю? Яна была спакойная, прыняла сваю смерць як волю Божую». Для Бога найважнейшае нашае духоўнае аздараўленне, Ён хоча, каб мы не ўспрымалі смерць як праклёнцце ці пакаранне.

Часам мы чакаем ад Бога невядома якіх цудаў. Я таксама калісьці думаў, што, стаўшы пробашчам катэдры, змагу столькі ўсяго! Пан Езус сказаў: «Хто хоча быць большым сярод вас, няхай будзе вам слугою» (Мц 20, 26). Я стараюся выконваць гэта ў штодзённым жыцці і вучу гэтаму сваіх вікарыяў. Нядаўна адзін з іх паехаў да хворага з Найсвяцейшым Сакрамэнтам і на перакрыжаванні ў яго заглохла машына. Ён звоніць мне і пытаецца, што рабіць. «Адгані машыну ўбок, — кажу яму, — хутка я прыеду». Я звазіў яго да хворага, затым паехаў з ім рамантаваць машыну і ўвогуле ўвесь дзень прысвяціў яму. Вікарый быў вельмі ўражаны гэтым... У свой час мяне навучылі такому служэнню і дабрыні, бо Пан Езус выразна сказаў: «Сын Чалавечы не для таго прыйшоў, каб Яму служылі, але каб служыць і аддаць жыццё сваё для адкуплення многіх» (Мц 20, 28).

*Ксёндз Ян Кучынскі,*
*пробашч катэдральнага касцёла імя св. Францішка Ксавэрыя ў Гродне.*

Аркадзь Шпунт



# ДРАЎЛЯНЫ НАРОД

## Па слядах Міжнароднага каталіцкага кінафестывалю хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм «Magnificat–2012»

*Дакументальнае кіно —*
*творчая распрацоўка рэчаіснасці.*
Джон Грырсан

Быў час, калі кожны глядзеў толькі сваё «кіно», таму што браты Люм'еры яшчэ не вынайшлі кінематограф. У той час людзі разам разглядалі роспісы сцен і скляпенняў храмаў, творы выяўленчага мастацтва, глядзелі на пакаранні на плошчах, на пажары, тэатральныя пастаноўкі. Зрэшты, заўсёды проста глядзелі на прыгажосць прыроды, не думаючы пра тое, што нябесныя аблокі — гэта, магчыма, вытворчыя дымы, з якіх праліваюцца кіслотныя дажджы...

Сёння мы глядзім ужо ўбачанае кімсьці (добра, калі гэта таленавіты рэжысёр), бо нават сваё інтымнае бачым не інакш як у стылістыцы кіно — якога-небудзь шэдэўра або бясконцага «мыльнага» серыялу, зануднага, як банальнае жыццё. Мы жывём у свеце ілюзій і сімулякраў.

Дакументальнае кіно — гэта сутаргавая спроба хоць на нейкі час затрымацца ў рэчаіснай рэчаіснасці, няхай сабе і віртуальнай, творча распрацаванай. Зрэшты, калі быць шчырым, штодзённае сузіранне стыхіяў і тэхнагенных катастрофаў, а па сутнасці чалавечых трагедыяў, ператвораных у выявы на лічбавых носьбітах, палохае нас ненадоўга і як бы здалёк, як няшчасце іншых. Як, зрэшты, ненадоўга радуе і дае надзею на лепшае паказанае буйным планам чужое шчасце, дакументальна зафіксаванае відэаматэрыялам. Тэлерэклама навязліва імкнецца ашчаслівіць усіх людзей, паказваючы свет у выглядзе старонак прыгожага глянцавага часопіса. Жыццё — нібы ў раі... або ў царстве памерлых, дзе здзяйсняюцца ўсе жаданні жаданняў, дзе памерлыя радуюцца свайму дабрабыту і бесклапотнаму баўленню часу, дзе хлябы не чарсцвеюць і піва не закісае, дзе вечна гучыць музыка пад назваю «хі» (што азначае задавальненне і асалоду), а зваблівая чароўнасць танцоўшчыцаў, радуючы вока, абуджае апетыт і жаданне. Цені ў царстве ценяў не маюць ценяў, распластаўшыся ў профіль на сцяне пахавальні. Мастак падрабязна, у дэталях, адлюстраваў усё, што радавала вяльможу Небамуна, тое, з чым ён не захацеў бы развітацца і ў іншым свеце. Гэткае дакументальнае «кіно» — старанная раскадроўка.

Мы прывыклі да розных карцінак, і жыццё для нас — таксама карцінкі. Заплюшчыў вочы — і глядзі «кіно». Атрымліваецца, што з заплюшчанымі вачыма бачыш больш, чым з расплюшчанымі, — і ва ўсіх прасторах, ва ўсіх часах, ва ўсіх стылях і жанрах ужо ўбачанага. Можна зазірнуць у пахавальню егіпецкага чыноўніка, убачыць у нябачнай магільнай цемры роспіс на сцяне, дзе намалявана ўсё, што вабіла яшчэ жывога на шы-

**Аркадзь ШПУНТ —** мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі. Нарадзіўся ў 1947 г. у Барысаве. Закончыў мастацкую вучэльню. Навучаўся прафесіі ў майстроў Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі. Рэстаўраваў пінскі катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, мінскую архікатэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, іншыя помнікі сакральнай архітэктуры і мастацтва. Аўтар аповесцяў-эсэ «Блики уходящего дня» (1989), «Момент нуль» (2000) і шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Жыве ў Мінску.



Галоўны герой фільма «Драўляны народ» Мікола Тарасюк.

коўны замагільны пір... Вяльможа любіў паесці і выпіць. І паляванне любіў на вадзяных птушак, і рыбалоўства любіў. І не хацеў развітацца з гэтым нават пасля смерці. І верыў, што гэта магчыма дзякуючы міласэрнасці Асірыса — бога памерлых — і майстэрству мастака. Яны не сумняваліся ў няспыннасці існавання. Роспісы ў пахавальні павінны былі стаць заклінаннем, звернутым да вечнасці... для сябе.

Разьбяная вёска Міколы Тарасюка — гэта зварот да вечнасці для ўсіх, каму да душы вольная праца на свежым паветры і ўпарадкаваны, асвячоны традыцыяй лад вясковага жыцця.

Імя старажытнага егіпецкага вяльможы сапраўды набыло несмяротнасць — вось ужо тры тысячы пяцьсот гадоў (і пакуль будзе круціцца Зямля) людзі не забудуць маленькіх слабасцяў Небамуна. Магчыма, і драўляны народ дзеда Міколы з усім побытам беларускай вёскі будзе помнікам і яму, і гісторыі ды культуры яго народа. Не драўлянага. Таго, што пакінуў вёску.

...Заплюшчанымі вачыма я бачу рэальны побыт вяльможы, пахаванага ў Луксоры, і адначасова — убачаны нядаўна фільм беларускага рэжысёра-дакументаліста Віктара Аслюка. Як вядома, можна адначасова бачыць рэчы, што раздзяляюцца вякамі і тысячагоддзямі, калі глядзець заплюшчанымі вачыма. Тым больш — лежачы. Галоўнае — не заснуць, бо тады ўбачанае падасца проста сном, у якім пераблыталіся бясклапотнае быццё ў царстве памерлых і сялянскі побыт утапічнай беларускай вёскі.

...Глядзіш кіно (у сне ці на яве?) і прымяраешся да жыцця дзівака ў пакамечаным капелюшы з хутара Стойлы Пружанскага раёна.

Ён ужо не зусім селянін, ён — народны ўмелец. Капялюш — з савецкіх часоў атрыбут інтэлігента і кіруючага работніка — глядзіцца на ім, сапраўды, як на карове сядло. Гальштук, які перашкаджае працаваць, пінжак з падранымі пад пахамі рукавамі... Яго часта фатаграфуюць, і таму трэба выглядаць прыстойна, але цікавы ён менавіта як умелец, і фатаграфуюць яго за працаю, у працэсе здабывання асіны з запаветнага балота, за вырэзваннем простым нажом розных фігурак і іх расфарбоўкаю. Як жа тут зберагчы касцюм?

Глядач напружана сочыць і з цікавасцю слухае. І разумее (ці не разумее), што расповеды Міколы Тарасюка важнейшыя за яго вырабы. Але хто б іх слухаў, калі б ён не стварыў цэлы драўляны народ з усім, што належыць мець працоўнаму вясковаму люду?

І разумееш: пакіне, як і ўсе смяротныя, гэты свет Мікола Тарасюк са сваімі расповедамі, якія нібы тлумачаць «карцінку» — стоп-кадр — нямога кіно пра жыццё небывалай вёскі, і яе насельніцтва ператворыцца ў драўляшкі — груба выразьбяныя і абы-як расфарбаваныя цацкі...

Думаю, што Віктар Аслюк перажыў узрушэнне не меншае, чым адкрывальнік пахавальні Небамуна, але, відаць, перажыў і непараўнаны сум, калі знайшоў на ўжо 20 гадоў закінутым палескім хутары адзінокага жы-





Кадры з фільма Віктара Аслюка «Драўляны народ».

хара. Апошняга. Хутаранін жыве звыклым для кожнага селяніна жыццём і стварае з дрэва цэлую вёску з яе жыхарамі... Дзівак стварыў сваю мадэль жыцця, у якой, па звычцы здабываючы свой хлеб з потам, і сам хацеў бы жыць вечна, але ж пра такую гармонію ў сапраўдным жыцці можна толькі марыць... і працаваць, прыўносячы ў прыроду духоўны пачатак, здольны пераўвасобіць нават сырую асінавую чурку. Адухаўленне «мёртвага» матэрыялу адбываецца праз увасабленне драўляшкі ў кампазіцыйны матэрыял.

Майстра стварыў драўляны народ паводле свайго вобразу і падабенства. І пасяліў яго ў Рай. А Рай для селяніна — гэта ціхае, сытае, разумнае жыццё ў працы і клопатах ад нараджэння і да смерці. З вераю ў Бога і ў царкве, і ў душы.

Калі глядзіш на разьбяныя фігуркі, створаныя беларускім умельцам не для цемры пахавальні і не для царства ценяў, а для зялёнай травы, сонечнага дня, свежага ветру, шуму лістоты і высокага-высокага неба, успамінаецца глыбокая старажытнасць: рытуальныя фігуркі ўшэбці, гліняная войска кітайскага імператара, керамічныя фігуркі гульцоў у мяч з заходняй Мексікі.

...І стварыў Мікола Тарасюк сваю вёску, населеную драўляным народам з звычкамі жывых людзей, бо «птушкі жывуць там, дзе жывуць людзі, там, дзе грукае калодзежны ланцуг, дзе жнуць сярпамі жыта. Не стала тутака мужычка — і буслы адляцелі. А як жа мне без іх? Узяў ды зрабіў сабе». І сям'я буслоў разам з гняздом, выразьбяная ў натуральную велічыню і расфарбаваная здалёк на фоне неба, выглядае нібы жывая. І нават дождж ёй не страшны.

...Узяў і зрабіў народ, які пакінуў гэтыя мясціны дваццаць гадоў таму. А як жа без людзей адзінокаму дзеду? І вёску зрабіў, і мужычкоў, і бабаў, і дзяцей іх, і святароў, і цэрквы — усё, што мусіць быць у добрай, працавітай вёсцы, дзе людзі вераць у Бога і жывуць паводле разумнага сялянскага парадку. І цяпер ён — «прэзідэнт драўлянага народа».

...Ён гаворыць не ў камеру, не па просьбе рэжысёра. Ён гаворыць сам з сабою, як прывык гаварыць адзінокі чалавек. Ён расказвае людзям тое, што ім падабаецца слухаць. Злёгку акцёрствуе — прывык да гледачоў і ўвагі. Можна толькі здагадвацца, пра што ён маўчаў доўгімі зімовымі вечарамі і што расказваў сваім коцікам, сабакам, курам, гускам, каню і чарапасе... пакуль не стаў лаўрэатам, заслужаным народным умельцам — «залатыя рукі» і г. д. Калі глядзіш фільм Віктара Аслюка, не думаеш пра яго вядомасць, і гэта таксама вартасць фільма.

«Кампанэла» з Пружаншчыны ўвасобіў у асінавых чурках сваю мару пра «вёску сонца» — ён зрабіў драўляную мадэль шчаслівага вясковага жыцця. Але...

...«Макет аб'екта ў паменшаным маштабе або ў натуральную велічыню, пазбаўлены, як правіла, функцыянальнасці дадзенага аб'екта, прызначаны для прадстаўлення аб'екта і выкарыстоўваецца ў тых выпадках, калі прадстаўленне арыгінальнага аб'екта неапраўдана дарагое, немагчымае або проста нэмэтазгоднае» (Вікіпедыя).

Так. І дорага, і немагчыма, і, напэўна, немэтазгодна.

«Мы можам быць цікавыя толькі як носьбіты беларускай культуры», — заклікае Віктар Аслюк і робіць усё, каб выявіць гэтую культуру, што знікае разам з яе носьбітам — вясковым людам, які не можа замяніць драўляным нават народны майстар. «Жывога чалавека зрабіць лягчэй, чым драўлянага», — разважае дзед Мікола, але чамусьці нашы вёскі не звіняць ад дзіцячых галасоў...

Ілюзію шчаслівага жыцця захоўвае ілюзія кінематографа. Але не ўсё так добра. «Узяў бы, здаецца, „тулку" і стрэліў у тэлевізар», — гаворыць дзед Мікола, не прыдуманы, не просты, не драўляны беларускі мужычок. Прызнаюся — і ў мяне бывае такое жаданне. Але, калі на экране — фільм Віктара Аслюка, «тулку» браць не хочацца...

*P.S. Дакументальны фільм «Драўляны народ» Віктара Аслюка адзначаны Гран-пры кінафестывалю «Magnificat–2012».*





Ева Лявонава

# КАНЦЭПТ «*АНЁЛ*» У МАСТАЦКАЙ КАРЦІНЕ СВЕТУ



Мастацкая рэцэпцыя этыка-эстэтычных каштоўнасцяў, перажыўшых стагоддзі і нават тысячагоддзі, прадпрымалася на ўсіх этапах развіцця сусветнага мастацтва слова, з XX стагоддзем уключна. Больш за тое, гэтая з'ява стала адным з вызначальных складнікаў творчасці многіх пісьменнікаў розных краін і відавочнай канстантай літаратурнага працэсу ў цэлым. Прычын гэтаму нямала; сярод самых істотных з іх неабходна вылучыць бясконцае чаргаванне ў XX стагоддзі глыбокіх сацыяльна-палітычных і светапоглядных крызісаў, разбурэнне традыцыйнай каштоўнаснай іерархіі. Як пісаў славуты нямецкі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Генрых Бёль, шчыры вернік-католік, чым бы яшчэ ні было XX стагоддзе, у памяці нашчадкаў яно застанецца стагоддзем войнаў і лагераў. Натуральна, што чалавек у такой сітуацыі мае патрэбу ў больш ці менш трывалым маральна-філасофскім апірышчы, свайго роду гаранце стабільнасці. Гэткім гарантам — як у самым пачатку XX стагоддзя, так і сёння, у пачатку стагоддзя новага, — справядліва бачылася і бачыцца духоўная спадчына — жывое ўвасабленне повязі часоў і пакаленняў.

Зразумела, у шэрагу разнастайных матывацый звароту сучасных аўтараў

**Ева Лявонава** — кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Крытык і навуковец. Працуе ў такіх галінах літаратуразнаўства, як германістыка, беларусістыка, кампаратывістыка, вывучае беларуска-замежныя літаратурна-культурныя сувязі. Апублікавала ў айчынным і замежным друку больш за 400 артыкулаў, навуковых і навукова-метадычных працаў, у тым ліку кнігі «Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX–XX стагоддзяў» (1998), «Беларуская літаратура XX ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт» (2002), «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры» (2003), «Немецкая литература XX века: Германия. Австрия» (Москва: Флинта; Наука, 2010) і інш. Аўтар і сааўтар многіх вучэбных праграм, вучэбных дапаможнікаў і падручнікаў для выкладчыкаў-славеснікаў, студэнтаў і школьнікаў.

да культурнай традыцыі надзвычай важныя і матывы ўласна эстэтычныя, пошукі новых мастацкіх магчымасцяў адлюстравання чалавека і свету, бо кожнае таленавітае, творчае засваенне спадчыны (міфалогіі, літаратурнай класікі) абяцае новыя адкрыцці — не толькі і не столькі нават у спадчыне, колькі ў самой сучаснай для пісьменніка рэчаіснасці.

Наўрад ці трэба даказваць, што асабліва прыцягальнай для мастакоў слова была і застаецца Біблія. «Біблія — бясконцасць» (1, 23), — вельмі трапна сказаў у свой час расійскі філасаф Васіль Розанаў. Нашмат раней за яго Францыск Скарына ў прадмове да Бібліі даводзіў: «Тут научение седми наук вызволеных достаточное...» (2, 10). Праз біблейскія сюжэты і вобразы ўсё новыя аўтары імкнуцца надаць сваім творам абагульнена-сімвалічны, папераджальна-прагнастычны сэнс, спрабуюць дапамагчы сучаснікам супаставіць асабісты духоўны досвед з агульначалавечым, з правопытам. «Кніга, у якой няма месца выпадковаму, формула незлічоных магчымасцяў, бездакорных пераходаў сэнсу, ашаламляльных адкрыццяў, напластаванняў святла. Ці ж можна ўтрымацца ад спакусы зноў і зноў на ўсе лады ператалмачваць яе?..» (3, 35) — пісаў аргенцінскі паэт і празаік Хорхе Луіс Борхес.

Да тых насельнікаў Бібліі, якія найчасцей інтэрпрэтуюцца мастацкай літаратурай, належаць і анёлы. Прычым творы з іх дзейным удзелам — гэта творы пераважна філасофскія, бо вымагаюць ад чытача роздуму над складанымі філасофскімі пытаннямі, прынцыповымі, сутнаснымі праблемамі чалавечага быцця. Што ёсць чалавек? Наколькі свабодны ён у межах пакладзенага яму Богам? Як суадносяцца ў чалавеку і свеце дабро і зло? Філасофская ж паэзія мае патрэбу і ў адпаведным аналізе — менавіта праз сістэму закладзеных у ёй канцэптаў.

Выкладаць сваё разуменне паняцця «канцэпт» мне даводзілася неаднойчы, таму ў дадзеным выпадку спынюся на ім коратка. Знакаміты расійскі вучоны Дз. С. Ліхачоў пісаў, што сапраўднаму мастаку слова ўласцівае «пачуццё мовы як канцэнтрацыі духоўнага багацця культуры» (4, 7). Бадай, найбольш выразна гэтая сканцэнтраваная духоўнасць праяўляецца ў літаратурным творы праз канцэпты, катэгорыі шматмерныя і шматзначныя, якія знаходзяць мастацкую рэалізацыю ў двух асноўных плоскасных зрэзах — вертыкальным (дыяхронным) і гарызантальным (сінхронным). Іначай кажучы, канцэпт нясе ў сабе першасныя (рэальныя) прыкметы вобраза і другасныя (базавыя, архетыповыя); у сукупнасці сваёй яны і складаюць так званы дыяхронны зрэз. Але ў кожным мастацкім тэксце вобразы, што ўдзельнічаюць у стварэнні канцэптуальнай карціны свету, набываюць яшчэ і прыкметы канкрэтна-гістарычныя, канкрэтна-нацыянальныя і, нарэшце, канкрэтна-асобасныя, суб'ектыўныя — зрэз сінхронны. Такім чынам, *канцэпт — гэта складаны комплекс сэнсаў, пэўным спосабам структураваная сістэма ўніверсальных і індывідуальных значэнняў, якая дазваляе адэкватна спасцігнуць логіку аўтарскай задумы ці хаця б наблізіцца да яе, убачыць свет вачыма пісьменніка і як непаўторнай, унікальнай асобы, і як прадстаўніка сваёй нацыі і сваёй краіны, і як чалавека ўніверсальнага, носьбіта прапамяці, прагісторыі, пракультуры.* Паводле меркавання Дз. С. Ліхачова, «канцэпт не непасрэдна ўзнікае са значэння слова, а з'яўляецца вынікам сутыкнення слоўнікавага значэння слова з уласным і народным вопытам чалавека» (4, 7). У рэшце рэшт, канцэпт — гэта своеасаблівая мадэль цэласнага ўспрымання рэчаіснасці — як адвечнай, як сённяшняй і як вечнай, і кожны сапраўдны творца прыўносіць у яе разуменне новыя сутнасці, дапаўняе імі ўстойлівы змест славеснага вобраза.

Цалкам відавочна, што кожны канцэпт з'яўляецца структурай шматаспектнай; апошняя значна ўскладняецца ў выпадках з канцэптамі, зместы якіх адпачатку належаць да з'яваў метафізічных, нават сакральных, дарэшты не спасцігальных у сваіх духоўна-анталагічных сутнасцях. Да такога кшталту вобразаў-канцэптаў належыць, бясспрэчна, і канцэпт *анёл*; як і ўсякі іншы канцэпт, што ўдзельнічае ў стварэнні мастацкай карціны свету, ён, паўторымся, узбагачаецца яшчэ і індывідуальна-непаўторнымі якасцямі, якія вынікаюць са спецыфікі свядомасці канкрэтнага аўтара, яго эстэтычных поглядаў, нацыянальнай, канфесійнай, саслоўнай прыналежнасці, часу і абставінаў яго жыцця і творчасці. Колькі мастакоў — столькі мастацкіх светаў, столькі ўвасабленняў адной і той жа істоты або з'явы, яе экстрапаляцый на новы час і новыя падзейныя перыпетыі. Меў рацыю нямецкі пісьменнік Франц Фюман (ГДР), калі прыпадабняў спробы некаторых «бяздумных тлумачальнікаў» мастацкай вобразнасці да намераў «ракавінай вычарпаць мора» (5, 254). Тым не менш кожны чытач імкнецца зразумець сэнс мастацкага твора, разабрацца ў яго вобразнай сістэме, праблематыцы і паэтыцы. У выпадку з канцэптам *анёл* і яго інтэрпрэтацыямі ў літаратурах свету цалкам неабходна мець пра гэты вобраз падстаўовыя,

так сказаць, уяўленні, што ўзыходзяць да Бібліі, у прасторы якой, поруч з іншымі яе насельнікамі, дзейнічаюць і анёлы.

Зноў жа, як і кожны іншы канцэпт, канцэпт *анёл* у мастацкай, літаратурнай карціне свету ёсць, па вялікім рахунку, своеасаблівым монацэнтрычным комплексам; пад монацэнтрызмам тут маецца на ўвазе адзначаная цэласнасцю, непарыўным адзінствам і ўнутранай суаднесенасцю сукупнасць розных складнікаў мастацкай сістэмы (комплексу), згрупаваных вакол аднаго вобраза, дакладней — макравобраза, якім у дадзеным выпадку з'яўляецца вобраз анёла. Падобна да ўсякага іншага макравобраза, ён мае шэраг характарыстык — і адпачаткава-ўніверсальных, і прыватных, важных для разумення аўтарскай задумы, аўтарскай звышзадачы, для спасціжэння праблематыкі і паэтыкі твора. Як тыя, так і іншыя, датычныя і вонкавага аблічча анёлаў (напрыклад, крылы, белыя адзенні), і пэўных іх дзеянняў і ўчынкаў (палёты, песнапенні), і пэўных суправаджальных атрыбутаў (да прыкладу, тыя ж труба або меч), чытач мусіць улічваць у працэсе асэнсавання мастацкага твора, сістэмы яго вобразаў.

Адпаведна, менавіта названыя вышэй атрыбуты вельмі часта фігуруюць у якасці канцэптуальна важных, дамінантных складнікаў мастацкай структуры вобраза «анёл». Часта гэтыя атрыбуты — непасрэдна або праз падтэксты — адно з адным супакладаюцца (як адбываецца, напрыклад, у метафорыцы назвы і зместу вядомага рамана польскага празаіка Генрыка Сянкевіча «Агнём і мячом»).

Апрача таго, у кожным творы адзін канцэпт уступае ў цесныя ўзаемасувязі з іншымі канцэптамі, утвараючы разам з імі адмысловым чынам арганізаванае мастацкае цэлае — канцэптасферу, семантычны патэнцыял якой можа быць глыбока спасцігнуты толькі праз арганічную сукупнасць усіх суправаджальных складнікаў. Калі мець на ўвазе канцэпт *анёл*, то ён заканамерным чынам суадносіцца з такімі вобразамі, як рай, неба, зямля, святло, цемра, Бог, чалавек і інш. Усе гэтыя вобразы з'яўляюцца культурнымі ўніверсаліямі чалавецтва і нясуць у сабе надзвычай шырокія сэнсавыя зместы — і канкрэтны, і метафізічны, і сакральны — і могуць спараджацца як рацыянальнай, так і эмацыянальнай сферамі. Без уліку усіх гэтых зместаў спасцігнуць сэнсы канцэпта-дамінанты было б немагчыма.

Важна мець на ўвазе, што ў рэлігійнай парадыгме, у біблейскай прасторы анёл па сутнасці сваёй адназначны, «празрысты»; ён ёсць увасабленнем або дабра і святла, або зла і цемры. У мастацтве ж, і ці не найперш — у мастацтве слова, гэтыя палярныя якасці, гэтыя крайнасці надзвычай часта аказваюцца супакладзенымі, напластаванымі адно на адно. У выніку вобраз анёла можа набываць амбівалентнасць, сумяшчаць у сабе несумяшчальнае. Згадаем дзеля прыкладу адзін з самых вядомых сусветнаму чытачу твор — трагедыю Ёгана Вольфганга Гётэ «Фаўст». На пытанне Фаўста: *«Дык хто ж ты?»* Мефістофель (увасобленае адмаўленне і спакушэнне) адказвае: *«Частка сілы той ліхой, // Дабро ўтвараецца з якой»* (6, 53). Складаная дыялектыка мастацкага вобраза вынікае з самога жыцця: яно не ёсць ні дыстыляваным святлом, ні суцэльнай цемрай. Тое ж можна сказаць і пра асобу чалавека. Прыўнясенне індывідуальнага або нават глыбока інтымнага можа абяртацца не толькі неверагоднай экспрэсіўнасцю і псіхалагічнай напружанасцю, але і нярэдка адчувальнай супярэчнасцю мастацкіх увасабленняў вобразаў анёлаў (ды і іншых біблейскіх вобразаў таксама).

Думаецца, адметныя ўнутранай канфліктнасцю трактаванні біблейскіх вобразаў і сюжэтаў маюць асобнае і асаблівае значэнне, бо ўвагі заслугоўвае не толькі канечны плён духоўнага пошуку чалавека — прыход да веры, да Бога, але і сам вопыт гэтага пошуку, гэтага шляху, часта вельмі нялёгкага і пакручастага. Згадаем: было ж, было імгненне, калі ўкрыжаваны, спакутаваны Сын Божы, ясна ўсведамляючы непазбежнасць блізкай смерці, звярнуўся (паводле двух евангелістаў — Мацвея і Марка) да свайго Нябеснага Айца з адчайна-роспачным, поўным болю пытаннем: *«Божа Мой, Божа Мой, чаму Ты Мяне пакінуў?»* (Мц 27, 46; Мк 15, 34) (7). Дык ці не магло гэтае роспачнае Хрыстова імгненне для іншых, нават і многіх, але звычайных, расцягнуцца на значна даўжэйшыя часавыя адмежкі? Бо ці ж многія з нас могуць параўнацца з Хрыстом па моцы сваёй веры і свайго даверу да прадвызначэнняў Бога? І, можа, сумненні і супярэчнасці аўтара і яго герояў таксама месцяць у сабе своеасаблівы выратавальны патэнцыял — для чытача, які, цалкам магчыма, зробіць высновы на карысць непарушнай веры; з лабірынту пытанняў і перажыванняў, што былі і яго пытаннямі і перажываннямі, ён, можа, знойдзе жаданае выйсце, якое для — умоўна кажучы — чалавека мастацкага засталося незаўважаным або недасяжным? І ці не ёсць у пакутлівых і нават не заўсёды паспяховых пошуках таго або іншага чалавека таксама пэўны Божы Провід і павучальны ўрок для астатніх?

Сказаў жа ў свой час расійскі паэт Аляксей Талстой: *«Тщетно, художник, ты мнишь, что своих ты творений создатель»*.

Зрэшты, на гэты конт нямала разважанняў пакінулі нашы папярэднікі. Паэт і мысляр Д. Андрэеў (1906—1959), адштурхоўваючыся ад агульнавядомага выразу «Геній і зладзейства — дзве рэчы несумяшчальныя», у сваёй славутай «Ружы Свету» (1950—1958) пісаў: «Цяжка сказаць, прыглядаючыся да гістарычных фактаў, ці так гэта. У кожным выпадку, з цяжкімі заганамі, глыбокімі падзеннямі, мноствам дробных слабасцяў, нават з правіннасцямі супраць элементарных маральных нормаў мастацкая геніяльнасць не толькі сумяшчальная, але ў большасці выпадкаў геній нават не ў стане ўсяго гэтага пазбегнуць, прынамсі ў маладосці» (8, 354). Далей Д. Андрэеў падае імёны тых мастакоў, якія пражылі «на дзіва чыстае жыццё», заўважаючы, аднак, што падобныя асобы ў гісторыі чалавецтва сустракаліся «фенаменальна рэдка». Многія носьбіты вялікага таленту ад самага пачатку былі — хоць і не ў такой ступені, як, напрыклад, Моцарт, — асобамі гарманічнымі. Астатнія ж або паступова вызваляліся ад тэндэнцыі да самаразбурэння, або праходзілі разбуральны шлях да канца, так і не ўраўнаважыўшы, не згарманізаваўшы ў адзінае цэлае сваю асобу са сваёй мастакоўскай місіяй.

Але аўтар «Ружы Свету» піша і пра тых творцаў, якіх ён назваў «трагічнымі геніямі» і да якіх аднёс Шарля Бадлера, Мікалая Гогаля, Поля Верлена, Аляксандра Блока і некаторых іншых мастакоў слова: «Трагедыя кожнага з іх не толькі бясконца індывідуальная, яна яшчэ такая глыбокая, такая выключная, такая загадкавая, што дакранацца да таямніцаў гэтых лёсаў можна толькі з найвялікшай асцярожнасцю, з цнотаю і любоўю, з трапяткою ўдзячнасцю за тое, што мы ў іх узялі, менш за ўсё кіруючыся імкненнем вынесці гэтым вялікім няшчасным які-небудзь этычны прысуд. “Каму болей дадзена, з таго болей і спагоніцца” — так. Але няхай спаганяе з іх Той, Хто даў, а не мы. Мы толькі вучымся на іх трагедыях, мы толькі **бралі** (вылучана аўтарам. — *Е. Л.*), толькі чыталі напісаныя іх жыццёвымі катастрофамі паэмы Провіду, у якіх бачны гэтак выразна, як ніколі і ні ў чым, шматпланавы папераджальны сэнс» (8, 355).

Дарэчы, за некалькі дзесяцігоддзяў раней дакладна пра тое ж самае разважаў беларускі юнак, таленавіты паэт Уладзімір Жылка (1900–1933) у сваім «Дзённіку» (1923): «Песняры, музыкі найбольш адчуваюць гармонію, сугучнасць, таму ім найболей знаёма і агармонія, чорнае. І якое заўзятае змаганне ідзе. У маёй памяці цэлы рой гэтых пакутнікаў-мучальнікаў. Усе яны рыцары Святла, змагары з цемрай: трагічны Гогаль, парадаксальны Оск. Уайльд, святы Гл. Успенскі, хворы Дастаеўскі, мудры Ібсен, заблудзіўшыйся Ніцшэ. І ўсім жорсткі, у жоўтым Жах скрывіў болем рот» (9, 156). Як бачым, У. Жылку таксама па многіх прычынах надзвычай хваляваў гэты ўнутраны мастакоўскі канфлікт паміж «Святлом» і «цемрай».

Зрэшты, і ў гэтых «вялікіх няшчасных», якія змяшалі ў сваім жыцці і мастацтве, кажучы словамі Д. Андрэева, «смяротную атруту з прычасным вінам» (8, 401), ёсць творы, у якіх анёлы паўстаюць шчырымі і клапатлівымі абаронцамі чалавека і ўвасабляюцца ў кантэкстах чыстых і светлых, вольных ад напластаванняў змрочнага, глухога, апраметна-начнога, — і ў згаданага вышэй француза Верлена, і ў аўстрыйца Георга Тракля, і ў многіх іншых. У любым выпадку ўсе сапраўды таленавітыя, значныя літаратурныя творы, якія ў сваіх мастацкіх сістэмах месцяць вобразы анёлаў, па вялікім рахунку падпарадкаваны раскрыццю глабальнай антыноміі «дабро — зло».

Хранатоп літаратурных інтэрпрэтацый вобразаў анёлаў літаральна неабсяжны, таму назавём тут імёны толькі некаторых пісьменнікаў: Дантэ Аліг'еры і Джон Мільтан, Ёган Вольфганг Гётэ і Джон Дон, Джордж Байран і Генрых Гейнэ, Аляксандр Пушкін і Міхаіл Лермантаў, Аляксандр Блок і Канстанцін Бальмонт, Райнер Марыя Рыльке і Георг Тракль, Марына Цвятаева і Ганна Ахматава... Да гэтага пераліку неабходна далучыць і імёны беларускіх творцаў — Уладзіміра Жылкі, Масея Сяднёва, Алеся Салаўя, Рыгора Барадуліна, Анатоля Сыса, Міхася Скоблы і многіх іншых.


**Літаратура**

1. Розанов В. Апокалипсис нашего времени. — Москва: Центр прикладных исследований, 1990.
2. Францыск Скарына і яго час: Энцыклапедычны даведнік. Мінск.: Бел. Сав. Энцыклапедыя, 1988.
3. Борхес Х. Л. Коллекция: Рассказы, эссе, стихотворения / Пер. с исп. Багно В. — Санкт-Петербург: Северо-Запад, 1992.
4. Лихачев Д.С. Концептосфера русского языка // Известия АН СССР. Серия литературы и языка. 1993. Т. 52. 1.
5. Фюман Ф. Над огненной пучиной // Магический кристалл / Пер. с нем. Москва: Радуга, 1988.
6. Гётэ Ё.В. Фаўст: Трагедыя / Пер. з ням. В. Сёмухі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1991.
7. Біблія: Кнігі Сьвятога Пісаньня і Новага Запавету кананічныя ў беларускім перакладзе / Пер. В. Сёмухі. Duncanville, USA: Word Wide Printing, 2002.
8. Андреев Д.Л. Роза Мира. — Москва: Иной Мир, 1992.
9. Жылка У. Выбраныя творы. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998.



# Людміла Сільнова

Людміла СІЛЬНОВА — паэтка. Нарадзілася ў Маладзечне. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1979). З 1986 г. працуе бібліятэкарам у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Аўтар кніг паэзіі «Ластаўка ляціць...» (1993), «Агністыя дзьмухаўцы» (1997) і інш. Вершы перакладаліся на польскую, украінскую, славацкую мовы.

## Перабіраю, як ружанец

Дагэтуль
Мне яшчэ цікава,
Што злева,
Спераду і справа.

Але ўсё больш маўчу,
Як сяду:
Успамінаю дні,
Што ззаду.

Перабіраю,
Як ружанец:
Дзяцінства дзень...
І шлюбны танец...

І нараджэнне
Дзетак кволых...
Святочны стол...
Людзей вясёлых...

І як аднойчы
Шла з вакзала,
І мяне маці
Сустракала.

Сказала: «Помніш скверык?
Там
Паўстане хутка
Божы храм!

Святога Юзафа
Ён будзе...
А ты — Люцыя,
Мая Люда».

Глядзелі вочы
Дзіўнавата —
Дзве шклянкі,
Поўныя гарбаты...

Такога ж
Цёмнага напою,
Які цяпер
Ужо й са мною.

Дагэтуль
Мне яшчэ цікава,
Што злева,
Спераду і справа.

Але пасля Імшы
Часіна.
Вачэй цямнее
Зеляніна...

## Вехі гісторыі

Іржавыя вехі сусветнай гісторыі
Бібліятэкай дзяржаўнай паўтораныя!

Мы ехалі разам, гадалі, што будзе.
Кляліся: «Не здрадзім ні кнігам, ні людзям!»

Вайну, як раку па разбураным мосце,
Праехалі бурай, шалёнай ад злосці.

Хоць падалі, везлі і скарб наш, і памяць
Праз голле і вецер, і слоўную замець...

Збяромся ж – у марах, наяве! – у месцы
Адным ды высокім: у Бібліятэцы.

## Каля касцёла святога Юзафа

Бярозкі каля касцёла –
Да Бога дарогі светлыя.
Па белых ствалах — пісьмёны,
Старыя і ледзь прыкметныя.

Ля чыстых аўтамабіляў —
Апошнім шафёр выходзіць! —
Размовы вядзе радзіна,
Як трэба сябе паводзіць.

Дзяўчаты ў святочных строях.
І хлопчыкі ў чаравічках,
Сур'ёзныя, як героі:
Іх маці — ці бацька — клічуць...

Наводдаль квітнее клумба
У сонечных промнях лета
Пазбытым – ці новым цудам,
Вясельным якімсь букетам.

Укленчылі ля святога
Бабулі, што йшлі здалёку:
Ад зыбкі сваёй — да Бога,
Да блізкай ім столі высокай.

У цёплай траве – дарожкі
Да храма. Якаясь міма...
Пайду па шырокай, гожай
Намоленай і любімай.

## «Пленэр у Польшчы»

(З нізкі вершаў, прывезеных з Ружанастоцкага пленэру)

**1. Мастакі**
Мастакі за палотны — і ў поле:
Замалёўваць прыроду і волю,
У блакітна-зялёнай хусціне
Завязаць — і за плечы закінуць!..

І панесці па свеце далёка...
Праз гады каб гукаць і галёкаць

Птушка птушку — з тых дзіўных чародаў,
Што сплываюць у Рай назаўсёды.

**2. Паэтка**
Мастакі за палотны — і ў поле,
А паэтка клубніцы ў прыполе

Прынясе і згатуе гарбаты,
Побач цюцік заскача калматы.

А яна мастакам не пярэчыць.
Свой малюнак нягеглы — скамечыць,

Раскладзе на стале сваёй веры
Нож, аловак, асадку, паперы.

Плён паэткі — не горшы, не лепшы,
Але ўласны: прыгожыя вершы...

Мы на сонечным Боскім пленэры —
Ўсе! — уяўнай зямлі піянеры.

**3. Рака**
Цячэ цудоўная рака...
Плынь не з вады, не з малака —
Са слоў, што шэпчуцца ў малітвах,
Спяваюцца ў духоўных бітвах.

Быць хрысціянінам — абранасць.
Быць творцам — проста абазнанасць
У маляванні ці навуках
Карцінкі спараджаць у гуках.

Але спусціць усе па плыні
Насуперак сваёй гардыні
І аўтарству свайму насупраць —
У гэтым, я мяркую, сутнасць

Быць хрысціянінам: абмыцца
Вадой — і ў нетрах растварыцца...

Цячэ цудоўная рака...
Кісельны бераг... З малака
Сама, і ўся з карцінак-рыбак,
З раслінных целаў нашых зніклых

(Мы шкадаваць іх не павінны —
Ў вадзе гайдаюцца сцяблiны...)



# Віктар Вабішчэвіч

**Віктар Вабішчэвіч** — паэт, публіцыст, настаўнік гісторыі. Нарадзіўся ў 1960 г. у вёсцы Рубель Столінскага раёна. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў намеснікам дырэктара школы, дырэктарам Арлоўскай сярэдняй школы на Століншчыне. Цяпер выкладае гісторыю і сусветную мастацкую культуру ў СШ № 1 Давыд-Гарадка. Друкуецца з 1977 года. У 2003 г. выдаў зборнік вершаў «Чорны боль». Аўтар многіх артыкулаў па праблемах гісторыі і культуры Беларусі.

## Касцёл у Ішкалдзі

Тварэнне чалавечых рук
Ці, можа, след самога Бога.
Чуваць усюды мілы гук.
З усіх краёў сюды дарога.

Ідзеш ты годна праз вякі
Святлом нязгаснае надзеі.
Яе нясуць ва ўсе бакі
Твае праменні-дабрадзеі.

Каля сівых святых муроў
Шалелі злосныя навалы,
Нявінная лілася кроў
І баль свой правілі вандалы.

А ты стаяў і ўсё трываў,
І верай загартоўваў сілы —
Малітвам моц сваю даваў,
Даваў збалелым душам крылы.

Краса і веліч не сплылі
І не змарнелі ў лютай бойцы —
Як сімвал роднае зямлі
Гатычны храм Святое Тройцы.

Нясі заўсёды светлы дар —
Свой крыж, сваё наканаванне.
Ты дзён мінулых валадар
І нашых сэрцаў ратаванне.

## Твае грахі

Ты,
Наіўны,
Спрабаваў неаднойчы
Схаваць ад усіх свае правіны.

І сам зразумеў,
Што гэта марны занятак,
Бо ўсё таемнае
Некалі адкрыецца свету.

Ты
Хацеў ачысціцца
Пад лагодным летнім дажджом.
Хацеў...

О святая наіўнасць!
Як жа табе зразумець,
Што ўсіх акіянаў
Разам з усімі дажджамі свету
Не хопіць,
Каб змыць твае грахі.
Твае грахі.

## Хай будзе сэрца беззаганным

Сэрца ў любові прыходзіць у свет,
Сэрца жыве для любові.
Крыж свой патрэбна пранесці як след —
З думкаю светлай і словам.

Злітуйся, Божа, над грэшнай душой,
Дай ёй святло для збавення,
Век наш зрабі ратавальнай Імшой,
Сэрцу пашлі ачышчэнне.

Сэрца ратуй вызваленнем ад зла,
Сілай ратуй пераможнай.
Волі Тваёй не згасае хвала —
Голасам кветачкі кожнай.

Сэрца ратуй ад людской мітусні —
Цнотай дзіцяці малога.
Сілы, спагады падай, дабрыні,
Веры і шчасця дай многа.

Чуеца рэха малітвы маёй.
Дзіцем хачу быць адданым.
Божа, хай стане па волі Тваёй
Сэрца маё беззаганным.

## Зямля ратуе нас

Зямля даўно ўжо не крыўдуе
на наш упарты, грэшны люд,
Яна клапоціцца, шкадуе
І нас ратуе ад пакут.

Яна ратуе нас ад пекла,
Якое творым мы штодня,
Якое лёсам нас пасекла,
Якое нельга ўжо суняць.

Яна ратуе нас ад злога,
А злое лезе і паўзе.
Шчыльнее пошасцяў аблога —
Дабро змяншаецца ў вазе.

Зямля ратуе нас, як можа,
Гадуе ўсіх і кожны край.
Даруй правіны нашы, Божа,
Ва ўсім зямлі дапамагай!

## Роздум пра зменлівасць

Згасае светлы дзень няўхільна,
І ноч сплывае ў іншы свет.
Увагу страціць нават пільны.
Знікаюць цень і сілуэт.

Асілак падае без сілы.
Знікае смех — прыходзіць плач.
Замест герояў — іх магілы.
Няўжо так трэба? Растлумач.

Знікае, кажуць, нават сонца,
Зямля ад роспачы дрыжыць.
Змяніў жыццё сусвет бясконцы —
Не згіне толькі прага жыць.



**Анатоль Брусевіч —** паэт, літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў 1977 г. у Гродне. Скончыў філалагічны факультэт ГрДУ імя Янкі Купалы (1999), там жа — магістратуру (2000) і аспірантуру (2003) пры кафедры польскай філалогіі. Аўтар зборнікаў паэзіі «Дуэль» (1992), «Падаю ў неба» (2006), манаграфіі «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча» (2008). Жыве ў Гродне.

Анатоль Брусевіч

# ДЗЕНЬ ШОСТЫ

* * *

З вуснаў Пана зляцела вясна
У халоднае сэрца паэта,
І спачатку пытальніка знак
Нарадзіўся, а потым і лета.

Дзякуй, дружа ахоўнік-анёл,
Што ты дорыш мне думкі аб леце,
Але ў гэтым вялікім сусвеце
Ёсць і восень, і роспач, і боль.

### Кратары поўні

Кратары поўні — вольнасці краты,
Здрада і радасць марных ілюзій.
Кратары поўні — вочы Пілата,
Мост, дзе сустрэнуцца мары і людзі.

Кратары поўні могуць заплакаць
Светлай, салодкай слязой Магдаліны.
Поўня — чароўная, дзіўная плаха,
Дзе паміраюць пад спеў мандаліны.

* * *

Пажоўклы часопіс лесу
Гартае маўклівая восень,
Рукою халоднаю крэсліць
Пытальнікі і двукоссі.
І поўніцца новым сэнсам
Лістота радкоў забытых.
Пажоўклы часопіс лесу
Чытаю, нібыта малітву.

* * *

Плакаў абраз.
На рассечаным твары Марыі
Слёзы застыглі жывыя,
Слёзы за нас.

Плакаў абраз.
Невялікі пясочны гадзіннік
Болей не дзеліць хвіліны.
Скончыўся час.

## Восень

За вакном часовага прытулку
Я не бачу восеньскай тугі.
Бачу дождж, які сярод завулкаў
Узнімае воблакі-сцягі.

Бачу ў небе птушак феерверкі,
Жоўтых дрэваў радасных пажар.
З вышыні апошняга паверха
Бачу Пана светлы, ветлы твар.

## Дзень шосты

Блукаючы па Варшаве,
Сярод каменнага раю,
У думках я быў не там.
У думках паўстала Ліда,
Ля хатаў, шыферам крытых,
Там вішні спяць на платах,
А каля кустоў парэчак
Спыняецца кожны вечар
Малінавы сонца дыск,
Каб потым, на светлым золку,
Майго цалаваць анёлка
І плыць ва ўсе гарады.

* * *

Хочацца ціхай смерці —
Сну, што не мае межаў.
Хочацца жыць і верыць,
Верыць у прабуджэнне.

Хочацца быць нябачным,
Ветрам блукаць над краем.
Хочацца ўсіх прабачыць,
Але ці маю права?

## Ранішняя Імша

Зіма.
Па белай рачулцы ранка
Плывуць самаходы.
Падае снег.
А я
Ныраю ў аблокі,
Абліты срэбрам аргана,
Падаю ўверх.

## Каляды

Каляды. Гэты час, як вадаспад,
Які не ў дол спадае, а ў нябёсы,
Змываючы халодных зораў россып,
І поўні бляск, і шэры далягляд.
Віншую Бога. Адплывае страх
Перад жыццём самотным і цвярозым.
І хочацца ісці не па дарозе,
А бегчы напрасткі, па камянях,
Праз гэты снег і быць, як ён, — святым
І светлым, нібы першае прычасце,
І адчуваць на сэрцы толькі шчасце,
І не зважаць на ўласныя сляды.

Уладзімір Сіўчыкаў

# З «Начных нататак і фацэцый»

### Святы

Па запрашэнні чэшскага амбасадара Іржы Карася паслухаў арганны канцэрт у архікатэдральным касцёле Імя Найсвяцейшай Панны Марыі. Гучалі творы нямецкіх і чэшскіх геніяў, а іх найменні дый імёны саміх кампазітараў праецыраваліся на экран.

Даўнавата не быў на арганным канцэрце, а таму атрымаў вялікае задавальненьне. А вось тром слухачкам, з выгляду, найхутчэй, кітаянкам, гэтая музыка падалася, мабыць, неарганічнай і занадта гучнай, а таму ўцяклі яны пасярэдзіне імпрэзы.

Калі дзякаваў пасля канцэрта і развітваўся са спадарам амбасадарам, дазнаўся, што ён — адзін з «віноўнікаў» нацыянальнага свята! Падчас працы ў парламенце распрацаваў з групай паплечнікаў законапраект, паводле якога ў Чэхіі было прынятае свята — Дзень святых Кірылы і Мяфодзія! Было гэта падчас прэзідэнцтва Вацлава Гавела, і трэба толькі пазайздросціць чэхам белай зайздрасцю дый парадавацца за іх. Амаль што прыўласцілі яны вялікіх асветнікаў і вынаходцаў кірылічнага алфавіту, бо прэтэндуюць на іх і іншыя славянскія народы — тыя ж сербы і балгары. Элегантна прадэманстравалі чэхі павагу і прыхільнасць да культуры Цэнтральнай Еўропы і да еўрапейскіх каштоўнасцяў увогуле.

*3 сакавіка 2008 года,*
*у Міжнародны*
*дзень пісьменніка*

### З благаслаўлення Папы

У межах агульнанацыянальнай дыктоўкі разам з Валодзем Падголам правёў дыктоўку для сваякоў рэпрэсаваных палітыкаў і актывістаў.

Сталы ў бібліятэцы касцёла святых Сымона і Алены (ягоныя святары і паства не прымаюць зсаветызаваную назву Чырвоны касцёл!) аказаліся занятымі выставаю — кнігамі Яна Паўла II і фотаальбомамі пра яго. Давялося прынесці сталы і крэслы дадаткова. Апынуліся яны пад вялікім партрэтам Папы, на якім той дабраслаўляў парафіянаў, а значыць і нас. Урачыстасці, святасці дадавала дзеі ў бібліятэчным сутарэнні і выстаўленая там лічбавая копія з Турынскай плашчаніцы, выкананая на метале ў натуральную велічыню.

Нельга было глядзець без хвалявання, як старанна пісалі маці Аляксандра Казуліна, Змітра Каспяровіча, Уладзіміра Лабковіча, Андрэя Кіма. Поруч з імі шчыравалі эколаг і публіцыст Валеры Дранчук, мастак Рыгор Кійка, культуролаг Ада Чалей, грамадскі дзеяч Галіна Сіўчык... Цікава было дазнацца, што Таццяна Кім і Галіна Сіўчык пісалі беларускую дыктоўку першы раз у жыцці, бо не вывучалі беларускай мовы ў школе, а калі яшчэ дакладней — вучыліся не ў беларускіх школах.

Але ідэю дыктоўкі ўпадабалі яны настолькі, што намерыліся правесці яе і праз два дні ў знак пратэсту... у сталічным Цэнтральным судзе, дзе меўся адбыцца закрыты працэс над актывістам моладзевага нефармальнага аб’яднання «Ініцыятыва» Андрэем Кімам, які нібыта ўдарыў міліцыянта падчас мітынгу прадпрымальнікаў. Іронія і трагедыя лёсу — Андрэя будуць засуджваць у будынку колішняга Коласаўскага ліцэя, у якім ён вучыўся!

Уразіў мяне і яшчэ адзін «напісант», амаль што мой цёзка па прозвішчы, навучэнец 23-й менскай гімназіі. Зазірнуў праз ягонае плячо і пабачыў, што Ян Вітаўт Сіўчык старанна вы-

**Уладзімір Сіўчыкаў** — пісьменнік, мастак, выдавец. У 1986 г. скончыў аддзяленне беларускай і рускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ. Аўтар кнігі апавяданняў і п’есаў «Гульня ў тастамант» (1992), кніг прозы «Лісты да брата» (1998), «Бювар» (2009), кнігі паэзіі «Высакосны год» (2004), слоўніка-даведніка «2000 русских, 2000 белорусских идиом...» (сумесна з А. Баярынай, 2006). Укладальнік (разам з А. Марачкіным) і адзін з аўтараў альбомаў «Жодзінцы. Жывапіс. Графіка. Мастацкае слова» (2008), «Рыцары Пагоні і Арла» (2010). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў (з 1990 г.), Беларускага ПЭН-Цэнтра (з 2004 г.), Беларускай асацыяцыі журналістаў (з 2009).



Кс. Ул. Завальнюк, біскуп А. Дзям'янка і У. Сіўчыкаў на свяце польскай песні. Мінск. 2010 г.

водзіць сказы... лацінкаю! Не змог утрымацца і напрыканцы ўзнагародзіў яго як актыўнага ўдзельніка дыктоўкі ўнікальным (на 28 моваў і на 100 000 адзінак перакладу!) «ЕўраСлоўнікам» Лявона Баршчэўскага, пажадаў яму стацца ўдзельнікам будучай дыктоўкі краінспадкаемцаў Вялікага Княства Літоўскага і нават ЕўраДыктоўкі.

Дарэчы, скарысталі сёлета лацінку гэтаксама пісьменнік Уладзімір Содаль, палітык Алесь Лагвінец і многія іншыя.

Прыемна было пачуць падзяку за педагагічныя і артыстычныя высілкі — гэтым разам ад Валерыя Дранчука. Але калі й давядзецца яшчэ выступаць у ролі дыктоўшчыка, дык хацеў бы прамаўляць разам са знакамітаю тэледыктаркаю Зінаідаю Бандарэнка!

*29 сакавіка 2008 года*

### Рознасвятасць

На кніжным кірмашы, які праходзіў у павільёне «БелЭКСПА», што на вуліцы Янкі Купалы, на стэндзе выдавецтва «Pro Christo» прыслухаўся да дыспуту паміж наведвальнікам-чытачом і выдавецкім рэдактарам.

Кніжнік-прафесіянал даводзіў, што расійскія кананізаваныя святыя ёсць пераважна пустэльнікамі дый пячорнікамі, а беларускія — рупліўцамі-працаўнікамі дый нястомнымі асветнікамі!

Цікавае і, напэўна ж, слушнае назіранне-сцверджанне!

Узгадалася зазнанае яшчэ падчас вучобы на філалагічным факультэце: беларускае слова «свята» аднакарэннае са словам «святасць». Адпаведнае яму рускае слова «праздник» азначае «праздность», «ничегонеделание».

*12 лютага 2009 года*

### Воблачка

Фарбаваная бландзінка Наталля Жукоўская доўгі час працавала ў Доме быту, што пры Камароўскім рынку на вуліцы Кульман у нашае сталіцы. Шыла і рапаравала яна самыя разнастайныя рамяні, пасы і паясы, а праз гэта займела там мянушку «Паясніца».

Па пратэкцыі сяброўкі Раісы Ш. уладкавалася яна на Беларускае тэлебачанне ў пашывачны цэх. Апошнюю акалічнасць яна не педаліравала, і, калі ў яе пыталіся, дзе яна працуе, дык з гонарам адказвала:

— На тэлебачанні!

Аднаго разу намерыўся быў Алесь К. («творца», як паўіранічна іменавалі ў пашывачным цэху рэжысёраў, сцэнарыстаў, акцёраў, вядучых) прыватным чынам замовіць Наталлі сякоетакое шытво і, каб паддобрыцца, агучыў ёй паэтычны камплімент:

— Вы, Наталля, такая лёгкая і светлая, як воблачка!

— Што?! — угнеўлена ўперыла рукі ў бокі швачка. — Гэта я сухая вобла?! На сябе паглядзі! Прэч з цэха, і каб аніколі я цябе тут больш не бачыла!

*28 жніўня 2010 года*

### Тэльманаўкі

Быў нямала заінтрыгаваны, калі агледзеў у скверыку ва ўнутраным двары беларуска-нямецкага абутковага прадпрыемства «Отыка» паясны гранітны помнік.

Падышоў бліжэй і зніякавеў — аказалася, што гэты змрочны стод... Эрнсту Тэльману!

Але чаму Тэльману? Хіба быў з сям'і краўца?!

Агульнавядома, што пачынаў ён як транспартны рабочы, а потым займаўся прафсаюзнай і палітычнай дзейнасцю.

Вынікае, што менскія абутнікі натхняліся і натхняюцца пад ягоным позіркам, ідучы на чарговую працоўную змену, ставілі і ставяць вытворчыя рэкорды з благаслаўлення нямецкага сацыял-дэмакрата, а потым

і камуніста, сябра Выканкама Камуністычнага Інтэрнацыянала, дэпутата Рэйхстага і двойчы кандыдата ў прэзідэнты Германіі?

А каб стаяў там помнік паляку, заснавальніку аднае з карных савецкіх установаў Феліксу Дзяржынскаму, дык колькасныя і якасныя паказнікі абутнікоў былі б яшчэ лепшымі?!

Але і сёння ахоўніцы на прахадной ад Кальварыйскай вуліцы па-чэкісцку пагрозліва хмураць бровы, перапытваюць і заносяць у журнал імя, калі іду ў друкарню, якая арэндуе плошчы ў адным з карпусоў абутковага аб'яднання, вядомага як фабрыка яшчэ з 20-х гадоў мінулага стагоддзя.

*16 красавіка 2011 года*

**«Jedno gorące mleczko!»**

Мой цёзка, празаік Уладзімір А., расказаў быў гісторыю з тых часоў, як першага разу пабываў у Нямеччыне. Захацелася яму шыкануць і, каб пачуцца сапраўдным і незалежным еўрапейцам, замовіў сабе ў вулічнай кавярні кубачак кавы, а потым яшчэ папрасіў да тае кавы малака.

Якія ж былі ягоныя здзіўленне і прыкрасць, калі пабачыў у рахунку, што мусіць заплаціць за духмяны напой паўтары дойчмаркі, а за малако — ажно пяць!

Тады мне прыгадалася свая «малочная» гісторыя.

Адпачываў колькі гадоў таму з сям'ёю на Каляды ў заснежаным і дужа марозным Закапанэ. Падчас аднае з вечаровых шпацыровак зайшлі пагрэцца ў прыватную аўстэрыю. Замовілі бацькам па глінтвейну, старэйшай дачцэ — гарбату, а малодшая, Хрысціна, папрасіла малака, якога... не аказалася ў меню. Аднак гаспадыня, якая прымала заказ, не разгубілася і папрасіла счакаць колькі хвілін.

Праз акно пабачылі мы, як праз вуліцу кінуўся да бліжэйшае прадуктовае крамы падлетак без верхняе вопраткі, мабыць, гаспадынін сын.

А праз некалькі хвілін афіцыянт прынёс Хрысцінін заказ у надзіва прыгожым, нібыта ёлачнае ўпрыгажэнне, парцалянавым кубачку. І да яго на сподачку і сурвэтачцы — два кубічкі рафінаванага бялюткага цукру!

— Jedno gorące mleczko dla panienki!

Дачушка мая была расчуленая такім клопатам і павагаю, тым болей што і ў гардэробе яе футра патрымалі, сагрэлі перад калярыферам знутры і толькі потым падалі, дапамаглі надзець.

Мабыць, і засынала яна таго вечара са словамі «Jedno gorące mleczko…» на вуснах.

І, мажліва, той клапатліва здабыты і спагадліва пададзены кубачак гарачага салодкага малака шмат што вызначыў у яе жыццёвым лёсе.

**Выразныя даты**

У сям'і майго калегі-кнігавыдаўца Ігара Логвінава з'явілася на свет дачушка, якую, хутчэй за ўсё, назавуць Варвараю. Нарадзілася дзяўчынка ў дзень, які можна пазначаць шасцю адзінкамі, — 11.11.11!

Летась, мабыць, толькі лянівы, калі віншаваў паэта Леаніда Дранько-Майсюка, не адзначыў адметнасць даты ягонага нараджэння, якая складалася з трох дзясятак — 10.10.10!

З цікаўнасці зазірнуў у дзённікі.

09.09.09 у «Журавінцы», што па-над Свіслаччу, годна святкавалася 18-годдзе незалежнасці Украіны. Але быў і прыкры момант — пры асобным стале, прызначаным VIP-асобам, афіцыянткі не далі Уладзіміру А. келіха ягонага ўлюбёнага чырвонага віна! Цікава, якім чынам вызначалі яны, хто ёсць VIP-ам, а хто не?! А іхнія калежанкі, калі Валеры С. замаўляў гарбату, не раз перапытвалі, але потым усё роўна прыносілі яму... каву!

08.08.08 згадвалі славутую перамогу над маскоўцамі пад Воршай, адзначалі Дзень беларускай вайсковай славы, а таксама Дзень міжнароднае салідарнасці журналістаў!

07.07.07 — такая выразная трыяда вымалявалася была на Купалле. Прымаў тады на Лысае Гары славацкіх сяброў, ладзіў ім двухгадзінную экскурсію па Заслаўі.

*14 лістапада 2011 года*

**«Ардынец»**

Колішняя знакамітая і папулярная, з даўняй і традыцыйнай назваю кнігарня «Падпісныя выданні» праз глупства адной з былых загадчыц займела была падгледжанае ёю ў Санкт-Пецярбургу недарэчнае расейска-ангельскае найменне «Книжки & книжечки».

У тамтэйшай гандлёвай зале пачуў я пытанне гандляркі да таваразнаўцы:

— А што, альбом Напалеона Арды прадалі ці кудысь пераставілі на паліцах?

Напалеон Орда (1807–1883) — найвыдатнейшы мастак і кампазітар. Творчасць ягоная апошнім часам актыўна вяртаецца з нябыту — выдаюцца альбомы графічных выяваў беларускіх помнікаў дойлідства, з

кампакт-дыскаў і ў канцэртных залах гучаць ягоныя творы, на Палессі ў горадзе Іванава (колішнім Янаве-Палескім) усталяваны бронзавы помнік Напалеону Орду скульптара Ігара Голубева.

Але, аказваецца, адной толькі непісьменнай пастаноўкаю націска ў прозвішчы можнаператварыць знакамітага творцу-еўрапейца ў ваяўнічага ардынца!

*15 траўня 2012 года*

**Колеры крыві**

На нацыянальных сцягах многіх еўрапейскіх народаў — беларусаў, латышоў, палякаў, славакаў і іншых — вельмі актыўны чырвоны колер.

Найчасцей звязваюць ягоную семантыку з кроўю Хрыста, з колерам Плашчаніцы або з кроўю, пралітаю змагарамі за Радзіму, але ці не самымі назіральнымі і хітрымі аказаліся нашыя паўночна-заходнія суседзі — латышы.

Без асаблівых тлумачэнняў, але настойліва і далікатна ўдакладняюць яны пры патрэбе колеры свайго сцяга, маўляў, не адкрыты чырвоны, а больш цёмны, складаны й насычаны. І праўда, пралітая кроў — што артэрыяльная, што венозная — вельмі хутка цямнее, робіцца брунатна-чырвонаю. Але ані разу не пачуў я ад саміх латышоў пра колер крыві.

Здагадку маю колісь пацвердзіў краязнаўца, паэт і актыўны перакладчык латышскае паэзіі Сяргей Панізьнік, калі пра гэта наўпрост спытаўся я ў яго на выставе сучаснага латышскага жывапісу.

А вось пра тое, што ў адрозненне ад герба «Пагоня», знанага з канца XIII стагоддзя, наш бел-чырвона-белы сцяг кадыфікаваны, прыдуманы, уведзены ва ўжытак у 1917 годзе, дазнаўся нядаўна. Больш за тое, вядомы нават яго аўтар. Гэта Клаўдзій Дуж-Душэўскі, выпускнік Пецярбургскага горнага інстытута, дойлід, грамадскі дый тэатральны дзеяч.

*16 траўня 2012 года*

**Вінцэнт і Аляксей**

Некалькі гадоў таму напісаў я і апублікаваў даволі разгорнутае эсэ пра Вінцэнта Вілема Ван Гога — нідэрландскага галерэйшчыка, святара і геніяльнага мастака.

А сёлета дочкі мае выбраліся ў Амстэрдам да сяброўкі і гасцявалі ў яе два тыдні. Дражнілі мяне SMS-камі кшталту: «Прывітанне, татка! Мы пабачылі палотны Рэмбрандта, Пікаса, Малевіча і Вярмеера Дэльфтскага. Сёння ідзем глядзець Клода Манэ і Шагала!».

Куды болей за розныя прысмакі і сувеніры парадаваў мяне прывезены з галандскага музея мастака альбом «Van Gogh Museum. Life, Work and Contemporaries (Музей Ван Гога. Жыццё, праца і сучаснікі)».

Арыгінальна і часам вельмі нечакана скампанаваныя там іканаграфічныя матэрыялы. Некаторыя артэфакты сталіся мне адкрыццём. Да прыкладу, фотапартрэт брата Тэадора 1889 года — за два гады да Вінцэнтавай смерці. Карта Нідэрландаў, Бельгіі і Францыі з адзначанымі на ёй гарадамі і мясцовасцямі, дзе жыў, працаваў і тварыў вялікі галандзец. Рэпрадукцыі з малазнаных твораў майстроў і паплечнікаў (японца Утагава Хірасіге, француза Поля Гагена), якія уплывалі на мастака, што пайшоў з жыцця заўчасна.

А вось дата ягонага нараджэння адзначана і ў беларускім мастакоўскім календары — 30 сакавіка нарадзіўся і Алесь MaRa (Аляксей Марачкін). Больш за тое, лучыць іх і яшчэ адзін дзівосны факт з біяграфій. Агульнавядома, што за год да нараджэння Ван Гога памёр ягоны старэйшы брат, які гэтаксама меў імя Вінцэнт Вілем! Аказваецца, што гэтаксама за год да з'яўлення на свет будучага беларускага мастака памёр ягоны брат, якога бацькі гэтаксама звалі Аляксеем, Ляксейкам!

На адной з апошніх сваіх персанальных імпрэзаў Алесь MaRa паказаў публіцы некалькі новых твораў. «Мальву» — гатычна стромкае палатно, прадстаўляў ён з асаблівым замілаваннем, называў «беларускай мальвінаю» і згадваў пры тым знакамітыя вангогаўскія «Сланечнікі».

Чарговы раз Аляксей прыемна здзівіў умельствам і талентам ператвараць свае асабістыя святы ў святы сябрам і паплечнікам не толькі з мастакоўскага цэху — праспяваў дуэтам з цяперашнім ачольнікам творчай суполкі «Пагоня» жывапісцам Генадзем Драздовым, пачытаў свае вершы.

*18 чэрвеня 2012 года*



# Алена Сямёнаўна

Пра Алену Сямёнаўну (хочацца ўдакладніць — пра *нашу* Алену Сямёнаўну) гавaрыць вельмі ганарова і вельмі няпроста. Ганарова — бо гэта выдатная, слаўная, знакамітая постаць у сучаснай беларускай літаратуры. Няпроста — бо яна надта маштабная, творчая асоба, надта багаты ўклад у мастацкую скарбніцу Беларусі, у духоўную культуру народа. У гісторыі чалавецтва цывілізаваных эпохаў так было заўсёды. І аднак жа заўсёды ўдзячныя суайчыннікі імкнуліся засведчыць сваю пашану і любоў да лепшых з лепшых — да тых, хто ёсць прыкладам самаахвярнага служэння Бацькаўшчыне, людзям, дабру і праўдзе.

Сёлетні высокі юбілей Алены Сямёнаўны Васілевіч супадае з яшчэ адной значнай у яе жыцці юбілейнай датай: шэсцьдзясят пяць гадоў назад яна як прызнаная літаратарка была прынята ў Саюз пісьменнікаў. Дазволю сабе пахваліцца, што я быў сведкам гэтай падзеі. У ліпені 1947 года ў Мінску праходзіла Першая рэспубліканская нарада маладых пісьменнікаў. У апошні дзень нарады найбольш творча выяўленых яе ўдзельнікаў Праўленне СП прыняло ў шэрагі пісьменніцкай арганізацыі. У ліку шасці благаслаўлёных была і Алена Васілевіч. Самы малады (няпоўныя шаснаццаць) з запрошаных на нараду, я ўважліва прыглядаўся і да знакамітых майстроў-настаўнікаў (Якуб Колас, Янка Маўр, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Пімен Панчанка, Алесь Якімовіч), і да пачаткоўцаў-вучняў (Іван Шамякін, Андрэй Макаёнак, Аляксей Русецкі, Мікола Аўрамчык і іншыя; да гэтага ваеннага пакалення належала і прыгожая, зграбная «вучаніца» ў пекнай белай сукенцы, з далікатнымі акулярками на адухоўленым інтэлігентным твары — Алена). Канечне ж, я і думаць тады не мог, што праз тры з гакам гады яна рэкамендуе да друку мой верш «Практыкантка» (часопіс «Работніца і сялянка», 1951, № 4) і пачнецца доўгая, шматгадовая паласа майго супрацоўніцтва з гэтым часопісам, а лепш сказаць — майго ўдзячнага карыстання ўвагай і падтрымкай з боку Алены Сямёнаўны. О, як маладыя аўтары адчуваюць атмасферу спрыяння і дабрыні ў рэдакцыйным пакойчыку!..

Тым часам з-пад пяра Алены Васілевіч адзін за адным

з'яўляюцца творы мастацкай прозы — аповесці, апавяданні, эсэ, выходзяць з друку кніга за кнігай, імя пісьменніцы становіцца адным з самых вядомых, папулярных і — без перабольшання — любімых. Папулярнасць, як вядома, бывае розная, ёсць і тая, што дасягаецца лёгка, на шляхах спекулятыўных тэматычных хадоў і сюжэтных прыёмаў. Гэта ні ў якой меры не датычыць Алены Васілевіч. Яе папулярнасць заваявана самым сумленным чынам. Скажу галоўнае: чытач адказвае любоўю толькі на любоў, даверам — толькі на давер, павагай — толькі на павагу. Чым перш за ўсё вызначаецца сам дух усяго напісанага Аленай Сямёнаўнай? Тым, пра што ўжо сказана вышэй: «атмасферай спрыяння і дабрыні» — спрыяння чалавеку (чытачу), дабрыні да чалавека (да чытача). І самыя драматычныя жыццёвыя сітуацыі, у тым ліку сямейна-бытавыя, пераносяцца лягчэй і не прыводзяць у тупік, калі чалавек не трацiць пачуцця спрыяння, не траціць дабрыні. Божа, колькі святлістага святла ў кнігах нашай Алены Сямёнаўны! І як ёй удзячныя за гэта прагныя да святла чытачы!..



Ніл Гілевіч і Алена Васілевіч на Случчыне.
1980-я гады.

Летам 1967-га, будучы ў Балгарыі, я атрымаў ад 9-гадовага сына лісток, які заканчваўся так: «Прачытаў шмат кніг — „Расці, Ганька!“ і другія. Цалую. Сяргей». Дык вось, «Расці, Ганька!» — першая кніга з тэтралогіі Алены Васілевіч «Пачакай, затрымайся...» Калі мне і сёння (праз 45 гадоў) уцешна думаецца пра святло ў душы сына, то я не сумняваюся, што яно ўлівалася яму з кніг славутай беларускай пісьменніцы. І мне хочацца яшчэ раз — услед за мільёнамі чытачоў — сказаць: дзякую! Дзякую, дарагая Алена Сямёнаўна! З нізкім сардэчным паклонам. І дай Бог Вам здароўя, каб маглі пачуць гэта слова яшчэ безліч разоў. Ад усіх, каму адкрыўся і яшчэ адкрыецца Ваш цудоўны талент.

А яшчэ — шчыра-шчыра дзякую за сяброўства, за падтрымку ў маіх галоўных жыццёвых клопатах, за веру, якую выказалі яшчэ трыццаць гадоў таму ў надпісе на першым томе трохтомніка: «Нілу Гілевічу — з нязменнай павагай, захапленнем і гонарам, што *наша беларуская зямля* раджае такіх сыноў...» Трыццаць гадоў перачытваю гэтыя бясконца дарагія мне словы, ведаючы, якая слаўная дачка *нашай беларускай зямлі* напісала іх.

*Ніл ГІЛЕВІЧ.*
*Народны паэт Беларусі.*



Фота В. Ільіной.

# Тры квадры жыцця

## Да юбілею Дануты Бічэль

Што напісаць пра Дануту Янаўну такое, што яна сама пра сябе не ведае?

Гэта складана. Працей пісаць не для яе адной, а для сотняў іншых, тых, хто ведае пра яе недастаткова. Каб спазналі, з якой сучасніцай пашанцавала ім сустрэцца на скрыжалях айчыннай гісторыі...

Цяжка ўзгадаць, калі мы пазнаёміліся асабіста. У памяці аніводнага ранняга адбітку.... Хоць бясспрэчна: пра паэтку Дануту Бічэль я ведаў яшчэ са школьнай лавы, а студэнтам-філфакаўцам зачытваўся творамі незабыўнага Уладзіміра Караткевіча, дзе ў ягоным знакавым зборніку «Мая Іліяда» ўразіў гожы верш «Каложа» з прысвячэннем «*Дануце Бічэль*»:

*Каложа, туга мая светлая!..*
*Ў чорны Нёман па чорным шкле*
*Сіняй кропляй спадае ракета,*
*Быццам зорка ў ціхі Бетлем.*

Менавіта іхняе знаёмства падштурхнула мяне ў сярэдзіне ўжо далёкіх 80-х гадоў мінулага стагоддзя звярнуцца лістоўна да Дануты Янаўны — папрасіць напісаць успаміны пра аўтара «Хрыста, які прызямліўся ў Гародні» й «Каласоў...» пасля пякучай страты ў ліпені 1984-га.

У лютым 1986 года ў мой заснежаны Ракаў прыйшоў ліст (можа, ужо й не першы).

«*Дарагі Язэп Язэпавіч!*

*Даруйце, што я не адразу адказала Вам... Была ў Брэсце — па Бюро прапаганды мастацкай літаратуры зарабляла грошы. Вы, відаць, ведаеце, што ўжо тры гады я ўдава, а дзеці мае і ўнук яшчэ не працуюць, то прыходзіцца круціцца, каб звесці канцы з канцамі... Я настолькі змучылася, што па сёння крыху водзіць мяне і сэрца здало. Ужо заракаюся не ездзіць у такія заробкі, але ж як прыцісне, паеду...*»

Перачытаўшы цяпер такое — сціскаецца сэрца: у сорак шэсць гадоў застацца адной з сынам і дачкой на руках!..

Калі табе самому толькі нядаўна пераваліла за 50, раптоўна ўсвядоміцца: скрушны быў Ваш, Данута, «залаты» юбілей! І вайны не трэба, каб дзеці пачуліся сіротамі.

А калі ёй было лёгка? Хіба што ў маленстве, пры бацьках, Марылі і Ясю, якія, дзякаваць Богу, абое дажылі да паважнай старасці. У райскім месцы — на хутары Біскупцы, што пад Лідаю. Аксамітназялёным ад травы, зеляніны і разнатраўя. Успаміны нашай юбіляркі пра маленства гэтак і называюцца: «Мурожныя Біскупцы». Прачытайце — і вы дакранецеся да глыбінных каранёў роду Бічэляў, а таксама Бурносаў, Саўкевічаў. Даведаецеся, што гэта бабуля Канстанцыя, з Белагруды пад Лідаю, якую Данут й не памятае, хоць нарадзілася пры ёй, ведала мноства малітваў-пацераў, якім навучыла старэйшую ўнучку Рэню, а тая — малодшую сястру. Толькі з малітвамі й глыбокай верай можна было перажыць паваеннае ліхалецце пад бальшавікамі, якія ўсіх зганялі ў калгасы, абразаючы прадзедаўскую зямлю пад самы паркан.

Талент ёй даў Бог. Паэтка не расла, а адразу мела высокі рост — Божанька пагладзіў па галаве ў маладосці. Таму нават першую жыццёвую квадру Данута Бічэль святкавала як творца, ужо маючы паэтычны зборнік «Дзявочае сэрца» (1961), а на другое 25-годдзе, што разам склалася ў звонкія 50 жыццёвых вёрстаў, паэтка займела амаль дзясятак выданняў: «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976); «Браткі» (1979), «Загасцінец» (1985), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Даўняе сонца» (1987). Апроч іх напісаліся і кніжачкі для дзяцей: «Перапёлка» (1968), «Грыб-парасон» (1969), «Дзічка» (1971), «Дагані на кані» (1973), «Лузанцы» (1982) і інш.

Дзякаваць Богу, па навуку не трэба было ехаць, як за расейскімі царамі мінулых стагоддзяў, у далёкія Дэрпт (цяпер Тарту ў Эстоніі) ці Кіеў або ў Маскву, Пецярбург. Таму, скончыўшы напачатку Наваградскую педагагічную вучэльню (1957), пайшла на аддзяленне роднай мовы, літаратуры і гісторыі Гарадзенскага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы. З 1962 года выкладала беларускую мову і літаратуру ў школах Гродна. Адпрацавала настаўніцай 20 гадоў! Што гэта значыць? Вось «жыццёвы абразок» пра гэты перыяд у лісце Ларысы Геніюш да Пятра Рашэтніка (30.09.1981): «*...Учора я была ў Данусі... Дануся захварэла і нэрвова. Яна цяпер выкладае ў школе бел(арускую) мову, а гэта на Беларусі найцяжэй. Гэты ўрок бяруць на ўсе «прывіўкі», іншыя справы, бо ён, бачыце, мала тут важны. Тыя, хто не вывучае гэтай мовы, мусяць быць у клясе і рабіць настаўніку ўсе фокусы і подласьці, каб ён ня мог выкладаць... Вось гэта і дабіла бедную Данусю. Яна зьвярталася аж да М. Танка, каб яе ратаваў, і моцна хварэла. Я думаю, што тут болей нэрвы, хоць кашляе яна страшна. У Гродне — ні каўбасы, ні масла. Вялікая толькі чарга па цыбулю. Мы там купілі толькі па буханцы хлеба...*»

Зачытаўшыся толькі што прафесійна ўкладзеным й выдадзеным Міхасём Скоблам томам «Ларыса Геніюш. Лісты з Зэльвы» (Гародня-Wrocław, 2012), бы ў старасвецкім хатнім альбоме пабачыш нашу юбілярку ў розных жыццёвых рэаліях. Толькі фотаздымак пакідае на памяць нашчадкам паставу і аблічча (вось як у лісце ад 23 красавіка 1968 года: «*На святы прыехалі да нас на таксі з Гродна Бічэль-Загнетавы. Ён з барадой, ня меншай, як у Фідэля... Дануся выглядае цудоўна. Патанчэла, пахарашэла, добра апранутая*»). А ў словах, выказаных вялікай папярэдніцай і настаўніцай Дануты ўбачыш і ўведаеш тое, што не здольны падгледзець аніякі цэйсаўскі аб'ектыў, якой бы ні быў павелічальнасці. «*...Перачытала яшчэ раз ліста Д(ануты Бічэль). Мне так хацелася расказаць Валодзі (Караткевічу) аб узьвейным, амаль дзявочым пасмачку тугі па ім, якая так адчуваецца з ліста. Скажэце яму аб гэтым, перадайце яму ад нас дзьвюх прывітаньні...*» (3 траўня 1965 г.); «*Вельмі чакаю на новую кніжку Данусі. Нечаму спадзяюся там на глыбокія думкі і характэрную ёй шчырасьць пачуцьцяў....* » (15 жніўня 1978 г.); «*... я не магу варушыць матэрыяльнай ці духовай адчайнасьці, нейкага маральнага ці фізічнага калецтва. Гэта ўжо паталёгія. Акрамя бездані гэтага болю мы мелі і маем нейкую сьветласьць. Мы былі здольныя на пратэст, на духовую перамогу і таму існуем яшчэ! Пашто паказваць людзям роспач і раны, пашто вярэдзіць ім душы, калі трэба хоць крыху сыпнуць праменьняў і надзеі,і ўпэўненасьці ў сабе. Трэба страсянуць і паказаць сапраўдныя вартасьці, каб паставіць на ногі тых, хто захістаўся! ... Ня час калупацца ў паталёгіі, калі трэба ўздымаць багатае, шматбаковае паняцьце чалавека-беларуса, якога шліфавалі вякі, і за якога не ўстыдно перад культурамі, хоць быў ён у лапцях...*» (11 студзеня 1980 г.);

Пазбіраць бы іх словы адны да адных, каталічкі і праваслаўнай, і пачытаць пад адной вокладкай! І колькі б ні перачытвалі — не адчуеце аніякай розніцы ў веравызнаннях. Родныя душы хрысціянскія... Каб хто яшчэ так сябраваў між сабою! Дзякуючы Дануце Бічэль захаваліся прызнанні да яе зэльвенскай самотніцы («*Памаленьку палю свае рукапісы. Часам бывае жаль...*») з вершаванымі радкамі (11 кастрычніка 1978 г.):

*Калі цяжка — Богу малюся,*
*Каб мне сілу й цярпеньне даў.*
*Пакажэце мне беларуса,*
*Каторы б мяне не прадаў?!*

І робіцца ўзаемна скрушна, што з тых самых цэнзурных прычынаў, у пасляСталінскай Беларусі, Данута Бічэль, баючыся, што давядзецца ехаць за мужам углыб Расеі, дзе Эрыку давалі працу, папаліла й лісты Геніюш да яе, напісаныя ў 1960-я гады...

Часы савецкія былі безнадзейныя. Як горка было бачыць і ўсведамляць лепшым прадстаўнікам народа над Нёмнам і Дняпром, Шчарай і Чорнай Ганьчай, над палескай Прыпяццю і Дзвіною, калі на тваіх вачах канае беларушчына, калі анідзе няма месца роднаму слову! Нават у святынях. І ўжо «моляцца, хто цябе прагне. — Моўчкі. Аднымі вачыма...». І толькі адзінкі бачылі ў цемры святло і ішлі на яго. Вось тая ж самая Ларыса Геніюш у лісце да Дануты Бічэль (29 кастрычніка 1981 г.): «*...пра кс. Чарняўскага нейкі, здаецца, біскуп за мяжой адазваўся з абурэньнем — як гэта можна ў каталіцкім касьцёле гутарыць на беларускай мове?! Ну і нагласьць! Як гэта балюча, што кожнаму можна зьневажаць нашую мову, а гэтым і наш народ*!»

Ці не гэтыя эпісталярныя радкі натхнілі таксама паслядоўніцу Геніюш на верш, прысвечаны тагачаснаму адзінаму (!) беларускамоўнаму святару, які на верандзе перакладаў слова Божае на мову тутэйшага люду, што цяпер, дзякаваць Богу, годна гучыць у каталіцкіх святынях.

***У Вішневе***

*Сьпее сонца. Шчырэе сьвітаньне.*
*Толькі ў Вішневе творыцца цуд.*
*Тут сьвятар беларускі літаньне*
*Прамаўляе адзін за свой люд.*

*Ужо вырак на нас падпісаны.*
*Ужо зьнікнуць нам, бедным, пара.*
*Але нітачкай зь небам зьвязаны*
*Грэшны люд праз свайго сьвятара.*

*Ні багацьця, ні славы, ні мовы.*
*Да сапраўднай галечы дайшлі.*
*І ня цямяць бязь веры галовы,*
*Што адсюль адраджэньне душы.*

Мне сустракаць такія радкі — двайная асалода, бо мы з Галінаю ў тыя бязбожныя падсавецкія часы, чэрвеньскім днём сярэдзіны 1980-х гадоў, бралі шлюб акурат у тым пракаветным мястэчку. Так што, па часе, натхніўшыся «ўспамінальнай прозай» Дануты Бічэль, можна будзе адважыцца на ўласныя мемуары, як гэта зрабіла паэтка, выдаўшы ўспаміны «Хадзі на мой голас» (2008). Яны — адметная кніга ў знакавай ужо сэрыі «**Гарадзенская** Бібліятэка» (во каб такую бібліятэку заснавала кожная наша вобласць!). *«Захацелася скінуць з сябе салодкую няволю рыфмаў, гэты панцыр чарапахі. Гэтая кніжка — яшчэ не развітанне, не запавет, але падвядзенне вынікаў,* — піша Данута Бічэль ва ўступе да кнігі. — *У маёй жыццёвай прыгодзе паэткі найважнейшымі з'явамі былі людзі, якія мяне любілі, якіх я любіла. Цяпер я зразумела, што пра людзей, якія істотна паўплывалі на мой лёс, у вершах не напішаш. Дасканалай мовай прозы я не валодаю. Таму атрымаліся эсэ».*

Так, усе 34 пазіцыі, падзеленыя на тры раздзелы, — займальныя, праўдзівыя, чалавечай мовай напісаныя прыгадкі пра чалавечыя душы. Пераважна ўжо адышоўшыя: Васіля Быкава, Аляксея Карпюка, Уладзіміра Караткевіча, Ларысу Геніюш, Зоську Верас, Ірыну Крэнь, Анатоля Сыса, айца Уладзіслава Чарняўскага, Янку Брыля, Наталлю Арсенневу, Артура Цяжкага, Мацея-Юзафа Канановіча (аўтара найпапулярнай у Польшчы песьні «Чарна Мадонна»)... У кнізе шчыльнымі шыхтамі паўстаюць вобразы іншых землякоў-гарадзенцаў, мастакоў, разьбяроў, краязнаўцаў, гэткіх рэстаўратараў мінулага роднага краю: Алеся Ліпеня, Казіміра Місюры, Апанаса Цыхуна, Уладзіміра Кіслага, Пятра Янушкевіча, Алеся Сільвановіча, Сяргея Шэмета, Сяргея Грыневіча... Паказальна, што бальшыня з іх упершыню друкавалася на старонках квартальніка «Наша вера».

Успамінаць пра сучаснікаў — адышоўшых і жывых — як размаўляць з найлепшымі сябрамі, якіх табе часта вельмі не хапае ў штодзённым жыцці. Асабліва ў веку, калі час нястрымна коціцца з гары, калі ўжо ўнукі вось-вось гатовыя зрабіць цябе прадзедам ці прабабуляй, калі да стольнага Менску не заўсёды маеш капейчыну даехаць, калі адкрываецца мудрая мужнасць дзякаваць Усявышняму за кожны пражыты дзень, а на сяброўскіх пагасцінах, сустрэчах ці юбілеях казаць па-народнаму: «Дай Бог за год прычакаць».

*Анёл трымае мамін крыж.*
*Дачка трымае мамін боль.*
*Святло і змрок, глыбінь і выш —*
*усё трымае добры Бог!*
(«Белы крыж»)

Цягам жыцця паэтка не ведала зорных хваробаў — такога чалавека не хвалююць чужыя зайздрослівыя меркаванні, але толькі (і выключна) свая душа, пошукі і светлай, і балючай Праўды. Гэта і ёсць духоўнае жыццё. Ва ўсёй нашай краіне не знасці больш творцы, гэтак адданай хрысціянскай тэматыцы. На сваю трэцюю жыццёвую квадру яна падрыхтавала чарговую прынародную споведзь — зборнік «Іду сцяжынаю да Бога», дзе ёсць раздзелы «Малітва Панская», «Да Маці Божай», «Ружанец — канат у нябёсы», «Крыжовы шлях *(разважанні плачкі)*», «Малітвы любові» й падраздзелы з не менш красамоўнымі падзагалоўкамі «*У Вострай Браме*», «*Стакроткі ў вяночак Маці Божай Будслаўскай*», «*Белая навэнна. Святой памяці Марыі Лялько*», «*Паводле святога Францішка*» ды інш.

Традыцыйнае сямейнае каталіцкае выхаванне з ягонымі бясспрэчнымі каштоўнасцямі, свабодамі і абмежаваннямі наклалася на ўнутранае духоўнае жыццё, дзе аб'ядналіся філасофія рэлігіі, філасофія праўды простага селяніна, веданне нацыянальнай спадчыны, культуры і гісторыі. Трагічнай гісторыі.

*...У некага ёсць свая хата?*
*Той сушыць там сваю скуру!*
*Я выбрала літаратуру —*
*у ёй уся мая праўда...*

Упэўнена верыцца, шо з-пад рукі Дануты Янаўны прычакацьме яшчэ не адну кнігу: паэзіі, прозы, эсэ, перакладаў. Творца Данута Бічэль — адна з вядучых. Яна, бясспрэчна, ужо ў гісторыі нашай культуры ў ганаровым шэрагу ад Еўфрасінні Полацкай, Уршулі й Магдалены Радзівілаў, Цёткі (Алаізы Пашкевічанкі) да Ларысы Геніюш-Міклашавічанкі... І таму дачка Яся Бічэля — не самотная. Дай Бог ёй плёну!

*Язэп Янушкевіч*

# Дарагое лісцянятка

З Данутаю Бічэль-Загнетавай мне даводзілася сустракацца досыць рэдка, гады ў рады, ад выпадку да выпадку, але яе паэтычнае натхненне, такое прывабнае, гарманічнае, я адчуваў і адчуваю праз усё яе творчае жыццё. У 2003 годзе я адгукнуўся на яе чарговы творчы зборнік «На белых аблоках сноў». Свой водгук я надрукаваў у «Нашым Слове». Тады ж неўзабаве на гэты мой водгук Данута адгукнулася дарагім для мяне лісцяняткам. У ім яна прынамсі пісала: «Паважаны Уладзімір! Дзякуй за мілую рэцэнзію на маю кніжку. Пашкадавала, што Крыстына ў часопісе — ён называецца „Наша вера“ — не звярнулася да Вас... Цешуся, што Вы мяне зразумелі, бо гэтая кніжачка сапраўды этапная і важная для мяне...»

Пасля гэтага шчыра-даверлівага Дануцінага лісцянятка, датаванага 9.06.2003 г., мінула амаль дзевяць гадоў, а тое зярнятка даверу, якое закінула ў маю душу Данута, жыло ўва мне, грэла мяне, натхняла мяне, а некаторыя радочкі з яго проста запаланілі маю галоўку. Вось хоць бы гэтыя: «Узрост дае сябе паважаць. Я пала ад стомы». Цікава, пра які ўзрост нагадвае Данута? Зазірнуў у пісьменніцкі даведнік 1970 года (выдавецтва «Беларусь»), а там надрукавана, што Данута нарадзілася 1 студзеня 1938 года. Значыцца, набліжаецца Дануцін юбілей! Пачаў у сваіх калегаў распытваць, хто з іх апошнім часам бачыўся з Данутаю і дзе яна цяпер. І многія рукамі разводзілі: хто яе ведае! А хтосьці сказаў мне: «Шукай нашу Дануту за мяжой». Маўляў, такім людзям, як Данута, няма чаго пакуль рабіць у Беларусі. І ўсё ж я наважыўся напісаць свой лісток Дануце, балазе ў мяне захаваўся канверт з яе ранейшым адрасам. І што? Мой лісток прыйшоў да яе! З Дануцінага адказу, датаванага 14 кастрычніка 2012 года, я даведаўся: Данута нарадзілася 3 снежня 1937 года. І тое, што яна з'ехала за мяжу, — чыясь выдумка, лухта. Цытую: «Я невыязная. Я правінцыялка». Што да Дануцінага года народзінаў, то для мяне гэта адкрыццё. Да народжаных у 1937 годзе ў мяне асаблівае пачуццё. Я іх «калекцыяную» ў асобную кагорту. Я таксама з 1937-га. Гэта ж у той год вынішчалі сотні творчых беларусаў, а на змену ім нараджаліся мы, такія, як Данута і я, і шмат хто іншы. Спадзяюся, шаноўныя чытачы зразумеюць, чаму я акцэнтую іх увагу на гэтым годзе. Думаю, ім вядома, што рабілася на Беларусі ў 1937-м: адны нараджаліся, а другіх, таленавітых, творчых, жорстка вынішчалі. Напрыклад, калі мяне віншавалі па тэлефоне з Днём народзінаў, я наўмысна падкрэслена казаў у слухаўку: «1937 год слухае!» І мая інтанацыя перадавала ўсё, што рабілася ў 1937-м. То я, як усе народжаныя ў 1937 годзе, віншую Дануту з яе 75-годдзем! Спадзяюся, пакаленне людзей, народжаных у 1937-м, яшчэ шмат чаго зробіць для сваёй Беларусі і за сябе, і за тых творцаў, якія загінулі ў тым годзе. Мы, народжаныя ў трыццаць сёмым, — дзеці вайны, а гэта яшчэ адна старонка нашага летапісу. Невыпадкова ж народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў гукаў Дануце: «Ідзі на мой голас!» З намі Бог! На Беларусі Бог жыве!

*Уладзімір Содаль*




У Біскупцах, роднай вёсцы пісьменніцы Дануты Бічэль, праходзіла прэзентацыя яе кнігі прозы “Хадзі на мой голас”. 5 жніўня 2008 года. Фота М. Новікава.

Данута Бічэль

# МАЛІТВЫ ЛЮБОВІ

## НА ДОСВІТКУ

Хто закінуў на хмаркі мярэжы?
гэта вецер з заснежанай вежы...
ён бяссонны і грэшны, ён першы...
б'юцца словы, як рыбіны ў вершы...

Нехта ж грае на лютні наверсе...
на святой вышыні паднябесся
пачынаецца ветрава песня...
галубок чысціць перыйка ў снезе...

шчэ бяссонная хмарка заспана...
шчэ не дыхаюць духі аргана...
шчэ прасветлена плакаць зарана...
шчэ нічогачкі не змарнавана...

## МАЛІТВА ЗА ДАРКУ

Божанька, беражы нашу Дарку,
прыгожую нашу пяснярку,
Паўночных Афін валадарку...
Захавальніцу дзвюх на камені кніг
на пляцы ў Залескім парку...
Беражы Беларусь, яе гаспадарку...
Пад яе далікатныя ножкі
падсцілай лагодную хмарку!

## МАЛІТВА ЗА АЛІНУ

Падзяліся, Божа, з Алінай
святой галінкай аліўнай!
Абрасі слязою Аліны
святы садочак аліўны!

***ЗА БАБУЛЯЎ ФРАНЦІШКУ І КАНСТАНЦЫЮ, ЗА ДЗЯДУЛЯЎ АДАМА І ВІНЦУКА***

## ДУША-ГРУШКА

Пасадзіў дзядуля Вінцук
дзецям грушку на агародзе...
Узляцеў галубок на сук,
галубка-бабуля на плоце...

Засень грушкі трымае цень...
Два стагоддзі пад небам цвіце...
Я не страсаю тых груш...
Тулюся душой да іх душ...

## НАВАЛЬНІЦА

Праз Гаўю статак дадому гнала,
калі маланка нас перажагнала...
Пярун забіў таполю нада мной...
Так страшна падаць — назаўжды адной!

Ды Гаўя прытуліла нечакана...
У той вадзіцы, нібы ў цёплай ванне,
схавала ўглыб і падняла ўгару, —
таму і не згубіў мяне пярун...

## ХАТА

Мой Божа, дапамажы мне
хлябочкам Тваім адгавецца...
Жыву, нібы на чужыне,
а нітка ў паркі не рвецца...

Ламаю ў садзе крушыну,
замкнула ў хаце чужыну,
пакуль не выкуру з хаткі,
буду пад кусцікам спаткі...

## ГАСЦІНЕЦ

Чужынцаў дзікіх падковы
гасцінцы крыжам прабілі...
Усклалі вянок цярновы
на скроні святой Крывіі...

Мая святая Крывія!
Твае гасцінцы крывыя
прастуюцца ў даляглядзе,
у Божым, у райскім садзе!

## НЕБА

На золку хочацца згарэць прыгожа —
згарэць ахвярна на святым агні...
Спрадвечнай цемрай не карай нас, Божа!
У ясныя шляхі перамяні!..

Маю душу, як сонную лічынку,
спавітую ў свянцоную зямлю,
як рыбку ў рэчку, укінь на аблачынку
і там пакінь...
Я й так Цябе люблю...

## ПШАНІЧКА

Пшанічкай узыходзіш, Божа мілы, —
збірай прыгожых, маладых сыноў...
Так Беларусь прачнецца, дзе магілы
забытых продкаў, так узыйдзе зноў...

Узыйдзе і прасочыцца жывіцай
з карэнняў вечна маладых камлёў...
Уродзіць буйнай новаю пшаніцай...
З чужыны ўнукі вернуцца дамоў...

## ЗАПАВЕТ

Божанька, дай мне добрую смерць,
каб на Радзіме родны святар
выняў душу, а цела аддаў
цёплай зямліцы — знутры адагрэць...

Як паляціць мая душачка ўвысь —
у самых высокіх нябёсаў на дне —
ясень, мой Яська, добры мой крыж,
так раз'яднаную, злучыць мяне...

## КАПЛІЦА

Капліца чыстага неба...
Спакойна, стомлена, нема
надзеі змёрлага роду
званамі звоняць з-пад споду...

Каб нехта з добрых унукаў
слязьмі балесна пастукаў —
ды разбудзіў гэты спод...
каб зноў прачнуўся народ...

## *POST SCRIPTUM*

Стала крыжам з дубовае плахі...
узяла ўнука Янку на рукі...
ды паслухаю — як пяюць птахі...
Не тапчыце песень, унукі!

Не паставіў ніхто крыж дубовы?
Пахавана, жывымі забыта?...
Унучак-вецер тутэйшыя словы
ціха йграе на дудачках жыта...



Шылайне, 89х116, палатно, алей, 2012 г.

# Колеры шчасця

Напрыканцы кастрычніка — пачатку лістапада ў Галерэі «Мастацтва», што на праспекце Незалежнасці ў Мінску, адбылася выстава твораў гарадзенскай мастачкі Вікторыі Ільіной. Выпускніца Беларускай акадэміі мастацтваў (1988), яна цікава працягвае традыцыю каларызму ў нашым жывапісе. На мой погляд, каларысты — самы тэмпераментны народ у цэху жывапісцаў. Той з майстроў, хто захапляецца пластыкаю фарбавага мазка або танальнымі эфектамі, здаецца стрымана-сур'ёзным побач з няўрымслівымі шукальнікамі яркіх праяваў натуры.

Экспазіцыя ў Галерэі — гэта ў асноўным анталогія краявідаў мастачкі. Прыродныя матывы часам паўтараюцца, але штораз у новай колеравай аранжыроўцы. Сялянскія хаткі і хвоі — банальны эцюдны сюжэт — становяцца своеасаблівым «алібі» для стварэння чароўнай метамарфозы. Вечаровая і начная прастора раптам успыхвае мірыядамі агеньчыкаў — зялёных, жоўтых, ружовых... Мікрачасцінкі хараства рассыпаюцца па ўсім палатне і нібы звіняць вясёлымі галасамі. Гэтак казачна бальшыні людзей прырода бачыцца толькі ў маленстве. Потым усё неяк выроўніваецца. А казку ў паўсядзённым працягваюць бачыць мастацкія таленты...

Асобная тэма ў творчасці Вікторыі Ільіной — гэта горад. У адным з інтэрв'ю мастачка прызнаецца: «Вобразы нараджаюцца неўсвядомлена, на ўзроўні ўспрымання. Формула горада... Гарады розныя. Ёсць, напрыклад, Нью-Ёрк, які геаметрычна падзелены на кварталы. Гродна мае іншыя краявіды: пакручастыя вуліцы, складаны ландшафт. У мяне адзін гарадскі відарыс вырашаны метафарычна — як старая карта, як адбітак гісторыі непасрэдна ў краявідзе. Від зверху, падпісаны назвы вуліц...» Гранёныя формы архітэктуры нібы служаць касцяком для колеравай матэрыі. Лінеарныя канструкцыі ў гарадскіх краявідах заўсёды на другасных ролях. Горад спіць, і маладзік дарыць яму таямнічае святло начы, якое разліваецца паўсюль, саграваючы кожны фрагмент карціны. У наступнай рабоце горад жыве дзённымі рытмамі, і ў гэтай кампазіцыі мастачка робіць сонца дыктатарам краявіду. Наогул, там, дзе сонца дыктуе каларыт, Вікторыя Ільіна не баіцца вялікіх плошчаў адкрытага, лакальнага колеру. А потым настае чарга далікатных перагукаў тонаў і паўтонаў. У нацюрморце «Камора» мастачка нібы растварае сасуды і плады ў жывапіснай прасторы — застаюцца амаль толькі контуры, тонка афарбаваныя цені прадметаў... У гэтым ёсць нейкая прыцягальная недагаворанасць, таямніца.

Творчыя жанчыны заўсёды пярэчаць публіцы і крытыкам. Маўляў, няма такой з'явы, як «жаночы раман», як «жаночая паэзія», «жаночае мастацтва». З імі можна спрачацца. Творы Вікторыі Ільіной могуць быць плёнам толькі жаночай душы. Казачна-светлая сустрэча з імі надоўга застаецца ў памяці.

*Валеры Буйвал*




Андрэй Шпунт

# СТАЛІНГРАДСКАЯ МАДОННА (LICHT. LEBEN. LIEBE.)

«Бог сапраўды з намі», — вось ужо некалькі гадоў, нягледзячы на ўсе цяжкасці і выпрабаванні, гэтае радаснае перакананне, адлітае ў сталі на прапыленых колеру фельдграў мундзірах, раз за разам ахоплівала мільёны новых арганаўтаў — творцаў падзеяў, якіх не ведала сусветная гісторыя.

...Напрыканцы жніўня 1942 года 16-я танкавая дывізія элітнай 6-й арміі Вермахта, той, пра якую было сказана, што можа штурмаваць нават неба, першай выйшла да Волгі. У афіцэрскія бінoклі бачыліся абрысы Сталінграда — скрайняга рубяжа «Барбаросы».

Да перамогі заставалася адлегласць гарматнага выстралу, але пераадолець яе станавілася цяжэй з кожным крокам. Гайнц Шротар, ваенны карэспандэнт 6-й арміі, занатаваў: «...*Супрацiў паўставаў літаральна на голым месцы. На ацалелых фабрыках рабілася зборка апошніх танкаў, збройныя склады пусцелі, узброеныя былі ўсе, хто здольны быў трымаць зброю ў руках...*».

Люфтвафэ ператварылі боль-

---

**Андрэй ШПУНТ** — аспірант Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі (тэма дысертацыі — «Гарадская геральдыка Рэспублікі Беларусь»). Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989—1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996—1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998—2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.



Курт Ройбер.
Аўтапартрэт.

шую частку горада ў груду развалінаў, але гэта толькі паспрыяла абаронцам.

У верасні і кастрычніку 6-я армія, сцякаючы крывёю ў вулічных баях, прабівалася праз руіны ў сярэднім па 100 м у дзень. Як заўважыў адзін лейтэнант пехацінец, працягласць цяпер вымяралася не метрамі, а трупамі. Калі разведка папярэдзіла аб пагрозе на левым фланзе, пад кантролем наступаючых знаходзілася ўжо 90% тэрыторыі Сталінграда, іх вычарпаныя дывізіі напружвалі апошнія сілы. 19 лістапада Чырвоная Армія абрынулася на поўначы. Тыя, хто трапіў пад гэты каток, былі цалкам знішчаныя. Некаторыя падраздзяленні ўжо не адказвалі на радыёзапыты штаба 6-й арміі. Крыху пазней тое ж паўтарылася на поўдні. П'янае паветра бліцкрыгу цяпер ударыла ў галовы савецкіх танкістаў – абыходзілі ўмацаваныя вузлы і ішлі, ішлі наперад, ахопліваючы праціўніка, і 23 лістапада самкнулі свае клешчы вакол 22-х дывізій Вермахта і хаўрусных яму румынаў і італьянцаў (364 тыс.). Прапановы здзейсніць прарыў адхіляліся Вярхоўным камандаваннем, ды і паліва ў танкаў заставалася на 30 км. Сталінград ператварыўся ў «крэпасць» у катле, знешні край якога зрухваўся усё далей на захад.

Перад самым наступам Чырвонай Арміі выпаў першы снег, тэмпература паветра ўпала да 2°С і з кожным днём паніжалася. З боку казахскіх стэпаў дзьмуў ледзяны, пранізлівы вецер.

Адбылося гэта раптоўна, без усялякага плаўнага пераходу... Зімовае абмундзіраванне 6-й арміі знаходзілася на складах за 200 км. Забеспячэнне па паветры пакрывала толькі малую частку патрэбаў у боепрыпасах і харчаванні. У снежні пайкі былі скарочаныя да 200 грамаў каніны і 200 грамаў хлеба для баявых частак і для дапаможных — напалову менш.

На нямецкіх армейскіх мапах сталінградскі кацёл пазначаўся невялікім блакітным кружочкам. У ім сканцэнтраваліся грандыёзныя па сваіх маштабах і накале эмоцыі, спрэчкі, успышкі аптымізму і глыбокага адчаю. Што рабіць? Быць вернымі прысязе, змагацца і паміраць ці, насуперак загадам зверху, прарывацца і таксама паміраць, бо сілаў не тое што змагацца, але і жыць ужо не заставалася, ці скласці зброю і, зноў жа, паміраць у палоне? Кожная хвіліна набліжала да смерці, і гэта, як ніхто ў свеце, адчувалі тады ў 6-й арміі, а яшчэ тыя, што стаялі перад расстрэльнымі ровамі айнзацгрупаў ці ў сталінскіх лагерах. У віры тых драматычных падзеяў вера ў «Таго, Хто з імі», пачала перажываць істотныя трансфармацыі. Магутны і Бясконцы Бог, з імем Якога яны дагэтуль ішлі і перамагалі, цяпер, на парозе канца, прадстаў у вобразе Дзіцяці на руках Маці. Ніхто ў свеце сярод ваюючых армій не чакаў і не рыхтаваўся так рупліва да Калядаў, як у 6-й арміі. Падрыхтоўка пачалася яшчэ на пачатку Адвэнту, гэта значыць задоўга да адчайнай спробы танкавых дывізій Гота прарваць звонку кальцо акружэння.

...«*Уначы перад Калядамі,* — натаваў Шротар, — *тры жаўнеры, рызыкуючы жыццём, прынеслі з невялікага лясочка пад Гумракам сасну, пасля чаго выразалі з фольгі зорачкі, а з паперы для светамаскіроўкі — арнаменты. На Каляды дрэва запалымнела агнём на вышыні 137 — бачна было здалёк. Толькі праз гадзіну дрэва было знішчанае мінамётным залпам...*»

...У тыя дні галоўны ўрач медыцынскага бункера 16-й танкавай дывізіі капітан Курт Ройбер ні з кім не мог гаварыць (за апошнія тыдні ўсе сталі больш маўклівыя), ён толькі хапаўся за

галаву і моўчкі дасылаў пытанні адчаю ў пустэчу. І тады Бог паслаў яму выратавальную думку супрацьпаставіць цемры, смерці і разбурэнню святло, жыццё і любоў. *«Я доўга думаў, што мне намаляваць,* — пісаў Ройбер у адным з лістоў, — *і спыніўся на Мадонне, ці Маці з Дзіцём.*

*Мой гліняны грот ператварыўся ў атэлье мастака. У малюсенькім памяшканні не хапала месца для таго, каб адысці ад карціны і паглядзець на яе здалёк; для гэтага мне даводзілася ставіць на маё ложа з дошак табурэтку, ускарабквацца на яе і глядзець на карціну зверху. Шматлікія падзенні, удары, знікненні алоўкаў у гліняных трэшчынах — усе гэтыя непрыемныя моманты суправаджалі стварэнне карціны. Для карціны вялікага фармату не было падыходзячай падстаўкі, акрамя самастойна збітага і коса стаяўшага стала, вакол якога рухацца было даволі цяжка: даводзілася праціскацца між ім і сценамі, акрамя таго, не хапала матэрыялу для малявання, у якасці паперы служыла руская геаграфічная мапа. Але хачу сказаць, што праца над Мадоннай прыносіла мне вялікае задавальненне, і я цалкам акунуўся ў яе.*

*Карціна выглядала наступным чынам: Маці і Дзіця схілілі галовы адно да аднаго, абедзве постаці пакрывала вялікая хустка. Пяшчотныя рукі Маці і абароненасць Дзіця. Я ўспомніў словы Яна: «Святло, жыццё, любоў». Што тут можна яшчэ казаць? Праз гэтую карціну я хацеў давесці сваім таварышам, што гэтыя тры паняцці сімвалізавалі абароненасць Маці і Дзіцяці ў іх вечнай блізкасці адно да аднаго.* (Вакол постацяў надпісы: «Licht. Leben. Liebe. 1942. Weihnachten im Kessel. Festung Stalingrad» — «Святло. Жыццё. Любоў. 1942. Каляды ў катле. Крэпасць Сталінград»).

*Па старым звычаі павінны былі адчыніцца калядныя дзверы, яны адчыніліся, але гэта былі дзверы бункера, зробленыя з драніцы. У іх увайшлі мае таварышы і ўсталі як укопаныя: іх твары выяўлялі поўнае глыбокай пашаны захапленне і хваляванне; яны моўчкі стаялі перад карцінай, прыхіленай да глінянай сценкі, пад карцінай у сценку быў убіты драўляны калок, і на ім замацавана гарэўшая свяча. На працягу ўсіх святаў усе былі пад уплывам карціны, людзі чыталі словы: «Святло, жыццё, любоў» і пры гэтым глыбока задумваліся.*

*Напрыканцы дня я яшчэ знаходзіўся ў атачэнні маіх хворых і санітараў, працягваючы святкаваць Каляды. Камандзір ахвяраваў для хворых сваю апошнюю бутэльку шампанскага. Мы напоўнілі ім жаўнерскія кубкі, падснялі іх і сталі піць за тое, што мы любілі, але дапіць да канца не ўдалося — з недапітымі кубкамі мы кінуліся на зямлю. Звонку рваліся бомбы. Я ўзяў сваю сумку з медыкаментамі і пабег туды, дзе рваліся снарады, да мёртвых і параненых.*

*Мой цудоўны святочны бункер, асвечаны калядным святлом свечкі, ператварыўся ў дывізійны медыцынскі пункт. Я ўжо не мог дапамагчы паміраўшаму жаўнеру — раздрабленне чэрапа. Цяжкая і сумная праца ў бункеры працягвалася. Настала ноч, але ўсё ж гэта была калядная ноч».*

Бункер Ройбера стаў месцам паломніцтва. Кожны, хто бачыў карціну, заміраў у захапленіі. Па няголеных зямлістых тварах у многіх пачыналі цячы слёзы.

На другі дзень Калядаў рухнула апошняя надзея. З гэтага часу хлебны паёк важыў 50 грамаў.

Праз тыдзень бункер Ройбера разнесла прамым пападаннем. Самога яго там ужо не было — трапіў у шпіталь.

2 лютага 1943 года ў 12.35 група армій «Дон» атрымала толькі адну радыёграму: «Вышыня аблокаў — пяць тысяч метраў, бачнасць — дванаццаць кіламетраў, на ясным небе — асобныя невялікія аблокі, тэмпература — мінус 31°С, над Сталінградам туман і чырвоная смуга. Метэастанцыя перадала апошняе паведамленне. Прывітанне Радзіме».

У палон трапіла 91 тыс. чалавек, з іх праз дзесяць гадоў убачылі Радзіму 5 тысяч.

Карціна Ройбера была вывезена з катла 13 студзеня апошнім самалётам у руках яго сябра — цяжка параненага палкоўніка, камандзіра аднаго з батальёнаў 16-й танкавай дывізіі.

З 1983 года «Сталінградская Мадонна» знаходзіцца ў Берліне, у царкве Кайзера Вільгельма. У 1990 годзе яна была асвечаная іерархамі трох цэркваў — каталіцкай, праваслаўнай і англіканскай. Яе копія захоўваецца ў касцёле св. Мікалая ў Валгаградзе, вядомая як Найсвяцейшая Панна Марыя Прымірэння.

Вобраз «Сталінградскай Мадонны» з'яўляецца эмблемай асобнага санітарнага батальёна Бундэсвера.

Курт Ройбер памёр 20 студзеня 1944 года ў лагеры ваеннапалонных пад Елабугай.

Анатоль Трафімчык

# Беларуская калядная драматургія для дзяцей

Перадгісторыя беларускай дзіцячай п'есы складае некалькі стагоддзяў. Карані гэтай з'явы — у фальклорным багацці народа і рэлігійным жыцці. Але калі цяпер драматургія належыць двум відам мастацтва — літаратуры і тэатру — і можа выступаць самастойна як адзін з іх, то раней яна не была аўтаномнай і практычна не выдзялялася з такіх сінкрэтычных з'яваў, як абрады, рытуалы, гульні. Як заўважыў яшчэ ў XIX ст. расійскі даследчык П. Марозаў, «галоўная крыніца драматычнай паэзіі ва ўсіх народаў знаходзіцца па-за галіной літаратуры, іменна — у рэлігійным абрадзе, ад якога драма адасабляецца толькі вельмі павольна, усё больш і больш убіраючы ў сябе чужыя яму элементы» [11, с. 6]. З'яўленне драматычнага элементу трэба шукаць «у культавым абрадзе і неадлучных ад яго песнях, а таксама ў гульнях, у каторых тэатральны інстынкт, які мае кожны чалавек, знаходзіць сваё выражэнне ў дзеі» [1, с. 2]. Пад уплывам хрысціянства язычніцкія абрады страцілі сваё культавае прызначэнне. Эвалюцыя культуры абумовіла той факт, што матэрыял, які пазней стаў падмуркам стварэння драматургіі для дзяцей, першапачаткова ўвогуле такім не разглядаўся, маючы канкрэтную парадыгму «дарослага» функцыянальнага прызначэння. Са стратай гэтай ролі багацце этнічнай культуры паступова выкрышталізавала формы мастацтва, скіраваныя і на дзяцей.

Рэлігійна-канфесійныя працэсы XV–XVI стст. спрычыніліся да развіцця тэатральнага мастацтва на Беларусі праз стварэнне тэатра лялек — батлейкі, што трохі пазней стала заняткам шкаляроў-семінарыстаў, студэнтаў духоўных школаў, ад якіх у канцы XVII–пачатку XVIII ст. трапіла да местачковых рамеснікаў і сялянаў. Гэта выклікала пашырэнне рэлігійнага рэпертуару і тэндэнцыю да секулярызацыі тэмаў [7, с. 98–99], пачалі пераважаць сацыяльныя і бытавыя матывы: антаганізм мужыка і пана, канфлікты паміж селянінам і доктарам ці настаўнікам, непаразуменні мужа і жонкі [1, с. 64]. Мастацкія характары і сюжэтныя калізіі ў тых лялечных пастаноўках характарызаваліся схільнасцю да перадачы тыповых з'яваў паўсядзённага жыцця (перадусім сялянскіх масаў). Батлеечная драматургія была разнастайнай, асабліва плённа развівалася камедыя [13, с. 12]. Батлеечныя пастаноўкі не мелі строгага прызначэння «дзіцячага тэатра» і разлічваліся на ўсе ўзроставыя катэгорыі.

Батлеечныя пастаноўкі «дажылі» да пачатку XX стагоддзя. Даўгавечнасць і распаўсюджанасць батлейкі Ф. Аляхновіч слушна вытлумачвае тэматычнай блізкасцю да народнага жыцця, простасцю яе рэквізітаў і дастатковасцю толькі двух выканаўцаў роляў [1, с. 62].

Тэатральныя дзействы, пачынаючы ад сінкрэтычных рэлігійных абрадаў-гульняў і да першых пастановак батлеек, школьнага і прыгоннага тэатраў, увасаблялі тыповыя для той рэчаіснасці характары, узятыя з жыцця, а таму і зразумелыя. Іх сэнсавая нагрузка і скіраванасць дзеянняў развіваліся ў двух кірунках: 1) гумарыстычна-забаўляльным, 2) сацыяльна-сатырычным. Такім чынам ажыццяўляўся і эстэтычны аспект (першасны, паводле нобелеўскай лекцыі І. Бродскага, і ў жыцці, і ў мастацтве [5, с.454]), і этычны (у парадыгме маралі пэўнай сацыяльнай катэгорыі на пэўным часавым адрэзку, бо не сакрэт, што аксіялогія сялянаў ды паноў як класаў антаганістычных істотна розніцца).

* * *

З пачаткам актыўнай дзейнасці В. Дуніна-Марцінкевіча беларуская п'еса стала заваёўвае сабе месца як прадукт літаратурнай творчасці, што дае штуршок развіццю нацыянальнай літаратуры наогул, а Ф. Багушэвіч ужо адзначаў неабходнасць стварэння кніжак для дзяцей на роднай мове [3, с. 7]. Неўзабаве публікуюцца «Снатворны мак» К. Лейкі (1912) і «Смерць пастушка» З. Бядулі (1914).

Моцная хрысціянская культура і папярэднія традыцыі беларускага народа абумовілі далейшае развіццё рэлігійнай тэматыкі ў драматургіі. Тэксты батлеечных пастановак фіксуюцца ў друку і становяцца фактамі літаратурнага працэсу. У другой палове XIX – пачатку

**Анатоль ТРАФІМЧЫК** — паэт, літаратуразнаўца, крытык. Нарадзіўся ў 1976 г. у вёсцы Вялікія Круговічы на Ганцавіччыне. Аўтар кніг «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты, цноты», «Лірыка Лірыка», «Вобраз Тадэвуша Касцюшкі ў беларускім мастацкім слове». Жыве ў Мінску.

XX ст. іх занатоўвалі розныя этнографы (П. Шэйн, Е. Раманаў, М. Федароўскі і інш.) па ўсёй тэрыторыі Беларусі — ад Ваўкавыска да Смаленшчыны, ад Рэчыцкага Палесся да Віцебшчыны [гл.: 2].

Неўзабаве батлеечны фармат апрабіравала і пяро прафесійнага творцы. Яшчэ ў так званы дакастрычніцкі перыяд маленькай кніжкай была ананімна апублікавана «сцэнічная штука ў пяці з'явах» лацінскай графікай [14]. Невядомы аўтар не капіруе фальклорны сюжэт, аднак зразумела, што ў цэнтры дзейства — прыход Езуса Хрыста. У першай з'яве яго чакаюць рабіны. У другой — пастушкі. Апошнім і прыносіць анёл звестку пра нараджэнне Месіі, і яны ідуць пакланіцца Яму. Трэцяя з'ява адкрывае хціваага караля Гэрада (Ірада), чыё панаванне — «гэта адна доўгая і вельмі глыбокая рэчка крыві чалавечай, нявіннай» (словы начальніка слугаў Апола) [14, с. 12]. У чацвёртай з'яве да Гэрада прыходзяць тры каралі, каб «пакланіцца Жыдоўскаму Каралю» [14, с. 16]. Спачатку Гэрад усцеўшыўся, бо думаў, што пакланіцца прыйшлі яму, аднак, даведаўшыся праўду, аддае загад знішчыць усіх немаўлятаў у Бэтлееме. У бесчалавечную жорсткасць Гэрада прарываюцца згрызоты яго сумлення: «Ой карона, карона! Менш на табе блеску, як шыпулікаў! Хто раз цябе пачуў на галаве, хутчэй душу згубіць, як цябе здыме.. Ох як грызе сумленне, гэна атрута, гэты агонь пякельны...» [14, с. 20]. Пятая з'ява — сцэна радасці — адбываецца ў хляўку, куды да Нованароджанага прыйшлі пастушкі, а затым і тры каралі з дарункамі. Уся п'еса перасыпана калляднымі песнямі, адной з якіх і завяршаецца. Відавочна, што твор мае не столькі мастацкае значэнне, колькі рэлігійна-асветнае.

Варта адзначыць, бадай, апошні ў XX ст. праяўлены ў рэчышчы традыцыі «рэцэдыў» батлейкавага мастацтва: у Заходняй Беларусі Вінцук Адважны паводле біблейскіх матываў стварыў «сцэнічны абразок у адным акце» «Betlejka» (Вільня, 1932), мэтай якога з'яўляецца рэлігійнае выхаванне дзетак у рэчышчы хрысціянскіх каштоўнасцяў. Вобразы «Батлейкі», захоўваючы сваю біблейскасць, тым не менш надзелены рысамі беларускай народнай культуры, што робіць іх больш зразумелымі і блізкімі чытачу. Канфлікту ў дзеяннях няма, ён заключаны ў аповедзе старога Давіда пра змаганне Змея і Божага Чалавека, Месіі, які павінен прыйсці. Неўзабаве анёлы прыносяць вестку пра нараджэнне Хрыста. Не абышлося без цуда: нямы пастушок, дакрануўшыся да Анёла, загаварыў. Відавочна, аўтар не ставіў на мэце перайначыць п'есу на класічны драматургічны манер — ён толькі крыху аздобіў яе элементамі з тыповага паўсядзённага жыцця заходнебеларускага сялянства дзеля адукацыйнай даступнасці п'есы і — такім чынам — умацавання хрысціянскай веры.

Яшчэ ў першай палове XX ст. развіццё рэлігійнай тэматыкі ў беларускай дзіцячай драматургіі выйшла за батлеечны жанр. «Калядны абразок» Маладога Дзядка (псеўданім С. Новіка-Пеюна) пад назвай «Ёлка Дзеда Мароза» (1927) характарызуецца адсутнасцю дынамікі дзеянняў, выцесненых аповедамі пра сацыяльную няроўнасць і верай у лепшую долю. Характары дзяцей тут залішне сентыментальныя і летуценныя, і калі б не іх добрыя, цнатлівыя душы і чыстыя памкненні, то навагодняя ўзнагарода ад Дзеда Мароза засталася б зусім непадмацаванай аргументамі. З іншага боку, В. Жыбуль у асобе Дзеда Мароза бачыць *Deus ex machina*: ён папраўляе складанае сацыяльнае становішча сялянскіх дзетак, даючы ім прыгожую ёлку і грошы, што вызваляць бедныя сем'і ад вечных пазыкаў у пана [9, с. 126].

Нягледзячы на пэўныя здабыткі, развіццё рэлігійных п'есаў як мастацкай літаратуры для дзяцей у першай палове XX ст. было спыненае: Беларусь на доўгія дзясяткі гадоў апанавала бальшавіцкая дактрына, ваяўнічы атэізм якой не дапускаў падобнага мастацтва.

* * *

Адраджэнне рэлігійнай драматургіі для дзяцей адбываецца ў наш час. Перадусім адзначым, што вяртаецца і фармат традыцыйнай батлейкі.

У пачатку 1990-х гг. І. Сідарук стварыў дзве п'есы паводле біблейскіх матываў. У яго «калядных настроях» «Меч анёла» (2004, паст. у 1992) зло ўвасоблена цэлым шэрагам разнастайных персанажаў, кожны з якіх функцыянальна незаменны ў мастацкай палітры вобразаў. Аўтар дае мастацкую інтэрпрэтацыю падзеям, якія ўскладняюцца імкненнем цара Ірада стаць бессмяротным, у чым яму дапамагае Чарнакніжнік. На гэтых двух прыкладах паказана, што ў свеце Зла існуе бязлітасная канкурэнцыя: Чарнакніжнік здраджвае пры першым зручным выпадку свайму гаспадару і займае яго месца. Добрым жа людзям абараніцца ад Зла дапамагае вера ў Бога: за іх заступаецца Анёл з вогненным мячом.

Наступную апрацоўку І. Сідаруком біблейскага сюжэту — «калядную гісторыю» «Збавіцель» (1998) — крытыка палічыла не зусім удалай: няма паўнавартаснай сістэмы вобразаў і развіцця канфлікту; твор мае хутчэй асветніцкі характар [8, с. 77].

Яшчэ адна п'еска — «Свята Раство радасць прынясло» (2004) І. Сідарука — з'яўляецца хутчэй сцэнарыем каляднай

імпрэзы, але ў драматургічным тэксце створаны паўнавартасныя вобразы Гаспадара і Гаспадыні, Чорта, Казы, а таксама Дзеда Мароза і Снягуркі. У дзейства ўцягваецца дзіцячая аўдыторыя, якая становіцца яшчэ адным галоўным героем п'ескі.

У аснову п'есы С. Сокалава-Воюша «Свецяць, свецяць зорачкі» (1993) пакладзена адзначэнне такога любімага ў народзе свята, як Каляды. Аўтар, акрамя традыцыйных удзельнікаў абраду калядавання, уводзіць у дзейства яшчэ некалькі фальклорных персанажаў (Немец-іншаземец, Ох, Ведзьмы-Пачвары), што ўзмацняе каларыт твора. Падбор характараў дазваляе драматургу змадэляваць востры канфлікт і ўдала яго вырашыць, прычым рэцыпіент не толькі назірае за супрацьстаяннем злых і добрых сілаў, але і за разгортваннем шматвяковага каляднага рытуалу.

П'еса С. Кавалёва «Братка Асёл» (1997) створана паводле біблейскіх матываў (другая назва — «Шлях да Батлеема»), аднак аўтар дае асабістую арыгінальную інтэрпрэтацыю падзеям, ствараючы сваю сістэму вобразаў з аўтэнтычнымі характарамі. Пратаганістам ён робіць звычайнага Асла, якому было наканавана выратаваць самога Божага Сына. Асёл прагне шчаслівейшай долі і знаходзіць яе ў любові да Бога і людзей, для якіх ён становіцца выратавальнікам. Як заўважае даследчык сучаснай драматургіі Ф. Драбеня, «у агульнай свядомасці замацаваўся вобраз асла як упартай і недалёкай істоты. Са слоў Гаспадара, Асёл паўстае менавіта такім, але якраз да яго з'яўляецца Зорка: менавіта яму выпадае знайсці Бога і нават аказаць яму дапамогу. Асла вядзе яго вера, магчыма, ён трохі наіўны, але мэтанакіраваны, і ўласцівая яму ўпартасць тут выглядае не як загана, а як вартасць» [8, с. 83]. Асёл праходзіць свой шлях да Бога ў прамым і пераносным сэнсе. Удаліся аўтару і характары іншых, нават эпізадычных асобаў. Напрыклад, сябрук Асла Парсюк не бачыць свету далей свайго карыта, і ўрэшце ад яго Гаспадар вырашае пазбавіцца. Апошняга ж найбольш цікавіць толькі асабістая выгада, дзеля якой ён не грэбуе падманам. Крот таксама шукае Бога, але ў адваротным кірунку – рые глыбей зямлю, што прыводзіць яго да згубы. Як бачна, аўтар не абмяжоўваўся колам біблейскіх вобразаў, увёўшы ў п'есу аўтэнтычных персанажаў, характары якіх адыгралі канцэптуальную ролю. «Праз жывыя сутыкненні дзеючых асоб даводзіцца, што не хлебам адзіным жывы чалавек (сцэна з Парсюком), што не фізічная сіла, а духоўная моц аказваецца сапраўдным выратаваннем для чалавека (сцэна са Львом). Актуалізацыя хрысціянскіх пастулатаў адбываецца без ілжывага асучаснівання» [12, с. 137].

Такім чынам, адроджаная праз творчасць І. Сідарука, С. Сокалава-Воюша і С. Кавалёва калядная драматургія засведчыла, што перарыванне працэсу яе развіцця не стала пагібельным. Больш за тое, сучасныя аўтары надалі новае дыханне п'есам паводле біблейскіх матываў, у тым ліку батлейцы, і выйшлі на новыя мастацкія вышыні.

* * *

Асобна з шэрагу сучасных драматургаў хацелася б выдзеліць С. Вітушку (які ўжо, на жаль, пакінуў гэты свет). Вынікі яго драматургічнай дзейнасці спароджаныя і багатым пластом народнай культуры, і тэндэнцыямі, зададзенымі сучаснымі аўтарамі.

С. Вітушка стварыў цыкл з трох батлеечных п'есаў «Казкі — жывыя батлейкі» (2011). Яго творы («Анёл і Чорт», «Калядны канцэрт», «Скарб на Святога Яна») характарызуюцца аўтарскай разняволенасцю ў разгортванні калізій пры наяўнасці некаторых знаёмых па фальклорнай батлейцы персанажаў.

Першая з названых прадстаўляе спрэчку Анёла і Чорта аб праўдзівасці Божага Нараджэння. У якасці аргументаў яны клянуцца тымі часткамі сваёй істоты, якія іх найперш характарызуюць: Анёл — крыламі і німбам, Чорт — рагамі і хвастом. Персанажы п'есы маюць класічныя характары: Анёл паступае сумленна, а Чорт спрабуе хітрыць і «дастае яшчэ адзін прыхаваны хвост».

**Анёл.** Які хвост?! Ты ўжо кляўся хвастом. Гэта падман. Гэта супраць правілаў!

**Чорт.** А мы, чарты, плюём на вашы правільныя правілы! У гэтым наша сіла, у гэтым наша перамога! [6, с. 37]

Рассудзіць спрэчку прапануецца аўдыторыі, якая, паводле аўтарскай ідэі, павінна стаць на бок Анёла і выгнаць Чорта. Тым самым даказваецца, што перамога дасягаецца не метадамі Чорта, а добрасумленнасцю.

Наступная п'еса — «Калядны канцэрт» — створана паводле вядомых матываў нараджэння Езуса Хрыста. Канфлікт заключаецца ў нежаданні Чорта прыняць з'яўленне Збавіцеля. Цар Ірад таксама баіцца пасягальніцтва на сваю ўладу. Чорт ідзе на службу да Ірада, каб яго рукамі зрабіць сваю справу. Ірад кліча Смерць, а яна прыходзіць па яго ж самога. Усё дзеянне перасыпана ўрыўкамі з рэлігійных кніг і беларускіх калядных (і не толькі) песняў.

Як і дзейства, так і вобразы створаны з аўтарскай фантазіяй. Напрыклад, цар Ірад гаворыць на пазнавальнай характэрнай трасянцы, і гэтым самым прадказваецца яго канец:

**Ірад.** ...Слухай, смертухнаматухна, а давай па-харошаму.

Ты мяне цяпер не чапай, пашкадуй.

**Чэрап.** А ты сам каго шкадаваў? Ці ў цябе не прасілі літасці? Дык вось – і табе не будзе [6, с.46].

Прычым Ірада з’ядаюць яго ж паплечнікі — Ваяка і Чорт.

С. Вітушка стварае ў п’есе такую сітуацыю, што сутыкненне антаганістычных сілаў, драматычнага сутыкнення характараў па вялікім рахунку не адбываецца. Аднак з іншага боку, калі браць пад увагу тэзу А. Лойкі, што «характар праяўляе сябе ў зносінах са знешнім светам, у адносінах да іншых людзей, іншых характараў» [10, с. 122], у п’есе С. Вітушкі мы назіраем рэалізацыю гэтай думкі: героі паводзяць сябе дынамічна, што надае п’есе яшчэ большай святочнасці каляднай урачыстасці.

Па фармаце гэтых дзвюх казак відаць, што яны, нягледзячы на арыгінальнасць (магчыма, нават трохі нечаканую) з’яўляюцца хутчэй батлеечным дыптыхам. Прычым да яго можна натуральна дапасаваць іншыя п’есы на калядную тэму, тым больш што для батлейкі такі падыход сапраўды традыцыйны.

* * *

Калядная драматургія на Беларусі мае доўгую і няпростую гісторыю. Літаратурная рэлігійная п’еса паўстае ў выглядзе твораў для батлейкі, што і нядзіўна. Такі тэатр быў любімы ў народзе і памятаўся яшчэ доўгі час пасля свайго знікнення ў пачатку ХХ стагоддзя. Аднак у сілу сацыяльна-палітычных прычынаў біблейская тэматыка на доўгі час знікае з мастацкай літаратуры і аднаўляецца толькі ў апошняе дзесяцігоддзе ХХ ст., калі прадукаванне ў беларускай культуры навагодніх п’есаў значна пашырылася. Прычым увага ўдзяляецца і святу Новага году, і Калядам. У дадзеным артыкуле рэлігійныя п’есы такіх вядомых драматургаў, як І. Сідарук і С. Кавалёў, былі вернутыя з нябыту. У асноўным п’есы названых аўтараў зарыентаваныя на звычайны лялечны тэатр, але яны пасуюць і батлейцы. С. Вітушка, у прыватнасці, менавіта так і абазначыў жанр сваіх драматургічных твораў.

Здавалася б, п’есы па біблейскіх матывах павінны быць падобнымі, аднак, нягледзячы на выкарыстанне ў многіх з іх намінальна аднолькавых персанажаў з тоеснымі рысамі характараў, гэта не баналізуе і не таўталагізуе творы.

Неабходна адзначыць элементы асучаснівання некаторых п’есаў, увядзенне ў іх тых ці іншых момантаў знаёмай дзецям культуры. Дыдактычныя аспекты, абавязковасць якіх у дзіцячых кнігах не выклікае сумнення, выкарыстоўваецца ў адэкватнай форме: не галаслоўем, а практыкай дэманструецца, што толькі моцнае сяброўства, шчырасць і дабрыня, а таксама вера ў Бога (да якой, адзначым, чытач не змушаецца, але памастацку заахвочваецца) з’яўляюцца асноваю дасягення мэтаў, нават самых нерэальных.

Большасць твораў можа быць прымеркавана да адпаведных мерапрыемстваў, што не пазбаўляе іх літаратурнай мастацкасці. Калядныя пастаноўкі пакліканы разварушыць дзяцей, таму і п’есы, прынагоджаныя да зімовых святаў, часта выкарыстоўваюць прыём уцягвання ў драматургічнае дзейства малога гледача з дапамогаю, напрыклад, якіх-небудзь пытанняў да залы. Такі метад дзейсны для каталізацыі ўспрымання, бо «дзеці паводзяць сябе так, быццам бы мастацкі тэкст не замкнёны ў сабе і ў яго можна ўмешвацца шляхам зваротнай сувязі» [4, с. 481].

Сёння можна казаць пра распрацаванасць каляднай драматургіі ў беларускай літаратуры, аднак колькасць аўтараў на гэтай ніве і іх твораў дастатковай назваць нельга. Затое прадэманстраваны сучаснымі драматургамі мастацкі метад стварэння калядных п’есаў з’яўляецца добрым прыкладам для пераймання (і не толькі прафесійнымі літаратарамі, але ўсімі, хто зацікаўлены ў падобных чытанках і пастаноўках).

1. Аляхновіч, Ф. Беларускі тэатр / Ф. Аляхновіч. – Вільня : Выд. газ. «Голас беларуса», 1924. – 114 с.
2. Барышаў, Г.І. Батлейка / Г.І. Барышаў. – Мінск : Бел. ун-т культуры, 2000. – 270 с.
3. Беларуская дзіцячая літаратура : хрэстаматыя крытычных матэрыялаў: вучэбны дапаможнік для філалагічных факультэтаў і факультэтаў педагогікі і методыкі пачатковага навучання вышэйшых навучальных устаноў / складальнікі : В.А. Лашкевіч, Р.К. Літвінаў. – Мінск : Вышэйшая школа, 1981. – 271, [1] с.
4. Борев, Ю.Б. Эстетика : в 2 т. / Ю.Б. Борев. – 5-е изд. допол. – Смоленск : Русич, 1997. – Т. 1. – 576 с.
5. Бродский, И.А. Нобелевская лекция / И.А. Бродский // Форма времени: стихотворения, эссе, пьесы: в 2 т. – Минск : Эридан, 1992. – Т. 2 : Стихотворения, эссе, пьесы / сост. В.И. Уфлянд ; худ. С.В. Баленок. – 480 с.
6. Вітушка, С. Дзінь-дзілінь : пара гуляць у казкі! / С. Вітушка; ілюстрацыі М. Анемпадыстава. – Мінск : Зміцер Колас, 2011. – 114 с.
7. Гісторыя беларускага тэатра : у 3 т. / М. Каладзінскі [і інш.]; рэдкал. : У.І. Няфёд (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Навука і тэхніка, 1983–1987. – Т. 1 : Беларускі тэатр ад вытокаў да Кастрычніка 1917 г. – 1983. – 496 с.
8. Драбеня, Ф.В. Беларуская драматургія канца ХХ – пачатку ХХІ стагоддзя : жанрава-стылёвыя тэндэнцыі : дыс. канд. філал. навук : 10.01.01. / Ф.В. Драбеня. – Мінск, 2007. – С. 76-106.
9. Жыбуль, В. Сяргей Новік-Пяюн і дзіцячая драматургія 1920 – 1930-х гг. / В. Жыбуль // Роднае слова. – 2006. – 8. – С. 125-127.
10. Лойка, А. Дзівосы прозы / А. Лойка // Полымя. – 2008. – 1. – С. 114-142.
11. Народны тэатр / НАН Беларусі, Ін-т мастацтвазнаўства і фальклору ; уклад. і камент. М.А. Каладзінскага ; уступ. арт. А.С. Фядосіка ; рэд. выд. А. С. Фядосік, А. В. Сабалеўскі. – 2-е выд., выпр. і дапрац. – Мінск : Бел. навука, 2004. – 422 с.
12. Савіцкая, А.А. Беларускі тэатр юнага гледача : вопыт эстэтычнага выхавання / А.А. Савіцкая. – Мінск : Бел. навука, 2008. – 195 с.
13. Смольскі, Р.Б. Тэатр у прасторы часу : мастацтвазнаўчыя артыкулы, рэц., творчыя партрэты / Р.Б. Смольскі. – Мінск : Маст. літ., 1998. – 255 с.
14. Betlejka. – Wilnia : ZNICZ, 1915. – 23 s.

Ізяслаў Марозаў

# Пра Божую праграму развіцця сусвету

У філасофіі і багаслоўі ёсць паняцце «Логас». Яно сустракаецца ўжо ў старажытнагрэцкіх мысляроў. Так, філосаф Геракліт (544–483 да Н. Х.) лічыў, што ў развіцці свету ёсць утоены сэнс, разумная аснова, у адпаведнасці з якой усё і адбываецца. Ён назваў гэту аснову словам «Логас», якое ў грэцкай мове мае шэраг значэнняў: аснова, думка, загад, закон свету.

Распрацоўваў вучэнне пра Логас рэлігійны філосаф Філон Александрыйскі (25 г. да Н. Х. — 50 г. пасля Н. Х.). Згодна з яго вучэннем, у Логасе заключаецца задума стварэння. У некаторых мысляроў, якія жылі ў першыя стагоддзі пасля з'яўлення хрысціянства (Клімэнт Александрыйскі, Арыген і інш.), Логас трактуецца як Божая думка, якая стварыла свет. У хрысціянскім багаслоўі Логас — гэта разумны пачатак свету, які ахоплівае ўсё існуючае.

Філосаф Гегель (1770–1831) лічыў, што апрача духу і прыроды існуе Логас, які з'яўляецца крыніцаю ўсяго руху і развіцця. Ён меркаваў, што любыя змены ў космасе, прыродзе і чалавечай гісторыі вызначаны задумаю Бога.

Пра існаванне плана і праграмы ў развіцці сусвету сведчаць многія мысляры. Пра гармонію паміж суб'ектыўным духам і матэрыяй гаварыў Лейбніц (1646–1716), які лічыў, што паміж духоўнымі з'явамі ў душы чалавека падчас працэсу пазнання свету і працэсамі, што адбываюцца ў самім свеце, існуе гармонія, адно адпавядае другому.

Філосаф Кант (1724–1804) лічыў, што свет меў пачатак і што прычынаю гэтага з'яўляецца Бог. Аднак факт стварэння свету ён аддзяляў ад працэсу яго развіцця, які лічыў незалежным ад умяшальніцтва Бога. Святы Аўгустын сцвярджаў, што стварэнню свету папярэднічала Божая мудрасць і раней за яе нічога не было[1].

З улікам сучаснага ўзроўню ведаў, калі праграмаванне, у прыватнасці матэматычнае, атрымлівае ўсё больш шырокае распаўсюджванне, а таксама з улікам таго, што сусвет — гэта не сам Бог, а Яго ўвасобленыя думкі ў створаныя дух і матэрыю, пра Бога можна гаварыць як пра вялікага Праграміста, які сам у сабе мае сродкі і сілу для рэалізацыі сваёй праграмы.

Пра існаванне Божага плану і, такім чынам, праграмы стварэння і развіцця свету, гаворыцца ў Каталіцкай энцыклапедыі[2]. Тое, што існуе праграма развіцця свету, сцвярджаюць не толькі багасловы і філосафы, але і вучоныя. Напрыклад, І. Ньютон (1643–1727) лічыў, што космас быў створаны паводле плану. Нобелеўскі лаўрэат, фізік Артур Комптан (1892–1962) сцвярджаў, што факт існавання плану ў развіцці свету, а значыць, Розуму, які яго распрацаваў, неабвержны. Пра існаванне Божага плану ў гістарычным развіцці гаворыць арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч: «... святасць, зразумелая як адказ на Божы план у гісторыі чалавецтва»[3].

Выдатны матэматык Р. Том, які займаўся тэарытычнай біялогіяй, у 1970 г. прыйшоў да высновы, што на мікраўзроўні ў жывых арганізмах усё адбываецца паводле глабальнага плану і праграмы.

Што такое праграма ў дачыненні да стварэння Богам сусвету? Гэта, па-першае, Яго задума стварэння, па-другое, Яго план развіцця сусвету. Што такое план? Гэта намечаны Богам парадак рэалізацыі задумы, вызначэнне сілаў і сродкаў для ажыццяўлення намечанага. Дэталёва складзены план, яго распрацоўка да самых дробязяў — гэта і ёсць праграма.

Асноўныя элементы Божай праграмы — гэта энергія і інфармацыя. Праяваю энергіі як духоўнай з'явы выступаюць рознага тыпу сілы, якія ўзнікаюць пры ўзаемадзеянні створаных духу і матэрыі.

У сучаснай навуцы ёсць разнастайныя інтэрпрэтацыі паняцця «інфармацыя». Імпануе такое яе разуменне: інфармацыя з'яўляецца фундаментальнай першаасновай і ўсеагульнай уласцівасцю сусвету, асновао любога матэрыяльнага ўтварэння. Менавіта з яе складаецца Божы план стварэння свету. Энергія, якая кіруецца інфармацыяй, «спакоўваецца» ў звышцвёрды стан — матэрыю, якая па зададзенай праграме захоўваецца ў часе[4].

Праграма — гэта духоўны, энергаінфармацыйны субстракт сусвету. Гэта прамежкавае паміж магчымасцю, што існуе як мысленне Бога, і рэчаіснасцю як рэалізаванаю магчымасцю праз яднанне духу і матэрыі.

---

**Ізяслаў Марозаў** — кандыдат філасофскіх навук. Апублікаваў 24 навуковыя працы па філасофскай тэматыцы, дзве з якіх — манаграфіі. Жыве і працуе ў Мінску.

У праграму закладзена здольнасць да адрознення і ўзаемадзеяння сілаў рознага тыпу. Здольнасць адрознення характэрная для ўсіх узроўняў арганізацыі сусвету, пачынаючы з элементарных часціцаў. У іх гэтая здольнасць праяўляецца ў выбарным узаемадзеянні часціцаў паміж сабою. У раслінаў і жывёлаў гэтая здольнасць праяўляецца ў ажыццяўленні аналізу знешняга асяроддзя і выбіранні ўсяго неабходнага для існавання.

Праграмаваннем займаюцца людзі. Яны складаюць праграмы з рознымі мэтамі і для вырашэння самых розных задачаў: побытавых, навуковых, тэхнічных, тэхналагічных, эканамічных, сацыяльных і інш. З дапамогаю праграмаў мэты планаў звязваюцца з наўянымі рэсурсамі. Кожная праграма — гэта комплекс мераў для рэалізацыі той ці іншай мэты. Асаблівае месца ў распрацоўцы праграмаў займае матэматычнае праграмаванне.

Узнікаюць два пытанні: 1) у чым падабенства і адрозненне паміж праграмамі, якія ствараюць людзі, і Божай праграмай развіцця свету? 2) Ці карэктуе Бог створаную Ім праграму развіцця свету ці, стварыўшы свет, Ён ужо не ўмешваецца ў працэсы і падзеі, што ў ім адбываюцца?

Па першым пытанні можна сказаць, што праграмаванне ў абодвух выпадках з'яўляецца духоўнаю дзейнасцю. У гэтым заключаецца іх падабенства, а адрозненне ў тым, што для распрацоўкі і рэалізацыі сваёй праграмы чалавеку, апрача ўласнай думкі, патрэбны знешнія сілы і сродкі. Бог творыць толькі сілаю сваёй думкі і параджае энергію і рэчыва, якія на аснове створаных Ім праграмаў параджаюць усю разнастайнасць рэчаіснасці.

Што датычыць другога пытання, то існуе думка, згодна з якой Бог пасля стварэння свету не ўмешваецца ў ход падзеяў, якія ў ім адбываюцца. Такі накірунак быў названы дэізмам. Шырокае распаўсюджванне ён меў у XVIII ст. у Еўропе (адным з яго прадстаўнікоў з'яўляецца Кант). З пазіцыяй дэізму нельга пагадзіцца — Біблія і сама гісторыя чалавецтва сведчаць пра іншае. Імкнучыся не ўмешвацца ў развіццё падзеяў на зямлі, Бог сочыць за рэалізацыяй створанай Ім праграмы. Калі яе развіццё адхіляецца ад Яго задумы, Ён уносіць карэктывы ў тыя або іншыя аспекты функцыянавання праграмы. Трэба меркаваць, што змены ў праграму развіцця зямлі, жыцця чалавека на ёй уносіліся не раз. Яны былі звязаныя з рознымі катаклізмамі і катастрофамі, пра гэта гаворыцца ў Святым Пісанні[5], пра гэта сведчаць навука і гісторыя чалавецтва. Прыкладам умяшальніцтва Бога ў зямныя падзеі з'яўляецца факт нараджэння Хрыста ад Дзевы Марыі. Гэта было зроблена з прычыны таго, што язычніцкай свядомасці неабходна было даць магчымасць упэўніцца ў пачуццёва-прадметным існаванні Бога, які аб'явіўся народу ў абліччы Хрыста і сказаў, што Ён і Айцец адно і тое ж.

На жаль, язычніцкая свядомасць не адышла ў мінулае. Вялікая колькасць людзей і сёння верыць толькі ў тое, што можна ўбачыць, пачуць, адчуць. Відаць, яшчэ не прыйшоў час, каб у людзей духоўны зрок дамінаваў над цялесным.

У Аўгустына ёсць думка, што пры стварэнні свету Бог заклаў у яго зародкі ўсіх рэчаў, якія ў працэсе развіцця прымаюць пэўную форму, матэрыялізуюцца і развіваюцца. З гэтага вынікае, што любая матэрыяльная адукацыя ўзнікае і развіваецца згодна з мэтаю, закладзенаю ў праграму. Тамаш Аквінскі, як і Арыстоцель, лічыў, што рух у сусвеце абумоўліваецца імкненнем да дасягнення мэты, але калі ёсць мэта, то, значыць, ёсць план і праграма яе дасягнення.

Задума, план і праграма скіраваныя на дасягненне вызначанай мэты. У сувязі з гэтым узнікае пытанне: якая канчатковая мэта развіцця сусвету? З хрысціянскага пагляду адзінаю найвышэйшаю і канчатковаю мэтаю ўсяго, што адбываецца, з'яўляецца Бог. Як гэта разумець? Як тое, што, ствараючы свет, Бог рэалізуе сябе як розум і воля, сіла і думка.

Адною з мэтаў, пазначаных у праграме, з'яўляецца стварэнне Сонечнай сістэмы, Зямлі і чалавека. Пра гэта сведчыць той факт, што ўсе фізічныя канстанты і натуральныя заканамернасці прадыктаваныя неабходнасцю стварэння жыцця на Зямлі. Вучоныя прыйшлі да высновы, што з'яўленне жыцця на зямлі першапачаткова, г. зн. ужо на пачатку стварэння было закладзена ў праграму развіцця Сонечнай сістэмы. Доказам гэтага з'яўляюцца такія прыродазнаўчыя факты, як фіксаваная адлегласць Зямлі ад Сонца, вярчэнне Зямлі, існаванне спадарожніка ў Зямлі, пэўных памераў і інш. Калі адлегласць паміж Сонцам і Зямлёю змянілася б, то ўсё жывое на Зямлі загінула б. Захаванне пэўнай тэмпературы на Зямлі забяспечваецца яе вярчэннем, а Месяц забяспечвае цыркуляцыю водных патокаў.

Творчасць — гэта адна з асноўных характарыстык Бога. Ён стварае пастаянна. Яго творчасць — не хаатычны працэс. Яна ажыццяўляецца паводле вызначанай логікі, што імкнуўся паказаць у сваіх працах вялікі Гегель. Праграма развіцця паводле Гегеля — гэта лагічная ідэя, што існуе як думка Бога. Паводле гэтай праграмы развіваюцца дух і матэрыя, ажыццяўляюцца іх паяднанне і ўзаемаператварэнне.

Для рэалізацыі праграмы і дасягнення мэтаў, закладзеных у яе, неабходныя сілы, сродкі і выканаўца. Сілы — гэта створаны дух, сродкі — матэрыя, вы-

канаўца — чалавек. Праграма распрацавана да самых дробязяў: усё ў ёй прадугледжана і ўсё ў створаным свеце адбываецца, згодна з логікаю і матэматычнымі прынцыпамі. Бог стварае свет паводле законаў матэматыкі.

У чым жа сіла матэматыкі, чаму яна мае такое вялікае значэнне ў навуковых даследаваннях і ўвогуле ў жыцці людзей? Чаму прыродазнаўства, тэхнічныя навукі базуюцца на матэматыцы? Чаму вучоныя, вынаходнікі, усе, хто мае справу з прыродазнаўствам і тэхнікай, упэўненыя ў тым, што несупярэчлівае матэматычнае апісанне прадметаў і з'яваў даследавання ў матэрыяльным свеце з'яўляецца доказам іх правільнага разумення?

Матэматыка — гэта навука пра сувязі і адносіны ў створаным свеце і дух, дадзены Богам чалавеку. Тое, што людзі выкарыстоўваюць матэматыку ў побыце, навуцы і тэхніцы, іншых сферах чалавечай дзейнасці, сведчыць пра адэкватнасць суб'ектыўнага духу і створанага свету. Гэта адпаведнасць апісваецца з дапамогаю матэматычнай сімволікі і з'яўляецца адным з доказаў стварэння свету з адной цэласнасці. Такою цэласнасцю з'яўляецца біблійны пачатак. I дух, і матэрыя створаны з гэтай цэласнасці і таму падпарадкаваныя адным і тым жа матэматычным заканамернасцям. Як зазначаў Леанарда да Вінчы (1452–1519): «Уся прырода пабудаваная паводле законаў матэматычнай неабходнасці, якая зыходзіць ад Бога»[6]. На гэта звярнуў увагу амаль 2 тысячы гадоў да яго філосаф Піфагор (580–500 да Н. Х.). На матэматычным тлумачэнні матэрыяльнага свету настойваў І. Ньютон (1643–1727).

Пра існаванне плану і праграмы ў развіцці свету сведчаць структураванасць матэрыяльных сістэмаў. Што такое структура? Гэта сукупнасць устойлівых сувязяў паміж элементамі матэрыяльнага ўтварэння, якія забяспечвае яго цэласнасць. Структурнасць уласцівая сусвету на ўсіх узроўнях яго існавання, што сведчыць пра існаванне сэнсу і мэты ў створаным свеце. У самой будове атама ёсць пэўны сэнс і мэта. Гэта можна растлумачыць тым, што структура атамаў створана Творцам і яны функцыянуюць паводле зададзенай праграмы. Вучоныя лічаць, што структараванне атамаў у розныя формы адбываецца дзякуючы інфармацыйна-праграмным інструкцыям.

Створаны дух пранізвае ўвесь сусвет, і адным з доказаў гэтага з'яўляецца гравітацыя. Дзякуючы гравітацыі сфармаваліся Сонечная сістэма і Зямля з усімі ўмовамі, неабходнымі для ўзнікнення на ёй жыцця.

Чаму і па якіх прычынах з'явілася і існуе гравітацыя? Чаму яна такая «разумная», аж да пастаноўкі мэтаў? Таму што ў аснове ўсіх працэсаў сусвету, у тым ліку і гравітацыі, знаходзіцца створаны дух, які мае ў сабе праграму развіцця свету, і ўрэшце — розум Бога.

Тое, што сусвет з'яўляецца рэалізацыяй Божага плану, даказвае таксама існуючая ў ім гармонія. Так, усе органы любога рэчыва ўзаемазвязаны і функцыянуюць дзеля яго дабра. Само стварэнне, як цэлае, знаходзіцца пераважна ў гармоніі з навакольным асяроддзем. Паводле вызначанай праграмы працуе кожны орган чалавечага цела.

Даследаванні арганізмаў паказваюць, што многія з іх маюць не запатрабаваныя цалкам органы. Гэта заўважна і ў чалавека: з прыкладана 12–14 мільярдаў клетак чалавечага мозга актыўна працуе 5–7%. Мільярды клетак чалавечага мозга, якія цяпер не задзейнічаныя, чакаюць свайго часу, каб выконваць запраграмаваную для іх функцыю. Гэты факт сведчыць пра тое, што чалавек — вынік стварэння, а не эвалюцыі. Ён таксама сведчыць пра тое, што праграмай прадугледжана пэўная паслядоўнасць і скіраванасць у развіцці сусвету.

Аб праграмным развіцці свету ідзе размова ў калектыўным даследаванні аўтараў, працы якіх атрымалі сусветнае прызнанне: «Калі раней лічылася, што кароткі выбухны перыяд у пачатку гісторыі нашага свету „аўтаматычна“ вызначаў патрэбную хуткасць пашырэння, то цяпер мы лічым, што ў гэты перыяд мела месца вельмі акуратная надбудова параметраў»[7].

Існаванне праграмы характэрна для неарганічнага і арганічнага свету чалавечага грамадства. Пра гэта сведчаць факты, выкладзеныя ў навуковай літаратуры: «Моцныя і слабыя ядзерныя ўзаемадзеянні павінны былі трапіць у вельмі тонкі дыяпазон, каб у Вялікім выбуху узнік вадарод і ў зорках маглі з'явіцца элементы цяжкага гелія.

Сілы гравітацыі павінны былі знаходзіцца ў вызначаных адносінах з сіламі электрамагнітнага ўзаемадзеяння, каб узніклі такія зоркі, як Сонца, а вакол іх маглі сфармавацца прыдатныя для жыцця планеты. Нават лёгкая перавага электрамагнітных сілаў прывяла б да таго, што сілы адштурхоўвання паміж пратонамі былі б занадта вялікія і ніводнага элемента, апрача вадарода, не ўзнікла б.

Самы нязначны зрух у суадносінах масаў электрона, пратона і нейтрона зрабіў бы немагчымай звыклую для нас хімію і біялогію[8].

Вучоныя звяртаюць увагу на тое, як у мікрасвеце ўсё разлічана. Калі значэнне фізічных канстантаў было б іншым, то ўзнікненне жыцця на зямлі было б немагчымае. У самым пачатку стварэння, г. зн. у задуме Бога, была закладзена магчымасць узнікнення жыцця. Неба і зямлю, дух і матэрыю Бог ведаў да

іх стварэння, яны былі сутнасцю Яго ведаў. Зразумець гэта і выказаць словамі было дадзена вялікаму Аўгустыну[9].

Працэс стварэння сусвету ў сваіх асноўных момантах апісаны ў кнізе Быцця. Са зместу гэтага раздзела кнігі Быцця вынікае, што Бог планаваў вынікі свайго стварэння, але ў Яго не было канчатковай упэўненасці ў тым, што ўсё будзе такім, як Ён задумаў. У чым гэта выяўляецца? У тым, што Бог ацэньвае створанае. Як правіла, гэта ацэньвалася на «добра». І толькі ў самым канцы Ён ацаніў сваё стварэнне на «вельмі добра»[10].

Пры разглядзе арганічнай прыроды трэба канстатаваць, што ў зародышах арганізмаў закладзена праграма іх развіцця. З чаго пачынаецца жыццё новага, у прыватнасці чалавечага, арганізма? Натуральна, з зачацця, калі спалучаюцца сперматазоід з яйцаклеткай і ўтвараецца зігота — першая клетка новага чалавечага арганізма. У зігоце ў выглядзе інфармацыі закладзена праграма развіцця арганізма.

У чалавечым арганізме налічваецца больш за 10 трыльёнаў клетак. Усе яны знаходзяцца пад кантролем праграмаў, закладзеных у ДНК і, такім чынам, пад катролем Розума, стварыўшага іх. Клеткі строга арганізаваныя, і гэта дазваляе некаторым вучоным лічыць, што яны кантактуюць паміж сабою і, значыць, надзеленыя свядомасцю. Так падштурхнула меркаваць тое, што клеткі чалавечага эмбрыёна ведаюць сваё прызначэнне — стаць клеткамі пэўнага арганізма.

Усе клеткі раслінных, жывёльных і чалавечых арганізмаў пабудаваныя паводле адзінага плану. Усе яны жывуць і працуюць дзеля агульнай мэты пэўнага органа і арганізма. Клеткі сілкуюцца, размнажаюцца, адказваюць ахоўнымі рэакцыямі на ўсялякую небяспеку.

Кожны дзень у арганізме дарослых людзей нараджаюцца і паміраюць мільярды клетак. Гэта не хаатычны працэс, а рэалізацыя створанай Богам праграмы развіцця. Пра існаванне праграмы ў працэсах дзялення, спецыялізацыі і гібелі клетак гаворыцца ў навуковай літаратуры. «Генны апарат працуе пад кіраваннем сістэмных і працоўных праграмаў»[11]. «Стварэнне генома з самага пачатку ўпіраецца ў з'яўленне інфармацыі, або праграмнага забеспячэння»[12]. «Малекула ДНК дзейнічае як сістэма суперсучасных камп'ютараў і сваёй складанасцю нашмат пераўзыходзіць самыя сучасныя ЭВМ»[13]. «Генетычны код уяўляе з сябе прыклад праграмнага забеспячэння, якое кантралюе і арганізуе жыццёвыя працэсы»[14].

У разважаннях аўтараў заўважная паралель, якую яны праводзяць паміж жывою клеткаю і суперсучасным камп'ютарам. Вядома, па сваёй складанасці яны непараўнальныя, бо стварэнне Бога пераўзыходзіць стварэнне чалавека. Аднак падабенства ёсць, таму што чалавек як духоўная істота створаны паводле Божага вобраза.

Паводле вызначанай праграмы адбываецца фармаванне клеткі арганізма ў цэлым. У аснове гэтага — Божыя розум і воля. Калі вучоныя праніклі ў будову клеткі, яны зрабілі выснову: усё прадугледжана Найвышэйшым Розумам. Сумненняў у іх не заставалася.

У клетку чалавечага арганізма «ўманціравана» прыблізна 30 тысяч розных генаў. Ці сам па сабе адбыўся гэты «мантаж»? Паводле вобразнага выказвання аднаго з вучоных, верагоднасць выпадковага ўтварэння ДНК настолькі нізкая, як і зборка «Боінга» з ламачча аўтамабільнай звалкі пад уздзеяннем урагану.

Вышэйсказанае ў чарговы раз дазваляе паўтарыць не раз сказанае: развіццё сусвету запраграмаванае. Усё, пачынаючы ад элементарных часцінак да сусвету, рухаецца, змяняецца, развіваецца, функцыянуе паводле праграмы. Фізічнымі, хімічнымі, біялагічнымі, псіхічнымі і ўсімі іншымі працэсамі чалавечага і любога іншага арганізма кіруе Найвышэйшы Розум, які хрысціяне называюць Богам. Кіраванне ажыццяўляецца праз створаныя Ім праграмы.

Божая праграма развіцця ў нейкіх сваіх аспектах можа не адпавядаць першапачатковай задуме і плану, а прычынай гэтаму — чалавек. Людзі ўсё больш умешваюцца ў ход натуральных, створаных Богам, працэсаў. Калі гэта ўмяшальніцтва спалучана з парушэннем натуральных або маральных законаў, то рана ці позна яно вядзе да нежаданых вынікаў. Усё, што звязана з дзейнасцю людзей, знаходзіцца ў непасрэднай залежнасці ад іх маралі і захавання імі Божых запаведзяў.

Першымі парушылі Божую забарону Адам і яго жонка. Вынікі іх непаслухмянасці апісаныя ў трэцім раздзеле першай кнігі Майсея «Быццё». Развіццё духоўнага свету чалавека пайшло не паводле першапачатковай задумы Бога, што прывяло да змены многіх аспектаў праграмы, якая датычаць людзей.

Умяшальніцтва Бога ў зямныя працэсы і падзеі залежыць ад таго, наколькі людзі ў сваіх словах і ўчынках адыходзяць ад Божых запаведзяў, інакш кажучы, — грашаць. Божыя запаведзі ўманціраваны ў духоўны складнік сусвету. Іх захаванне — маральны закон свету. На гэта звяртала ўвагу прадстаўніца сярэднявечнай схаластыкі, філасаф, містык, урач Хільдэгарад Бінгенская (1098–1178), якой была дадзеная здольнасць глыбокага сузіральніцтва. «Калі чалавек грашыць, — сцвярджала яна, — пакутуе Сусвет»[15].

Чалавек не можа парушаць натуральныя законы. Калі ён паспрабуе гэта зрабіць, то тут жа сам сябе і пакарае. Сёння некаторыя даследчыкі імкнуцца дзейнічаць насуперак законам біялогіі, але негатыўныя вынікі ўмяшальніцтва чалавека ў законы жыцця не заўсёды бачныя адразу — яны абавязкова праявяцца праз некаторы час.

Што датычыць законаў грамадскага жыцця, то іх няведанне, неразуменне, дзейнасць наперакор ім адмоўна паўплывае на ўсе сферы жыцця людзей, ведучы да войнаў, голаду і смерці.

У сувязі з гэтым неабходна сказаць пра такі прынцып стварэння сусвету, як свабода. Што такое свабода? Гэта магчымасць выбару. Аднак свабода — гэта не самавольства, гэта магчымасць выбару ў пэўных рамках. У неарганічным свеце гэтыя рамкі абмежаваныя фізічнымі канстантамі і натуральнымі законамі. У арганічным свеце жывёльны свет валодае большай свабодаю, чым раслінны. Свабода чалавека мае нашмат больш ступеняў, чым свабода жывёлаў. Але свабода чалавека ў адрозненне ад ўсяго астатняга абмежавана яшчэ і маральнымі рамкамі. Чалавеку і тут даецца свабода — свабода выбару паміж дабром і злом, свабода рабіць усё па сумленні або наадварот. Бог даў чалавеку духоўны феномен, які называецца сумленнем. Што такое сумленне? Гэта парада Бога чалавеку, як дзейнічаць у той ці іншай сітуацыі. І калі чалавек дзейнічае, як прынята гаварыць, наперакор сумленню, тым самым ён дзейнічае наперакор Божай парадзе. Гэта не застаецца не заўважаным з боку сілы, якая супрацьстаць Богу. Д'ябал імкнецца да таго, каб чалавек увогуле страціў сумленне і тым самым перайшоў да яго ў служэнне.

Можна зрабіць наступную выснову: развіццё сусвету адбываецца паводле створанай Богам праграмы, якая прадугледжвае свабоду выбару ў пэўных прасторавых і часавых рамках, для чалавека яшчэ і ў рамках маралі, асноўным кампанентам якой з'яўляецца толькі дадзенае чалавеку Богам сумленне.

Бог можа ўносіць карэктывы ў створаную Ім праграму развіцця, але Ён можа гэтага і не рабіць. Прыкладам з'яўляецца зямное жыццё Хрыста. Яго фізічнае нараджэнне, звязанае з зачаццем і развіццём у целе Дзевы Марыі, амаль не адрознівалася ад зямнога. У сваім цялесным развіцці Хрыстус прайшоў усе неабходныя стадыі, якія праходзіць кожнае дзіця. Чаму Хрыстус не з'явіўся на свет адразу дарослым і мудрым чалавекам, якім Ён стаў пасля? Таму што існуюць створаныя Богам канстанты і законы, маральныя нормы і правілы, якія не парушае нават Ён сам, тым больш гэта не дазваляецца чалавеку.

Божыя законы — гэта не толькі створаныя Ім натуральныя законы і законы грамадства, але і законы маралі, выкладзеныя ў Святым Пісанні. Дзейнасць людзей, як паказала практыка чалавецтва, будзе больш паспяховаю, калі яна будзе ажыццяўляцца з большай строгасцю і паводле Божых запаведзяў, хрысціянскай маралі і сумлення.

Д'ябал заўсёды імкнецца супрацьпаставіць сябе Богу, імкнецца ўплываць на душы людзей, падштурхоўваючы іх да парушэння маралі. Гэта робіцца лягчэй з прычыны паляпшэння маральнага жыцця людзей, калі высокамаральнае духоўнае жыццё прыніжаецца, а, бывае, зусім знішчаецца. Але калі людзі ў сваім маральным падзенні пераходзяць усе межы, то Бог не пакідае гэтага без увагі. Менавіта таму веруючым і няверуючым людзям трэба памятаць пра Садом і Гамору. Гэта, па-першае. Па-другое, трэба мець на ўвазе, што ў духоўным свеце, куды душа чалавека пераходзіць пасля смерці цела, няма ўмоваў для пачуццёвых задавальненняў, але памяць пра іх застаецца ў душы. Таму можна ўявіць, як будуць пакутаваць душы тых людзей, якія ў зямным свеце імкнуліся атрымаць толькі такія задавальненні, забываючыся пра чыстасць уласнай душы, пра веру і Касцёл. Бог міласэрны, Ён многае дарує. Ён дарує тым, хто моліцца, ходзіць у Хрыстовы Касцёл, звяртаецца да Яго і шчыра раскайваецца ў сваіх правінах. Пакаянне — гэта неабходны кампанент духоўнага жыцця чалавека, яго духоўнага і цялеснага здароўя.

Чалавек штодзённа ўмываецца, штотыдзень ходзіць у лазню або прымае ванну, робіць усё для чысціні і здароўя цела. Для здароўя душы, імкнення яе да Бога неабходна штодзённа маліцца, а па нядзелях абавязкова прыходзіць у Касцёл на супольную малітву — на своеасаблівы «духоўны душ», які неабходны для захавання здароўя душы.

## Літаратура


[1] Блаженный Августин. Исповедь. — Минск, 2000. — С. 285.
[2] Католическая энциклопедия. В 4-х томах. — Москва, 2002–2011. — Т. 4. — С. 999, 1001 і інш.
[3] Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Святасць у навучанні Яна Паўла II // Наша вера, 1, 2011. — С. 3.
[4] Науменко, Г. М. Великая тайна бытия. — Москва, 2009. — С. 67.
[5] Книга Бытия, 6, 7.
[6] Католическая энциклопедия. — Москва, 2005. — С. 1615.
[7] Много миров / Под ред. Стивена Дж. Дика. — Москва, 2007. С. 148–149.
[8] Тамсама, с. 149.
[9] Блаженный Августин. Исповедь. — Минск, 2000. — С. 268.
[10] Книга Бытия, 1, 31.
[11] Фурса, Е. Я. Мироздание. — Минск, 2007. — С. 52.
[12] Тамсама, с. 41.
[13] Науменко, Г. М. Великая тайна бытия. — Москва, 2009. — С. 353.
[14] Много миров / Под ред. Стивена Дж. Дика. — Москва, 2007. — С. 32.
[15] Бэнэдыкт XVI. Святло свету: Папа, Касцёл і знакі часу. Размова з Петэрам Зэевальдам // Наша вера, 3, 2011. — С. 47.

Юры Лаўрык

# КНІЖНЫЯ ЗБОРЫ МЕНСКАГА КАНВЕНТУ ДАМІНІКАНАЎ

## НАПРЫКАНЦЫ XVIII — ПАЧАТКУ XIX СТ.




Разгортка кнігі езуіта А. Тылькоўскага «Soliloquia Christiana», якая згадваецца ў каталогу бібліятэкі менскіх дамініканаў. *(З прыватнай калекцыі.)*

У папярэднім артыкуле з рубрыкі «Кніжныя скарбы» мы распачалі гутарку пра кнігазборы менскага кляштара айцоў дамініканаў у 1709 годзе. Сёння ж прыгледзімся да больш позніх дакументаў, звязаных з гэтым асяродкам, і паразважаем пра тое, якія змены адбыліся на працягу стагоддзя. Інвентар бібліятэкі 1796 г., сшытаваны разам з падобнымі інвентарамі іншых кляштараў Мінскай губерні, захоўваецца ў фондах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. Што ж датычыць літургічнага кнігазбору, то пра яго склад мы можам меркаваць толькі з візітацыйных матэрыялаў ажно першай чвэрці XIX ст.

**Кнігазборы**

Касцёльны кнігазбор быў апісаны падчас «Wizyty Jeneralney» 1818 г. і ў гэты час меў ужо толькі 12 паасобнікаў. Такім чынам, нават агульная колькасць у параўнанні з тым, што было да 1709 г., зменшылася на адну адзінку. На гэты час у дамініканскім касцёле захоўваліся ўжо толькі службоўнікі-мшалы (як дамініканскія, так і звычайныя), 2 агенды ды бэнэдыкцыянал. Зніклі з сакрыстыі зужытыя, відаць, за сто з лішкам гадоў псалтыр, мартыралог і антыфанар, а новых кніг на іх месца не паступіла — напэўна, для штодзённага набажэнства законнікі карысталіся асабістымі брэвіярыямі.

Інвентар уласна бібліятэкі складаецца з 9 раздзелаў, у якіх змяшчаюцца кнігі па найбольш шырока прадстаўленых тэмах: «Libri Theologiae Speculativae», «Libri Theologiae Moralis», «Libri Philosophici», «Libri Concionatorij», «Kaznodzieje Polscy», «Libri Historici», «Libri pertinentes ad Jurisprudentiam», «Liber Ascetarum», «Libri Miscelanei»[2].

---

**Юры Лаўрык** — старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Закончыў бібліятэчна-бібліяграфічны факультэт Мінскага ўніверсітэта культуры, тэалагічны і гістарычны факультэты Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта. Даследуе гісторыю беларускай кнігі і бібліятэк.


ROK SKARBOWY
Dźieł Pánſkich
*Niedźielnemi Kazániámi*
*OGŁOSZONYCH,*
DO DNI SKARBOWYCH
álbo Swiątecznych Kazań dołożony,
A
*W pełne DZIEŁ PANSKICH Rece*
IASNIE WIELMOZNEGO IEgo-MOśći
PANA
MAXIMILIANA
FRANCISZKA
*z Tęczyná*
OSSOLINSKIEGO
PODSKARBIEGO Nádwornego
KORONNEGO, SANDOMIR-
SKIEGO, CHMIELNICKIEgo &c.
STAROSTY,
*Pokorną poufałośćią oddány,*
Y
M'edzy Látá do uſług WIELKIEMU DOMOWI
Obligowane, POLICZONY
*Od X. ANTONIEGO SZYRMY Societ: IESV.*
*W WILNIE w Drukárni Akádemickiey Soc: IESV.*

Тытульны ліст кнігі «Rok skarbowy dziel Panskich» езуіта а. Антона Шырмы, творы якога захоўваліся ў бібліятэцы менскіх дамініканаў. *(Са збораў НГМ РБ.)*

Праўда, змест раздзелаў не заўсёды адпавядае загалоўку, бо, напрыклад, разнастайныя «Commentaria» на кнігі Бібліі мы знаходзім у раздзеле «Libri Concionatorij», прысвечаным прапаведніцкім творам, а «Orator Polityczny» і «Orator Polonus» — наадварот, у раздзеле «Libri Miscelanei».

Апісанне кніг у гэтым інвентары ўжо больш інфарматыўнае, чым у вопісе 1709 года. Апрача таго, што загаловак раздзела дае ўяўленне пра тэматыку або жанр твора, паасобным запісам занатаваныя парадкавы нумар у раздзеле, звесткі пра аўтара і назву кнігі, фармат і колькасць тамоў. На пачатку інвентара запісы больш падрабязныя, але далей пісальнік, відаць, стаміўшыся, пачынае апускаць тыя ці іншыя элементы.

У раздзеле *«Libri Theologiae Speculativae»* змешчаны, як вынікае з загалоўка, кнігі па тэарэтычнай («спекулятыўнай») тэалогіі — а больш дакладна, па агульнай і дагматычнай тэалогіі і па апалагетыцы; ён складаецца з 26-ці пазіцый у 75-ці тамах. Гэта найбольш вялікі паводле колькасці тамоў раздзел, у якім ганаровае першае месца займаюць працы Тамаша з Аквіна — збор яго твораў («Opera omnia»), а таксама некалькі выданняў як самой «Summae Theologiae», так і каментароў да яе розных аўтараў. Апрача гэтых працаў, былі тэалагічныя трактаты па розных пытаннях («Tabula Naufragij, seu Tractatus de Poenitentia P[atri]. Joannis. T[omus]. unicus»), падручнікі і дапаможнікі («Cursus Theologicus P[atri]. Joannis Vilalva O[rdo]. P[redicatorem]. T[omi]. tres»), а таксама апалагетычныя ды палемічныя творы (напрыклад, «Liber Tertuliani contra Marcionem in folio»[3] ).

У раздзеле *«Libri Theologiae Moralis»,* прысвечаным маральнай тэалогіі, змешчаны 33 пазіцыі ў 44-х тамах. Апрача трактатаў адпаведнай тэматыкі (напрыклад, «Liber Theologiae Moralis Authore P[atri]. Antonino de Oscobar Tom[us]. unicus in 8vo»), у т.л. падручнікаў і навучальных курсаў («Cursus Theologiae Moralis P[atri]. Anselmi Schnell[eri]: Tom[us]. unicus») тут былі таксама кнігі па спавядальніцтве («Tribunal Confessariorum P[atri]. Mart[ini]: Vigont», «Confessio et Instructio Idiotae in 8vo minore») і ўвогуле па душпастырстве, як зачытаная дазвання — без пачатку — «Liber sine titulo de Instructione Sacerdotis Authore ignoto in 8vo Tom[us]. unicus».

У раздзеле *«Libri Philosophici»* змешчана 30 пазіцый у 45-ці тамах. Гэтыя кнігі мусілі забяспечваць навучальны працэс пры выкладанні філасофіі. Тут можна сустрэць працы і канспекты, што ахоплівалі як цэлы курс філасофіі («Summa Philosophiae Speculativae Auth[ore]: P[atri]. Dominico Linze O[rdo]. P[redicatorem]. Tomus unicus in 4to»), так і ягоныя паасобныя часткі: логіку, фізіку, метафізіку, асновы дыялектыкі і г.д. («Commentaria in Logicam Aristotelis P[atri]. Toleti Volumen unicus», «Methaphisicae tomus unicus auth[ore]: ignoti in 8vo minori», «Institutiones Dialecticae Collegii S. Thomae Completensis»). Сярод аўтараў пераважаюць дамінікане — Гудэн, Ортыс і інш.

Аўтарства некалькі курсаў належыць пэўнаму Яну ад св. Тамаша («Joanni a S. Thomae»), імя якога не сустракаецца ў рэестрах іншых кляштарных бібліятэкаў. Дык ці не быў ён прафесарам менскіх дамініканскіх студыяў, які чытаў тут гэты курс? Цалкам магчыма. Не выключана, што менскімі прафесарамі (або прафесарамі менскіх

дамініканаў, якія вучыліся за мяжой) былі і аўтары з такімі не беларускімі прозвішчамі, як Гудэн або Вілальва, бо іх імёны мы таксама неаднойчы сустракаем у сувязі з рознымі, прычым, хутчэй за ўсё, рукапіснымі, курсамі (на жаль, у інвентары 1796 г. манускрыпты не пазначаліся). Усе кнігі па філасофіі былі на лацінскай мове.

У раздзеле *«Libri Concionatorij»* ахоплены 63 пазіцыі ў 65-ці тамах і пададзены зборнікі казанняў, разважанняў, каментараў да біблейскіх кніг і інш. (напрыклад, «Conciones in Laudam Deiparae auth[ore]: ignoti», «Considerationes et Sermones Praedicabiles p[er] Dominicis et Festis», «Commentaria in Psalmos Davidicos Auth[ore]: Michaele Higvarci»). Сярод папулярных у той час кніг, якія мы сустракаем у гэтым раздзеле, такія дапаможнікі па падрыхтоўцы казанняў і трактатаў як «Mundus Simbolicus [sic!] in folio», «Thesaurus Doctrinae Christianae» і шэраг іншых. Тут мы бачым лацінамоўнае выданне Бібліі і канкардацыю. Як і ў папярэднім раздзеле кніг на іншых мовах, акрамя лаціны, няма — у процівагу наступнаму раздзелу, які з'яўляецца выключна польскамоўным.

У раздзеле *«Kaznodzieje Polscy»* ахопліваецца 49 аднатомных выданняў і, як вынікае з назвы, змешчаны прапаведніцкія творы на польскай мове. Уласныя назвы кніг у ім амаль нідзе не падаюцца і ледзь не кожная пазіцыя пачынаецца словам «Kazania» з удакладненнем перыяду літургічнага года, да якога яны прымеркаваныя, і аўтарства. Сярод нешматлікіх выключэнняў можна назваць запісаныя з поўнымі тытуламі


NIEBO SPRAWIEDLIWYM Venite Benedicti Matth: 25.
PIEKŁO GRZESZNIKOM Discedite a me maledicti ibidē.
Przez Historye y Przykłady
O Cnotach prowádzących do Nieba, y grzechach prowadzących do Piekła, w tych Kazaniach ogłoszone y dla Duchownego wszelkiego Stanu Osobom pożytku do Druku podane. Ibunt de virtute in virtutem Ps. 83. Mors peccatorum pessima Ps. 33.
Od X. ALEXANDRA DOWGIAŁY S. T. L. Zakonu Dominiká S. Prowincyey Litewskiey.
Roku Pańskiego 1714.
TOM PIERWSZY.
w SUPRASLU. w Drukárni WW. OO. Bazylianow Unitow.

Тытульны ліст зборніка казанняў «Niebo sprawiedliwym, pieklo grzesznikom» беларускага дамініканіна, лектара святое тэалогіі а. Аляксандра Даўгялы. *(Са збораў НГМ РБ.)*

выданні «Prawdy Moralne X[iedza]. Paulina od S[wietego]. Jedrzeja» і «Krol Bolesny X[ris]tus to jest Kazanie o Mece Panskiey X[iedza]. Poninskiego in folio», некалькі «Koronatek», а таксама змешчаны чамусьці менавіта сюды, а не ў папярэдні раздзел лацінамоўны дапаможнік па падрыхтоўцы казанняў і яшчэ адно выданне біблейскіх кніг — «Nowy Testament». Сярод найбольш вядомых прапаведнікаў, казанні якіх запісаныя ў вопісе, згадаем Пятра Скаргу і Антонія Стэфановіча, а таксама Шырму і Рыдзеўскага.

У раздзеле *«Libri Historici»*, якія, паводле загалоўка, прысвечаны гістарычным творам, змешчана і літаратура рэлігійнага характару. Ён складаецца з 45-ці пазіцый і пачынаецца «Царкоўнай гісторыяй» Амата («Historia Ecclesiastica P[atri]. Ignatij Hyacinthi Amat de Graveson»). З іншых жанраў у раздзеле змешчаны жыцці біблейскіх патрыярхаў («Vitae Abrahae Aut[hore]: Didaco Hisseno»), святых («Cedar czyli zycie S. Bazylego» — то бок, папулярны ў той час твор «Cedr mistyczny»), трактаты па Святой гісторыі («Tractatus de Vita mistica et Annis Jesu X[ris]ti»), медытацыі на гістарычныя тэмы («Meditaciones Historicae Auth[ore]: ignoto:») і да т.п. Твораў свецкіх гісторыкаў тут адносна няшмат; у якасці прыкладу назавём працу Плінія («Historia Mundi Plinij») і ананімную гісторыю Турцыі («De Rebus Turcis Historia»). З айчынных твораў абавязкова варта згадаць «Relatio Coronationis Imago B. V. M. Zyrovicinsis».

У раздзеле *«Libri pertinentes ad Jurisprudentiam»* (найменшым у вопісе) занатавана ўсяго 14 аднатомных пазіцый, сярод якіх пераважаюць кнігі па каранічным праве («Jus Canonicum P[atri]. Anselmi Schnelli»), рознага роду дэкрэты, канстытуцыі

і пастановы царкоўных уладаў — ад дыяцэзіяльных сінодаў да Трыдэнцкага Сабору («Synodus Diecesana Vilnensis sub Ill[u]st[rissi]mo Constantino Brzestowski Eppiscopo») і да т.п.; усе яны лацінамоўныя.

Раздзел *«Liber Ascetarum»*, які ў некаторых іншых кляштарных вопісах вынесены на адно з першых месцаў, у інвентары менскіх дамініканаў 1796 г. складзены перадапошнім. Дзейнасць «айцоў-прапаведнікаў» была скіраваная перадусім навонкі — на павучэнне люду, таму дагматычная ці казнадзейская літаратура мела для іх значна большую вагу, чым духоўныя практыкаванні. У раздзеле змешчана 36 пазіцый у 37-мі тамах, датычных розных аспектаў хрысціянскага дасканалення. Сярод найбольш характэрных працаў гэтага роду (прычым некаторыя з іх знакавыя) назавем «De Ascensione Mentis in Deum per Scholas Cardinali Belarmini», «Ars Bone Moriendi Auth[ore]: P[atri]. Ioanne a Jesu Maria», «Soliloquia Christiana Auth[ore]. P[atri]. Adalberto Tylkowski» і «Meditationes Joannis Poliandri». Шмат у гэтым раздзеле і польскамоўных твораў — напрыклад, «Zale Zagrzechy X[iedza]. Stefana Wielowieyskiego», «Ziarno Gorczyczne przez Jana Andrzeykiewicza» і «Purpura Zbawienna». Законнай духоўнасці прысвечаны «Prerogatywa Zakonu Kaznodzieyskiego» і «Theologia Zakonna X[iedza]. Daniela Bryknera». Напрыканцы раздзела занатавана яшчэ адна знакавая рэч, назву якой пісальніку нават не было патрэбы ўказваць — дастаткова назваць аўтара: «Tomas a Kempis po Polsku».

Раздзел *«Libri Miscelanei»* завяршае вопіс. Ён уключае досыць разнастайныя творы — усяго 28 пазіцый у 31-м томе. Тут мы сустракаем некаторыя кнігі, якія больш лагічна было бачыць у іншых раздзелах («Orator Polityczny X[iedza]. Woysznarowicza in folio», «Zycie Benedykta XIII. papieza», «Tractat po prostu Grzechy wstrzasajacy»), а таксама тыя, для якіх сапраўды было б цяжка знайсці месца сярод апісаных масіваў кніг — розныя слоўнікі, зборнікі літаратурных твораў і інш. («Gregorij Cnapij Dictionaria», «Liber Satirarum», «Thesaurus Politicorum in 4to», «Panegiryki Rozne in 4to»).

Такім чынам, у рэестры 1796 г. змешчаны 325 пазіцый у 361-м томе. Тут, як і ў вопісе 1709 г., усё яшчэ пераважае тэалагічная літаратура на лацінскай мове, хаця працэнт польскамоўнай літаратуры, асабліва прапаведніцкага характару, значна вырас (такая тэндэнцыя ўвогуле характэрная для кляштарных каталіцкіх бібліятэк у XVIII ст.). Больш за тое, нават ёсць адна кніга, магчыма, напісаная па-беларуску («на простай мове»): «Tractat **po prostu** Grzechy wstrzasajacy» (*вылучэнне маё. — Ю. Л.*).

Як бачым, бібліятэка канвенту менскіх дамініканаў была адносна невялікай і складала ў XVIII ст. усяго некалькі сотняў тамоў (ад 220–230 у 1709 г. да 361-го ў 1796 г.), што можна растлумачыць частымі пажарамі, а таксама наступствамі вайны з Маскоўшчынай у папярэднім стагоддзі. На працягу XVIII ст. фонд бібліятэкі вырас больш чым у паўтары разы і павялічвалася доля кніг свецкага характару. Паколькі многія тытулы з першага вопісу мы сустракаем і ў другім, можна меркаваць, што на працягу XVIII ст. бібліятэка не мела значных стратаў, аднак на цяперашні момант ані ў айчынных, ані ў замежных зборах не ўдалося выявіць ніводнай кнігі, якая мела б правененцыі бібліятэкі менскіх дамініканаў. Верагодна, пасля скасавання кляштара ў 1832 г. бібліятэка была цалкам знішчана царскімі ўладамі.

І напачатку, і напрыканцы XVIII ст., безумоўна, дамінавала літаратура багаслоўская, у якой можна вылучыць працы па агульнай, дагматычнай, маральнай і спірытуальнай тэалогіі, апалагетыцы, гамілетыцы, экзегетыцы. Дзівіць малая колькасць выданняў біблейскіх кніг, якія нават не вылучаны ў асобны раздзел, — надзвычай рэдкая з'ява для кляштарных бібліятэк.

Сярод аўтараў бібліятэчных твораў пераважаюць дамініканe, хоць можна сустрэць таксама імёны езуітаў, кармэлітаў, піяраў. Асаблівай пашанай карысталіся творы св. Тамаша з Аквіна, пад тытулам якога былі збудаваныя менскі касцёл і кляштар дамініканаў. Вывучэнню яго працаў надавалася шмат увагі: яго кнігі ў вопісе 1709 г. знаходзяцца на першым месцы ў раздзеле «Libri in Octavo», а ў вопісе 1796 г. разам з раздзелам «Libri Theologiae Speculativae» ўвогуле вынесены на першае месца ў рэестры. Ёсць у бібліятэцы творы і іншых папулярных каталіцкіх аўтараў, а таксама — айцоў Касцёла.

Свецкая літаратура прысутнічае ў значна меншай колькасці, чым тэалагічная. У асноўнай масе гэта філасофскія выданні і рукапісы, аднак ёсць пасобныя кнігі і з іншых галінаў ведаў — рыторыкі, гісторыі,

юрыспрудэнцыі. Калі на пачатку XVIII ст. бібліятэка была амаль выключна ўкамплектавана лацінамоўнымі выданнямі і рукапісам (рэдкім выключэннем былі кнігі на польскай і італьянскай мовах), то напрыканцы стагоддзя вырасла колькасць польскамоўнай літаратуры — галоўным чынам за кошт гамілетычных выданняў.

Размяшчэнне кніг у бібліятэцы на пачатку стагоддзя было выключна ўтылітарным: яны расстаўляліся на паліцах згодна са сваім памерам. Паколькі аб'ём фонду быў невялікі, уся бібліятэка магла размясціцца ў адной шафе: адна-дзве паліцы прызначаліся для фаліянтаў і мелі большую вышыню; астатнія маглі знаходзіцца на меншай адлегласці адна ад адной, што ашчаджала месца.

Відаць, у 2-й палове XVIII ст. было праведзена пэўнае рэфармаванне бібліятэкі, а кнігі, рассартаваныя паводле раздзелаў, адпаведным чынам расстаўленыя на паліцах. Такім чынам, у 1796 г. з'явіліся пачаткі бібліяграфічнай сістэматызацыі паводле галіны ведаў, аднак галіновыя раздзелы ўводзіліся толькі для найбольш істотных масіваў кніг. Зрэшты, і гэта было ўжо досыць прагрэсіўным, бо ў некаторых іншых дамініканскіх канвентах на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага (напрыклад, у наваградскім) падобнае дзяленне адсутнічала нават у 1796 годзе. Разам тым у некаторых іншых законах (напрыклад, у езуіцкім) на той час ужо не першае дзесяцігоддзе карысталіся такога роду сістэмай расстаноўкі.

Да слова, ужо на пачатку XIX стагоддзя, пры а. Сіпайлу (і, відаць, падчас чарговай візітацыі), бібліятэка была яшчэ раз падзелена сістэматычна і расстаўлена ў шафах паводле новага парадку: кожнаму раздзелу была прысвоена адпаведная літара, а кнізе — парадкавы нумар. Такім чынам, цяпер кожны паасобнік павінен быў мець на «спінцы» ўверсе цэтлік з літарай раздзела, а ўнізе — са сваім нумарам. Новы парадак расстаноўкі быў зафіксаваны ў адмыслова складзеным рээстры, на якім ставіліся подпіс і пячатка візітатара.[4]

Форма запісу кнігі ў бібліятэчным інвентары паступова, трансфармуючыся цягам стагоддзя, набывала больш развітую форму. Напачатку бібліяграфічны запіс складаўся з назвы твора і прозвішча аўтара; у пазначэнні рукапісных кніг дапісвалася, што гэта манускрыпт. Напрыканцы стагоддзя апісанне паасобнага выдання дапоўнілася ўказаннем фармату, колькасці кніг (у значэнні «частка твора»), а таксама — тамоў.

Назвы кніг зазвычай не запісваліся цалкам — часцей была або скарочаная назва, або тэма твора. У выпадку найбольш вядомых кніг загаловак мог увогуле не ўказвацца. Парадак напісання імя аўтара і тытулу твора залежаў ад парадку іх размяшчэння на тытульным аркушы. Калі тытульнага аркуша не было, пісальнік занатоўваў, што кніга «sine principio» («без пачатку»), «sine principio et fine» («без пачатку і канца») і да т. п. У 1796 г. складальнік інвентара пры адсутнасці звестак пра аўтарства адзначаў, што гэта твор «Authore ignoto» (невядомага аўтара). Польскія і лацінскія назвы запісваліся ў арыгінале; творы на замежных мовах запісваліся на лаціне, але пры гэтым пазначалася, што кніга «італьянская» або што яна напісана «італьянскай моваю».

Бібліятэка менскіх дамініканаў доўга захоўвала характэрныя для кнігазбораў гэтага закону рысы (лацінамоўнасць, камплектаванне фонду пераважна творамі дамініканскіх аўтараў і да т.п.). Тым не менш, бліжэй да канца XVIII ст. яна паступова пачала набліжацца паводле свайго складу да іншых кляштарных кніжніцаў, папаўняючыся польскамоўнай прапаведніцкай і свецкай літаратурай.

---

[1] НГАБ. Ф. 1781, воп.27, спр. 349, арк. 8–8 адв.
[2] НГАБ. Ф. 1781, воп.32, спр. 186, арк. 2–7 адв.
[3] Відаць, гэта быў зборнік, у якім змяшчаліся некалькі палемічных твораў Тэртуліяна, і ў першым вопісе ён фігураваў пад назвай «Contra persecutores Ecclesiae». Арыгінальны твор пісьменніка называецца «Adversus (а не «contra») Marcionem»; гэта сведчыць пра тое, што пісальнік не імкнуўся занатаваць у рэестры тытулы кніг даслоўна, а толькі перадаваў агульны сэнс назвы.
[4] НГАБ. Ф. 1781, воп.27, спр. 349, арк. 10 адв. — 11.

## CONTENTS

Article «The New Evangelization for the Transmission of the Christian Faith» by Archbishop Tadeusz Kondrusiewicz opens this issue of "Our Faith". It focuses on the 13th Ordinary General Assembly of the Synod of Bishops, which took place in Rome from October 7-28, 2012 (p. 2-7).

«The Responsibility of the Catholic Media» is the title of the material by fr.Andrzej Koprowski SJ, the director of Vatican Radio. It focuses on the contemporary challenges facing the Catholic radio stations (the report was made at the First Congress of Catholic media in Grodno) (p. 8-10).

We print some excerpts from the «Diary» of the Blessed Fr. Michal Sopocko and article about him written by fr. G. Ciereszko translated from Polish by Y. Chaplinskaya (p. 11-13).

In column «Faith and Socium» father P. Rudkouski offers article entitled «The Participation of the Church in Public Life - Obligation or Opportunity?» (p. 14-15).

The publication of art critic V. Buival «Jacopo Bassano. The Flight into Egypt» tells the readers of a masterpiece of the great Italian artist (p. 16-17).

We finish the publication of «Following Christ» by Thomas a Kempis translated by S. Grynkevich (p. 18-19).

Article by M. Skobla «The Knight of Smiles» is dedicated to the publication of the book of poems by priest and poet Jan Twardowski translated from Polish (p. 20-21).

Candidate of historical sciences A. Shymak in her summary tells the readers about new book by U. Vaskou «The Catholics in the Lower Reachest and Severshchina: the History of Gomel Deanery», prepared by the publishing house «Pro Christo» (p. 22-33).

Father Jan Kuczynski (Grodno) in his article-monologue tells the readers «About the Restoration of the Shrine and Human Souls...» (p. 24-28).

Arkadz Shpunt proposes his article about film produced by V. Aslyuk «Wooden People», which received the Grand Prix at the International Catholic Festival of Christian films and TV programs «Magnificat-2012» (p. 29-31).

Candidate of Philology E. Lavonava in her article «The Concept «Angel» in the Artistic View of the World» talks about the appeal of the image of an angel (p. 32-35).

In column «Poetry» we publish poems of Belarusian poets L. Silnova, V. Vabishchevich and A. Brusevich (p. 36-41).

Writer U. Siuchykau offers the readers his new prose entitled «From Night Notes and Facetiae» (p. 42-45).

Articles by the national poet of Belarus N. Gilevich («Alena Syamyonauna»), literary critic Y. Yanushkevich («Three Quarters of Life») and one of the oldest Belarusian researchers U. Sodal («Dear Listsyanyatka») are dedicated to the anniversaries of famous Belarusian writers A. Vasilevich and D. Bichel. We also publish selected poems by Danuta Bichel (p. 46-53).

Art critic V. Buival in his essay «Colors of Happiness» tells the readers about talented artist V. Ilyina and her works (p. 54).

«Madonna of Stalingrad» is the title of article by historian Andrey Shpunt, which focuses on the unusual work of art by Kurt Reuber (p. 55-57).

Researcher of literature A. Trafimchyk offers the readers article «Belarusian Christmas Drama for Children» (p. 58-61).

I. Marozau in article «God's Program for the Development of the Universe» reflects on the mysteries of the universe (p. 62-66).

Article by researcher of the National History Museum Y. Lauryk is dedicated to the book collection of the Minsk Dominican Convent (p. 67-71).

## RESÜMEE

Diese Nummer der Zeitschrift beginnt mit dem Artikel von Erzbischof Tadeusz Kondrusiewicz „Die neue Evangelisierung zur Vermittlung des christlichen Glaubens", in dem über die XIII. ordentliche Generalversammlung der Bischofssynode berichtet wird, die in Rom vom 7. bis zum 28.Oktober 2012 stattfand (S. 2-7).

„Die Verantwortung der katholischen Massenmedien" heißt der Artikel des Direktors von „Radio Vatikan" Andrzej Koprowski, in dem über gegenwärtige Herausforderungen berichtet wird, vor denen die katholischen Rundfunksender stehen (der Vortrag wurde während des Ersten Kongresses der katholischen Massenmedien in Grodna gehalten) (S. 8-10).

Veröffentlicht sind Auszüge aus dem „Tagebuch" des seligen Priesters Michal Sapozka und der ihm gewidmete Artikel des Priesters G. Zjareshka in der belarussischen Übersetzung aus dem Polnischen von J. Tschaplinskaja (S. 11-13).

In der Rubrik „Glaube und Gesellschaft" bietet Priester P. Rudkouski den LeserInnen den Artikel „Teilnahme der Katholischen Kirche am öffentlichen Leben – Pflicht oder Möglichkeit?" (S. 14-15).

Im Artikel des Kunstwissenschaftlers W. Bujwal „Jacopo Bassano. Die Flucht nach Ägypten" wird über das Meisterwerk des großen italienischen Meisters berichtet (S. 16-17).

Veröffentlicht ist der Abschluss des von St. Grynkewitsch übersetzten Werkes von Thomas von Kempen „Nachfolge Christi" (S. 18-19).

Der Veröffentlichung des Buches, das aus dem Polnischen übersetzte Gedichte von Priester und Dichter Jan Twardouski enthält, ist der Artikel von M. Skobla „Träger des Ordens des Lächelns" gewidmet (S. 20-21).

Mit dem neuen Buch, das im Verlag „Pro Christo" vorbereitet wurde? Monographie von U.Wasjkow „Katholiken im Raum Panisouje und Sewerschtschyna: Geschichte des Dekanats Gomel" – beschäftigt sich in ihrer Zusammenfassung die Kandidatin der Geschichtswissenschaften A. Schimak (S. 22-23).

„Über die Restaurierung des Heiligtums und der menschlichen Seelen…" erzählt Priester Jan Kutschynski (Grodna) in seinem priesterlichen Artikel-Monolog (S. 24-28).

Über den Film von W. Asljuk „Das hölzerne Volk", der während des Internationalen katholischen Festivals christlicher Filme und Fernsehprogramme „Magnificat-2012" den Hauptpreis erhalten hat, wird im Artikel von Arkadzj Spunt erzählt (S. 29-31).

Die Kandidatin der philologischen Wissenschaften J. Ljawonawa reflektiert im Artikel „Das Konzept „Engel" in der künstlerischen Darstellung der Welt" über die Anziehungskraft der Gestalt des Engels (S. 32-35).

Die Rubrik „Poesie" enthält Gedichte der belarussischen Poetinnen und Poeten L. Silnowa, W. Wabischtschewitsch und A. Brusewitsch (S. 36-41).

Der Schriftsteller U. Siutschykau präsentiert den LeserInnen seine neuen Prosawerke unter dem Titel „Aus nächtlichen Aufzeichnungen" (S. 42-45).

Den Jubiläen der bekannten belarussischen Schriftstellerinnen A. Wasilewitsch und D. Bitschel gewidmet sind die Artikel des Volkspoeten von Belarus N. Gilewitsch („Alena Sjamenauna"), des Literaturwissenschaftlers J. Januschkewitsch („Drei Quadren Leben") und eines der ältesten belarussischen Forscher U. Sodal („Das liebe Brieflein"). Hier sind auch ausgewählte Gedichte von Danuta Bitschel veröffentlicht (S. 46-53).

Über die talentierte Malerin W. Iljina und ihre Werke wird im Essay des Kunstwissenschaftlers W. Bujwal „Die Farben des Glücks" erzählt (S. 54).

„Die Stalingradmadonna" heißt der Artikel des Historikers Andrej Spunt, in dem über das ungewöhnliche Kunstwerk von Kurt Reuber erzählt wird (S. 55-57).

Die Literaturforscherin A. Trafimtschyk bietet den LeserInnen den Artikel „Belarussische Weihnachtsdramaturgie für Kinder" (S. 58-61).

I. Marosau reflektiert im Artikel „Über das Weltentwicklungsprogramm Gottes" über die Geheimnisse der Ordnung der Welt (S. 62-66).

Den Büchersammlungen des Mensker Dominikanerkonventes ist der Artikel des wissenschaftlichen Mitarbeiters des Nationalen Museums für Geschichte J. Lauruk gewidmet (S. 67-71).

## PODSUMOWANIE

Ostatni tegoroczny numer czasopisma rozpoczyna się artykułem arcybiskupa Tadeusza Kondrusiewicza „Nowa ewangelizacja dla przekazu wiary chrześcijańskiej", w którym jest mowa o XIII Zgromadzeniu Ogólnym Synodu Biskupów, który odbył się w Rzymie w dniach 7-28 października 2012 (s. 2-7).

„Odpowiedzialność katolickich środków masowego przekazu" – tak zatytułowany jest materiał dyrektora Radia Watykańskiego ks.Andrzeja Koprowskiego SJ, w którym autor opowiada o współczesnych wyzwaniach, które stoją przed katolickimi rozgłośniami radiowymi (wykład został wygłoszony na Pierwszym Kongresie Katolickich Środków Masowego Przekazu w Grodnie) (s. 8-10).

Drukujemy również fragmenty z „Dziennika" błogosławionego ks. Michała Sopoćki i artykuł o nim autorstwa ks. H. Ciareszki, który z języka polskiego przetłumaczyła J. Czaplińska (s. 11-13).

W kolumnie „Wiara i społeczeństwo" o. P. Rudkouski OP proponuje czytelnikom artykuł pod tytułem „Udział Kościoła w życiu społecznym – obowiązek czy możliwość?" (s. 14-15).

W publikacji znawcy sztuki Waleryia Bujwała „Jacopo Bassano. Ucieczka do Egiptu" jest mowa o arcydziele wielkiego włoskiego artysty (s. 16-17).

Proponujemy również zakończenie przekładu dzieła Tomasza a Kempis „O naśladowaniu Chrystusa", w przekładzie Stanisława Grynkiewicza (s. 18-19).

Wydaniu książki z tłumaczeniami z języka polskiego wierszy księdza i poety Jana Twardowskiego poświęcony jest artykuł M. Skobły „Kawaler Orderu Uśmiechu" (s. 20-21).

O nowej książce, przygotowanej przez wydawnictwo „Pro Christo" – monografia U.Waśkowa „Katolicy na terenach Panizowja i Siewierszczyny: Historia Homelskiego dekanatu" jest mowa w adnotacji doktora nauk historycznych A. Szymak (s. 22-23).

„O odbudowie świątyni i dusz ludzkich…" opisuje w swoim kapłańskim artykule-monologu ks. Jan Kuczyński (Grodno) (s. 24-28).

O filmie W.Asliuka „Drewniany naród", który otrzymał grand-prix na Międzynarodowym katolickim festiwalu filmów chrześcijańskich i programów telewizyjnych „Magnificat-2012", opowiada w swoim artykule Arkadź Szpunt (s. 29-31).

Doktor nauk filozoficznych E. Liawonowa w artykule „Koncept 'anioł' w artystycznym obrazie świata" rozważa o przyciągającym obrazie anioła (s. 32-35).

W rubryce „Poezja" drukujemy wiersze białoruskich poetów Ł. Silnowej, W. Wabiszczewicza i A. Brusiewicza (s. 36-41).

Pisarz U. Siuczykau proponuje czytelnikom swoje nowe prozaiczne utwory pod nazwą „Z nocnych notatek i facecji" (s. 42-45).

Jubileuszowi znanych białoruskich pisarek A.Wasilewicz i D.Biczel poświęcony jest artykuł białoruskiego narodowego poety N. Gilewicza („Alena Siamionauna"), literaturoznawcy J. Januszkiewicza („Trzy kwadry życia) i jednego ze starszych białoruskich badaczy U. Sodalia („Drogi listeczek"). W tym miejscu także drukujemy wybrane wiersze Danuty Biczel (s. 46-53).

O utalentowanej artystce W. Iljinie i jej utworach opowiada w eseju „Kolory szczęścia" znawca sztuki W. Bujwał (s. 54).

„Stalingradzka Madonna" – tak zatytułowany jest artykuł historyka Andreja Szpunta, w którym przedstawia niezwykłe dzieło sztuki Kurta Reubera (s. 55-57).

Badacz literatury A.Trafimczyk proponuje czytelnikom artykuł „Białoruska kolędowa dramaturgia dla dzieci" (s. 58-61).

I. Marozau w artykule „O Bożym programie rozwoju wszechświata" rozważa o tajemnicy stworzenia świata (s. 62-66).

Księgozbiorowi Mienskiego konwentu dominikanów poświęcony jest artykuł pracownika naukowego Narodowego Muzeum Historycznego J. Łauryka (s. 67-71).

## SOMMARIO

Il presente numero della rivista inizia con l'articolo dell'arcivescovo Tadewusz Kandrusievicz "Una nuova evangelizzazione per trasmettere la fede cristiana", nel quale si racconta del XIII Sinodo Ordinario dei Vescovi svoltosi a Roma nei giorni 7-28 ottobre 2012 (p. 2-7).

Il materiale preparato dal Direttore della Radio Vaticana Andrzej Koprowski si chiama «La responsabilità dei mass media cattolici» e racconta delle sfide del nostro tempo che sorgono davanti alle stazioni radio cattoliche (la relazione è stata presentata al I Convegno dei Mass Media Cattolici a Grodno) (p. 8-10).

Si pubblicano i brani del «Diario» del benedetto Mikhail Sapozka, sacerdote, e l'articolo del prete G.Ziareška, tradotto dal polacco da M.Czaplinska (p. 11-13).

Sotto la rubrica "Fede e società" il padre P. Rudkovski propone ai lettori l'articolo intitolato "Partecipazione della Chiesa Cattolica alla vita sociale è un obbligo oppure una possibilità?" (p. 14-15).

Nella pubblicazione di Valery Bujval "Jacopo Bassano. La fuga in Egitto" si racconta del capolavoro del grande pittore italiano (p. 16-17).

Si pubblica ultima parte del saggio di Tommaso da Kempis l'*Imitazione di Cristo*, tradotta da Stanislau Grynkevič (p. 18-19).

L'articolo di M.Skobla "Il Cavaliere dell'Ordine del Sorriso" è dedicato all'uscita dalla tipografia del libro di poesie del parroco e del poeta Jan Twardowski, tradotte dal polacco (p. 20-21).

Nell'annotazione del Dottore di ricerca in storia A.Šymak si racconta del nuovo libro preparato alle stampe nella Casa Editrice "Pro Christo": la monografia di U. Vaskov "I cattolici nella zona di Panisoue e Severščyna: Storia del Decanato di Gomel" (p. 22-23).

Il parroco Jan Kuczunski (Grodna) nel suo articolo-monologo sacerdotale racconta "Del restauro del santuario e delle anime umane…" (p. 24-28).

Arkadz Špunt ha dedicato il suo articolo al film di Viktor Asliuk "Il popolo in legno", premiato di Gran Premio al Festival Cattolico Internazionale dei film e delle trasmissioni televisive cristiane «Magnificat-2012» (p. 29-31).

La Dottoressa di ricerca E. Liavonava nell'articolo "Il concetto dell' "angelo" nel quadro artistico del mondo" riflette sul fascino dell'immagine dell'angelo (p. 32-35).

Nella rubrica *Poesia* si pubblicano i versi dei poeti bielorussi L. Silnova, V. Vabiščevič e A. Brusevič (p. 36-41).

Lo scrittore U. Siucykau propone ai lettori i nuovi racconti riuniti sotto il titolo "Dagli appunti notturni e facezie" (p. 42-45).

Agli anniversari delle famose scrittrici bielorusse A. Vasilevič e D. Bicel sono dedicati gli articoli dell'insignito del titolo "Poeta del Popolo Bielorusso" N. Ghilevič ("Alena Siamionauna"), del critico letterario J. Januškevič ("Tre quarti della vita") e di uno dei ricercatori bielorussi più anziani U. Sodal ("Caro volpino") ai quali segue la raccolta di poesie di Danul Bicel (p. 46-53).

Il saggio del critico d'arte V. Buyval "I colori di felicità" racconta di V.Il'ina, una pittrice dotata di talento, e delle sue opere (p. 54).

L'articolo dello storico Arkadz Špunt si chiama «La Madonna di Stalingrado» e racconta di un'insolita opera pittorica di Kurt Roiber (p. 55-57).

Lo studioso di letteratura A.Trafimčyk offre ai lettori l'articolo "La drammaturgia per bambini dedicata al Natale" (p. 58-61).

I. Marosau nell'articolo "Sul piano divino dell'evoluzione dell'universo" riflette sui misteri della costruzione dell'Universo (p. 62-66).

L'articolo del collaboratore scientifico del Museo Nazionale della Storia J.Lauryk è dedicato alle biblioteche del Convegno dei dominicani a Minsk (p. 67-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — благаслаўлёны ксёндз Міхал Сапоцька. Мастак Фелікс Янушкевіч.

*Часопіс «**НАША ВЕРА**», № 4 (62)/2012.*

*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*

*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*

*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*

*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*

*Падпісаны да друку 04.12.2012 г. Фармат 60х84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 300 экз. Зак № 1420.*

*Надрукавана ў друкарні ООО «Юстмаж»ЛП № 02330/0552734 ад 31.12.2009.*

*Вул. Каліноўскага, д 6, Г4/К, пакой 201. 220103 г. Мінск.*

# *Колеры шчасця*

## Творы гарадзенскай мастачкі Вікторыі Ільіной



Дом у святле месяца.
89х116, палатно, алей, 2012 г.



Ноч.
89х116, палатно, алей, 2012 г.



Хата сярод бярозаў.
81х100, палатно, алей, 2012 г.



Адрэстаўраваны пасля пажару
галоўны алтар гродзенскаага катэдральнага касцёла
святога Францішка Ксавэрыя.